# ДЭПУТАТЫ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

СЯРГЕЙ НАВУМЧЫК ЗЯНОН ПАЗЬНЯК



20 ГОД НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ
(25 ЖНІЎНЯ 1991 – 25 ЖНІЎНЯ 2011)

# ДА ХХ-й ГАДАВІНЫ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

(25 жнўня 1991 – 25 жніўня 2011)

УДК 323 1(И76) (091)
Н15




*На вокладцы кінакадр з 24 жніўня 1991 года ў Вярхоўным Савеце. Старшыня Апазыцыі БНФ З. Пазьняк ставіць пытаньне аб зьняцьці М. Дземянцея з пасады Старшыні ВС. Побач Валянцін Голубеў і Вольга Галубавіч (са Сьцягам).*

---

**ISBN 978-9955-578-11-6**
Код: 9789955578116

# ДЭПУТАТЫ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

## (ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ)

*Цікава часам разьвіваюцца ідэі і разгортваецца творчасьць. Кажуць, галоўнае пачаць, а там знойдзецца. Яшчэ ў 2008 годзе на Дзень незалежнасьці ў жніўні падумалася, што трэба выдаць плякат ці каляндар у фармаце А-3 з выявамі ўсіх нашых дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня, што дамагліся Незалежнасьці Беларусі. Калі пачаў працаваць над плякатам, стала цесна ад матэрыялу і ад задумак у галаве. Вырашыў, што будзе буклет. Калі пачаў працаваць над буклетам, стала яшчэ цясьней. Нарадзілася ідэя: кніжка-буклет. Вырашыў, што добра пасуюць там некаторыя артыкулы, напісаныя мной раней, ды каб уключыць туды артыкулы іншых дэпутатаў.*

*Дамовіліся з Сяргеем Навумчыкам. Сяргей Навумчык падрыхтаваў цэлую сэрыю. Які тут ужо буклет? Робім кніжку, зручную падарожную А-6. Але й кніжка пачала расьці (таўсьцець, значыцца). А гэта вядомы сімптом. Таўшчыня пераходзіць у шырыню – А-5, А-4.., шырыня (зноў жа) пачынае грубець, потым множыцца – ў том 1, 2, 3... і, урэшце,.. ужо калі што тое зьявіцца. Таму здаровы сэнс сказаў спыніцца на падарожнай кніжцы, хоць і сама тэма, і матэрыял заслугоўваюць якраз на большае, на вельмі вялікае. Мы ж выпускаем малую ластаўку. Да 20-годдзя Незалежнасьці Беларусі. Няхай яна пырнясе ад мора пагоду.*

* * *

*Матэрыялы, выбраныя для гэтай кніжкі, – гэта артыкулы і інтэрв'ю, напісаныя двума аўтарамі ў розны час на адну тэму і пра адны і тыя ж падзеі. Таму, натуральна, што адны і тыя ж факты пададзены тут неаднаразова, з розных бакоў, пад розным кутом погляду, часам у залежнасьці ад пастаноўкі пытаньняў і іхнага асэнсаваньня. Паўторы фактаў тут непазьбежныя і ня сьведчаць пра няўважлівасьць тых, хто пісаў. Гэта натуральны падыход, які адлюстроўвае плынь часу. Тут мусіць адбівацца асабістае бачаньне адзінага сэнсу, бо кожны мае сваё адчуваньне жыцьця. І гэта, як я ўспрамаю, выяўляе яго паўней.*

## СЬВЕТЛАЯ РАНІЦА АЛЬБО ПАЧАТАК НЯРОЎНАГА ЗМАГАНЬНЯ

Травень 1990 г. Сьвежая сонечная раніца. Першы дзень 1-й сэсіі Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня. Я выйшаў з тралейбуса №3, які спыніўся каля Інстытута Народнай гаспадаркі, і паглядзеў на плошчу перад Чырвоным касьцёлам і Вярхоўным Саветам. У розных канцах плошчы кучкавалася шмат людзей, былі відаць нашыя жанчыны з Народнага Фронту з кветкамі ў руках і шмат незнаёмых менчан. Дзе-нідзе, перасякаючы плошчу, сьпяшаліся нешматлікія дэпутаты-франтаўцы. Іх спатыкалі воплескамі і воклічамі „Жыве Беларусь!”, абдымалі, дарылі кветкі, мільгалі бел-чырвона-белыя сьцяжкі. Калі я падышоў бліжэй, пачалі пляскаць у далоні, паднесьлі букеты. Нейкія незнаёмыя пажылыя жанчыны плакалі ад узрушэньня. „Сыночкі, змагайцеся, рабеце; памагай, Божа; жыве Беларусь!”

– даносілася ад гэтых простых людзей.

Шчыра кажучы, я нават не чакаў такога, што людзі стыхійна нас сустрэнуць. У Фронце з гэтай нагоды нічога не плянавалася. Але ж прышлі. Усё гэта мяне ня проста ўзрушыла, але глыбока запала ў душу. Гэтыя вочы, поўныя спагады, веры і надзеі... Я неяк адразу зразумеў: што б мы ні рабілі, мы мусім глядзець у гэтыя вочы і працаваць трэба так, каб адкрыта глядзець і не адвесьці пагляд, каб ня стала пакутліва сорамна за неапраўданьне надзей.



*5. 1990 год. На плошчы Незалежнасьці.*

Памятаю, што ў першыя ж дні (выбары ворганаў кіраваньня, камісіяў, прыняцьцё рэгляманту) дэпутаты-фронтаўцы сваёй актыўнасьцю, дасьведчанасьцю, уменьнем лягічна думаць, гаварыць, нязмушана трымацца ашаламілі прывыклых да субардынацыйнай руціны дэпутатаў-камуністаў (а іх была трохсотная маса і ў асноўным партыйная намэнклятура). На нейкі момант яны нават разгубіліся, пераацанілі нашыя магчымасьці (магчыма забыўшыся, што ў парляманце вырашае „колькасьць”). Напачатку яны, сапраўды, нават не змаглі з’арыетавацца колькі нас („ты смотрі сколько іх”, – казаў нейкі камуністычны голас за маімі плячыма).

Яраснае змаганьне пачалося за пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета. ЦК КПБ рэкамендавала бесхрыбетнага, але цалкам адданага партыйнай субардынацыі і звыкла кіруемага намэнклятуршчыка Мікалая Дземянцея. Мы прапанавалі Станіслава Шушкевіча, кампрамісную асобу, якая (калі б не

было кандыдатуры ЦК КПБ) камуністаў магла б задаволіць. Тут мы адразу зразумелі парляманцкую тактыку мяншыні па расьцягваньню галасоў, па выстаўленьні шматлікіх кандыдатаў (скажам, на аднаго з кандыдатаў мы ўгаварылі тады дэпутата-касманаўта У. Кавалёнка), па стварэньні псіхалягічнага ціску ў залі і г. д. Мы не зьбіраліся даваць сябе растаптаць ўсёй гэтай гіганцкай камуністычнай масе.

Маю кандыдатуру мы рашылі не выстаўляць, каб не спрашчаць схему змаганьня ў заведама пройгрышную, бо ў камуністычным Вярхоўным Савеце кандыдатура антыкамуніста не магла прайсьці, але затое магла згуртаваць камуністаў у пазыцыі „супраць" – намёртва. Тут патрэбна была іншая тактыка.

У выніку (сабраўшы таксама тасячы фронтаўцаў пад сьцены парляманту дзеля маральнай падтрымкі) мы ўцягнулі камуністычную бальшыню ў перамовы, і яны пагадзіліся на „палавіністую" (кампрамісную) асобу С. Шушкевіча, якога (пасьля выбраньня імі Дземянцея) мы прапанавалі на пасаду першага намесьніка старшыні як згодную фігуру. Справа у тым, што асоба прапанаваная камуністамі, выклікала пэўныя разыходжаньні ў іхным „лягеры" і мы гэта скарысталі.

Улічваючы, што ў выніку нашай актыўнасьці камуністы крыху заблыталіся ў падзеях і пераацанілі нашыя сілы (і вакол нас), выбраньне С. Шушкевіча на намесьніка сьпікера было фармальна нашым пераможным дасягненьнем, шмат хто з нашага асяроддзя яшчэ спадзяваўся на яго. Нажаль, Станіслаў Станіслававіч на ўвесь час так і застаўся палавіністым палітыкам (прытым большая яго палова, як выявілася потым, была не за нас). Шкоды Беларусі, Народнаму Фронту і самому сабе ён нарабіў столькі ж, колькі і карысьці, а мо' і больш. Кампраміс –

дрэнная справа, і толькі ўсьведамляючы, што магло быць значна горш, і нават зусім кепска, пачынаеш у розуме пагаджацца на абгрунтаванасьць такога кроку.

Далейшыя спробы дамовіцца з намэнклятурай у час выбараў старшыняў камісіяў вялікага посьпеху ня мелі. Мы адстаялі толькі старшыню Камісіі па замежных справах (Пятра Садоўскага). Камуністы адышлі ад першага перапалоху і ўсьвядомілі сваю колькасную перавагу. Тады, ужо ў траўні, у нас узьнікла ідэя злучыць усіх больш-менш нязгодных з намэнклятурай дэпутатаў на аснове платформы Народнага Фронту. Зьбіраліся шмат разоў у розных месцах (найбольш у Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце), прыходзіла часам каля сотні дэпутатаў, але нічога не атрымлівалася. Большая палова тых, што прыходзілі, – трымалі партбілет у кішэні (у камуністаў гэта быў тады галоўны дакумант) і самы не разумелі, чаго яны хочуць, ня мелі выразнай пазыцыі, ня думалі пра пэрспэктыву. Таму дыскусіі былі пастаянныя, меркаваньні разьбягаліся ў розныя бакі. Праз тыдзень бясплённых спрэчак стала зразумела, што тут поўны тупік – вельмі розныя ўзроўні. Выхад са становішча падказаў мне Генадзь Грушавы (тады наш актыўны фронтавец). Ён прапанаваў з усяго гэтага агулу аформіць Дэмакратычны дэпутацкі клюб (бо фракцыя не атрымаецца), а нам, фронтаўцам, стварыць фракцыю БНФ і ўвайсьці ў клюб інтэгральнай часткай.

Абмеркаваўшы гэта з калегамі-фронтаўцамі, мы на тым і пагадзіліся. На чарговай зборцы дыскутантаў я прапанаваў усім стварыць дэпутацкі Дэмакратычны клюб, і нават парэкамендаваў у кіраўніцтва дэмклюбу С. Шушкевіча (каб яны менш перашкаджалі, бо Шушкевіч працаваць ня будзе). Дыскутанты радасна ўздыхнулі і з энтузіязмам пагадзіліся.

# СТВАРЭНЬНЕ ДЭПУТАЦКАЙ АПАЗЫЦЫІ БНФ

У пачатку чэрвеня дэпутаты ад БНФ і тыя, што далучыліся да нас ужо ў парляманце, сабраліся ў Чырвоным Касьцёле (там быў тады Дом кіно) на арганізацыйны сход фракцыі БНФ. Фракцыя была створана ў колькасьці 27 дэпутатаў і называлася ***Дэпутацкая група БНФ***.

Кіраўніком фракцыі выбралі мяне, намесьнікамі Уладзімера Заблоцкага і Алега Трусава, каардынатарамі – Сяргея Навумчыка, Валянціна Голубева і Лявона Баршчэўскага; сакратаром – Уладзімера Новіка. Выбралі на ўсялякі выпадак нават скарбніка (Юры Беленькі) і Рэвізійную камісію (Галіна Сямдзянава старшыня, Віктар Аляксандр, Віталь Малашка). Але гэтыя органы не спатрэбіліся, бо фінансаў Апазыцыя ня мела і ніякіх фінансавых справаў не вяла.

Нейкі час ДГ БНФ дзейнічала без рэгістрацыі. Тым часам адносіны ў Вярхоўным Савеце пачалі накаляцца да мяжы цярпеньня. Камуністы па прывычцы напралом імкнуліся праводзіць сваю намэнклятурную прамаскоўскую палітыку, ня лічачыся ні з чым, але дэмагагічна не стамляліся пры гэтым казаць пра агульныя інтарэсы (у іхным разуменьні), пастаянна заклікалі „не раскачивать лодку” і г. д.

У сярэдзіне ліпеня стала зразумела, што трэба афіцыйна прадэманстраваць і зафіксаваць антыкамуністычную пазыцыю і ўступіць у адкрытае змаганьне з парляманцкай камуністычнай большасьцю. 16 ліпеня фракцыя Народнага Фронту аб’явіла сябе Апазыцыяй. Была зачытана заява і распаўсюджана на сэсіі. Пры гэтым заяву аб Апазыцыі падпісалі яшчэ 15 дэпутатаў з Дэмакратычнага клюбу, менавіта: Аляксандар Сасноў, Леанід Зьвераў, Яўген Цумараў, Станіслаў Бабачонак, Аляксандар

Паруль, Васіль Шачак, Валеры Зяленін, Іван Сямашка, Міхаіл Сукач, Аляксей Канцэвіч, Генадзь Майсееў, Валеры Сярдзюк, Алесь Шут, Ігар Пырх, Павел Холад.

Гэтыя дэпутаты, як правіла, падпісвалі заявы, звароты, мэмарандумы і іншыя дакуманты Апазыцыі БНФ, а таксама галасавалі за прапановы, дакуманты і праекты Апазыцыі Фронта. Яны, аднак, па розных прычынах, не прымалі сталага ўдзелу ў працы Апазыцыі, не рыхтавалі праектаў дакумантаў, ня ўдзельнічалі ў іх абмеркаваньні і рэгулярных пасяджэньнях, якія адбываліся часам па некалькі разоў на дзень: перад пачаткам рабочага дня сэсіі, у вялікім перапынку і ў канцы дня пасьля заканчэньня працы ў залі парляманта. Працы хапала ўсім. На працягу дня часта трэба было нешта ўдакладняць, перамяняць, прымаць нечаканыя рашэньні, рыхтаваць хутка адпаведныя дакуманты, папраўкі, карэктаваць тактыку і г. д.

Інтэнсіўны рэжым, рытм і дысцыпліна прывучалі нас хутка і канкрэтна думаць, імгненна рэагаваць на розныя павароты, вылучаць галоўнае, працаваць з аддачай. Акрамя выпрацоўкі агульнай стратэгіі і тактыкі плян дзеяньняў з разьмеркаваньнем працы па асобах складаўся кожны дзень. Відаць, ня кожны мог працаваць у такім рэжыме. З 15-ці новых падпісантаў у актыўную трыццатку БНФ увайшлі яшчэ трох: ***Аляксандар Шут***, які быў потым выбраны ў Сойм БНФ, кіраваў суполкай БНФ у Лагойску, уваходзіў у Ценявы Кабінет Апазыцыі БНФ (міністар аховы здароўя), потым ***Ігар Пырх***, палкоўнік міліцыі, адзін з кіраўнікоў міліцыі ў Гомлі, трымаў сувязь з гомельскай арганізацыяй БНФ (наколькі дазваляла яму служба і пасада). Крышку пазьней далучыўся ***Павел Холад***. Астатнія падпісанты, акрамя агульнай падтрымкі, часам таксама прыходзілі на паседжаньні Апазыцыі (напрыклад, Яўген Цумараў, Леанід Зьвераў, Станіслаў Бабачонак, Валеры Зяленін,

Аляксандар Сасноў і інш.). Аляксандар Сасноў уваходзіў пазьней у Ценявы Ўрад Апазыцыі БНФ. Дарэчы, той факт, што ў 1994 годзе Сасноў стаў міністрам ва ўрадзе Лукашэнкі, ня ёсьць фактам здрады, а хутчэй вынікам экспэрыменту і тактычнай памылкі. Аднойчы А. Сасноў падышоў да мяне і сказаў, што хацеў бы паспрабаваць нешта ажыцьцявіць з задуманага ва ўрадзе Лукашэнкі, дзе яму прапанавалі пасаду міністра, і што ён прасіў бы, каб я ня быў супраць, што ў яго ёсьць надзея, што нешта ўдасца.

Я сказаў, што абсалютна і катэгарычна ня веру, што яму, інтэлектуалу, „нешта ўдасца" пры гэтай калгаснай асобе, але калі ён хоча мець уласны вопыт тупіка, то я не пярэчу. „З гэтай публікай і замазацца можна", – казаў я тады.

Сасноў не „замазаўся" і, паспрабаваўшы бязвынікова нешта разумнае рабіць, прышоў да высновы, што там, пад кантролем прафанаў, яно немагчыма, і падаў у адстаўку.

Рабочы і палітычны касьцяк Апазыцыі БНФ канчаткова вызначыўся на працягу першых 2-3-х сэсіяў Вярхоўнага Савета. Ад Апазыцыі БНФ адышлі Ўладзімер Грыбанаў, Уладзімер Станкевіч, Уладзімер Новік і Яўген Новікаў.

У. Грыбанаў (маёр савецкай арміі) выступаў нават потым супраць Апазыцыі і Народнага Фронту. У. Станкевіч адышоў, каб ня мець ускладненьняў на працы ў міліцыі. (Потым таксама выказваўся нэгатыўна пра БНФ.) У. Новік пакінуў Апазыцыю з кар'ерных меркаваньняў (прапанавалі пасаду). І, нарэшце, Яўген Новікаў (ён жа Евгений) – цяперашні прыкметны цемрашал у сістэме рэжыму Лукашэнкі – „спаліў" сам сябе, так бы мовячы, „перастараўся" у сваёй ролі. Звычайна ў калектывах ведаюць сваіх „герояў".

Аднойчы сябра Апазыцыі БНФ Я. Новікаў раптам нечакана для ўсіх надрукаваў у газэце ня тое, што нэгатыўны – гнюсны

артыкул пра БНФ. Мы ўсе пачыталі правакацыйны матэрыял, зразумелі скандальную задумку – і нічога не сказалі. Поўная цішыня. Ніякіх заўваг. Евгенія проста перасталі заўважаць, запрашаць на паседжаньні, даваць заданьні і г. д. Ветліва віталіся, маўчалі і ўсьміхаліся. Правакатар сьпёкся беззваротна, абваліўся, як жоўты ліст. Больш у нас асобы такога гатунку не зьяўляліся.

## АТАКА АВАНГАРДУ

Пастаянная група з 27 дэпутатаў, якая склалася ў пачатку (і пасьля адсеву і пасьля дапаўненьня ў працэсе) – гэта той грунт, хрыбет дэпутацкай Апазыцыі БНФ, тая злучаная сіла, якая нястомна працавала і, змагаючыся, пратрывала да самага апошняга дня Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня.

Кожны з гэтых дэпутатаў прынёс сваю долю ў агульную справу і кожны разумеў яе неабходнасьць. У Апазыцыю БНФ уваходзілі: ***Мікола Аксаміт***, ***Віктар Аламліеў***, ***Валянцін Голубеў***, ***Мікола Крыжаноўскі***, ***Сяргей Навумчык***, ***Пётра Садоўскі***, ***Юры Беленькі***, ***Уладзімер Заблоцкі***, ***Ігар Гермянчук***, ***Алег Трусаў***, ***Сяргей Антончык***, ***Мікола Маркевіч***, ***Лявон Бакршчэўскі***, ***Генадзь Грушавы***, ***Барыс Гюнтар***, ***Сяргей Слабчанка***, ***Лявон Дзейка***, ***Лявон Зданевіч***, ***Галіна Сямдзянава***, ***Віктар Какоўка***, ***Сяргей Папкоў***, ***Віталь Малашка***, ***Вольга Галубовіч***, ***Алесь Шут***, ***Ігар Пырх***, ***Павел Холад***, ***Зянон Пазьняк***.

Галоўныя задачы, якія былі пастаўленыя Апазыцыяй БНФ і за якія змагаліся ў 1990 годзе – гэта скасаваньне 6-га артыкула савецкай канстытуцыі БССР аб дзяржаўнай функцыі камуністычнай партыі, абвяшчэньне поўнай праўды пра Чарнобыльскую катастрофу, прыняцце спэцыяльнага


(Фота з друку).

*6. Плошча Леніна (Незалежнасьці) падчас 1-й сэсіі Вярхоўнага Савета БССР.*

заканадаўства пра Чарнобыль і судовае пакараньне функцыянераў КПБ-КПСС за ўтойваньне праўды пра вынікі Чарнобыльскага выбуху. Наступнае – гэта ўзьняцьце пытаньня аб суверэнітэце Беларусі і скасаваньні так званай „саюзнай дамовы" 1922 года аб стварэньні СССР, наданьне гістарычным нацыянальным сымвалам – Бел-Чырвона-Беламу Сьцягу і Гэрбу „Пагоня" статусу дзяржаўных. Адначасна ставілася задача змусіць Вярхоўны Савет і ўрад пачаць эканамічныя пераўтварэньні, адмовіцца ад адміністрацыйнай сістэмы эканомікі, пачаць раздзяржаўліваньне, прыватызацыю і пераход на рынкавыя дачыненьні. Мы ставілі задачу падрыхтаваць заканадаўства і ўвесьці беларускія грошы (талеры). Вялася энэргічная праца па вяртаньні ў Беларусь беларусаў-вайскоўцаў з так званых „гарачых кропак" (зонаў ваенных канфліктаў Савецкага Саюза). Адначасна разгортвалася мэтанакіраваная барацьба з прывілеямі камуністычнай

намэнклятуры, ліквідацыя іхных „спэц-магазінаў", „спэц-пэнсіяў", „спэц-жыльля" і г. д. Беларусаў вельмі раздражняла гэтая сацыяльная каставасьць кіроўных камуністаў. Нашыя дзеяньні мелі поўную падтрымку ў народзе. Вялася інтэнсіўная праца па выяўленьню праўды аб камуністычным генацыдзе і вынішчэньні беларусаў у 1920-1950 гг., рыхтавалася адпаведнае заканадаўства аб ахвярах генацыду і спраўцах масавых забойстваў.

Энтузіязм і напор, зь якім узяліся фронтаўскія дэпутаты за працу, нельга ні з чым параўнаць. Тэзісы законаў, праблемы, задачы абмяркоўвалі хутка, выступалі коратка. Сьціслае рэзюмэ, разьмеркаваньне заданьня – і за працу. Нікога ня трэба было ўгаворваць, пераконваць. Звычайна, падсумаваўшы абмеркаваньне, я пытаўся, хто возьмецца тое ды гэта рабіць. „Я вазьму гэта, я – тое, я зраблю пятае-дзясятае", – чулася ў адказ. Шчыра скажу, хуткасьць і якасьць працы калег мяне ашаламлівала, я віду не паказваў, стараўся быць стрыманым і спакойна казаць па справе, дзякаваць, абмяркоўваць і г. д.

Памятаю, напрыклад, вызначылі палажэньні, якія мусяць быць у законе аб грамадзянстве (у 90-м годзе мы ўсе працавалі з апярэджваньнем, на будучую вольную Беларусь). Пасьля даволі дэталёвага разгляду пытаюся, хто возьмецца пісаць тэкст (па-артыкульную аснову)? „Ну, давайце я вазьмуся, – кажа Лявон Баршчэўскі, – я падрыхтую". Праз дзень ён прыносіць гатовы праект закона, аддрукаваны на машынцы. Прытым выдатна напісаны (заўваг і папраўак было няшмат). Гэтак жа энергічна працавалі ўсе: Юры Беленькі, Уладзімер Заблоцкі, Сяргей Папкоў (фінансы, банкаўская справа, эканоміка), Валянцін Голубеў, Лявонці Зданевіч (зямельнае пытаньне), Алег Трусаў, Галіна Сямдзянава, Мікалай Крыжаноўскі, Сяргей Навумчык (вайсковая справа, інфармацыя, СМІ) і іншыя.

І гэта ў нашай Апазыцыі была звычайная зьява. Дакуманты і праекты законаў пісалі індывідуальна і групамі, абмяркоўвалі і дапрацоўвалі ўсім нашым апазыцыйным калектывам.

## 1990 ГОД. ДЭКЛЯРАЦЫЯ. ДАЛОЎ КАМУНІЗМ!

90-ы год быў надзвычай паказальным для нас усіх. Мы разумелі ня толькі неабходнасьць нашай працы, але і ўбачылі яе плён, адчулі ня раз радасьць перамогі над вялікай коснай масай Вярхоўнага Савета камуністычнай намэнклятуры. Гэта давала ўпэўненасьць і за плячыма – крыльлі. Мы шмат чаго дамагліся ў першы ж год няроўнага парляманцкага змаганьня. Кіроўная роля камуністычнай партыі ў дзяржаве была адменена, партарганізацыі кампартыі выведзеныя з прадпрыемстваў. Праўда пра Чарнобыль, якую падняў Фронт, была публічна афіцыйна засьведчана і заканадаўча абумоўлена дапамогай пацярпелым, парадкам выкарыстаньня зямлі. Была створана камісія па рассьледваньні злачынстваў Чарнобыля, якую ўзначальваў падтрыманы намі дэмакратычны дэпутат Рыгор Вячэрскі. Камісія папрацавала як сьлед, была выяўлена віна і злачынная роля камуністычных кіраўнікоў БССР. Але камуністычны „парлямант" выратаваў іх ад суду, ня даўшы ніякага ходу заключэньням камісіі. Мы тут ужо не змаглі паўзьдзейнічаць на вынікі галасаваньня. Намэнклятура ратавала сваю скуру і бараніла сваіх.

Зазначу, што ў камуністычным Вярхоўным Савеце 12 скліканьня было **345** дэпутатаў, зь іх **27** – дэпутаты Апазыцыі БНФ. І пры гэтым мы йшлі пераможным шляхам. Гэта ўнікальны факт, пра што размова яшчэ наперадзе.

У першыя ж месяцы дзейнасьці Вярхоўнага Савета мы падрыхтавалі фронтаўскую канцэпцыю незалежнасьці Беларусі і паставілі на абмеркаваньне яе Дэклярацыю, якую камуністы дружна завалілі, але вымушаны былі прачытаць і выслухаць мой даклад на гэтую тэму.

Яшчэ праз два месяцы ў рэчышчы гарбачоўскай ідэі абнаўленьня Савецкага Саюза камуністычны Вярхоўны Савет (антынацыянальны па сьветапогляду і паняцьцях бальшыні дэпутатаў) вымушаны быў прыступіць да прыняцьця Дэклярацыі аб суверэнітэце БССР. Намэнклятурныя дэпутаты сабатавалі працу над дэкляpацыяй. (Ім і Гарбачоў быў ні па чым – так ім ненавісна была тая незалежнасьць, і такая ў іх на тое была лянота.) Старшыня камісіі Леанід Козік разгублена зьвярнуўся да мяне (не парлямант – фантасмагорыя!): „Слухайце, дапамажыце хоць вы, ніхто ня хача працаваць” (сам Козік тэкст скласьці ня мог – ведаў не хапала). Тут мы ўжо свой шанц не змарнавалі, пайшлі дружна працаваць у афіцыйную камісію і, практычна, падрыхтавалі новую Дэклярацыю аб незалежнасьці.

Драматычнае змаганьне ў парляманцкай залі доўжылася два дні і скончылася нашай беларускай перамогай. Прытым у апошні момант мы, ведаючы псіхалёгію намэнклятуры, упершыню скарысталі правакацыйны псіхалягічны прыём (дэманстратыўны выхад з залі), які дазволіў накіраваць агрэсіўны настрой камуністычнай бальшыні ў патрэбнае нам рэчышча і прыняць дэклярацыю. (Пра гэта гл. стар. 63, 99–106) Увогуле, тады быў час, калі нам шмат што ўдавалася, і перашкоды падалі, трашчэлі пад нашым напорам.

Нашая канцэпцыя эканамічных пераўтварэньняў краіны, прапанаваная ўвосень 1990-га на Другой сэсіі, была адкінута камуністамі, але мы змусілі ўрад падрыхтаваць і выставіць

свой праект, які ўдалося істотна паправіць у час дыскусіі і які ў прынцыпе мусіў бы стаць першым крокам пераўтварэньняў у Беларусі. (Пазьней урад Кебіча цалкам ігнараваў прынятую канцэпцыю, давёў эканоміку да стагнацыі.)

Апазыцыя Фронту падрыхтавала шэраг законапраектаў па фінансавай сістэме, банках і банкаўскай дзейнасьці. Былі нават зробленыя эскізы талераў, падрыхтавана сацыяльна-гістарычнае абгрунтаваньне іх увядзеньня ў Беларусі (друкавалася ў пэрыядычным друку).

Дэпутаты Фронту дамагліся палажэньня аб вайсковай службе беларусаў на Беларусі, аб вяртаньні вайскоўцаў-беларусаў з зоны савецкіх узброеных канфліктаў. Гэта ўратавала жыцьці і здароўе многім маладым беларусам.




*7. 7 лістапада 1990 г. Менск. Ленінскі праспэкт (Фр… БНФ. На здымку, першы шэраг зь лева на права: У. К… расьцяжка.*

Прывілеі і спэцмагазіны камуністычнай намэнклятуры былі ліквідаваныя. Афіцыйна быў прызнаны факт энкавэдзісцкага зьнішчэньня людзей у Курапатах. Пры Вярхоўным Савеце стварылі адпаведную камісію, а Савет Міністраў нават камень вялізны вымушаны




*анцыска Скарыны). Першая ў СССР масавая антыкамуністычная дэманстрацыя, арганізаваная Новік, З. Пазьняк, Г. Грушавы, С. Антончык. У версе ў кадры гарадзкая афіцыйная савецкая*

быў пакласьці ў Курапатах, з адпаведным надпісам і абяцаньнем паставіць помнік.

Падзеі разьвіваліся вельмі імкліва. 7-га лістапада 1990 г. Фронт арганізаваў у Менску масавую антыкамуністычную




*8. 7 лістапада 1990 г. Антыкамуністычнае шэсьце. Дэманстранты на плошчы Леніна (Незалежнасьці).*

дэманстрацыю з лёзунгам „Далоў камунізм!" і гэпэнінгам у канцы – вяртаньне „дароў" камунізму пад помнік Леніну (калючага дроту, робы „зэка", расстрэльнай мішэні, пудзіла энкавэдзіста, шыбеніцы і г. д.). Дэманстрацыя стала магутным маральным ўдарам па камунізму. Сістэма здрыганулася і


(Фота С. Плыткевіча).

заскрыгатала зубамі, але на вялікія рэпрэсіі не адважылася. Вырашыла адыграцца на адным фронтаўцу – Валеры Сядовым (кінулі яго ў турму). Аднак, праз месяцы змаганьня мы вырвалі яго з Пішчалаўскага замку. У гэтым жа месяцы лістападзе дэпутаты БНФ склікаюць у Менску ІІ-ю канфэрэнцыю па Балта-Чарнаморскай Супольнасьці (***БЧС***) з удзелам дэпутатаў парлямантаў Украіны, Летувы, Латвіі. (І-я канфэрэнцыя БЧС была склікана намі 26 красавіка 1990 г. у Менску і праходзіла ў Чырвоным касьцёле.)

## ВЫЙГРАЛІ БІТВУ ПАД ВОРШАЙ

Красавік 1991 года адзначыўся масавымі пратэстамі рабочых Менска (арганізаваных БНФ, які меў свае суполкі на заводах) супраць антынароднай сацыяльнай палітыкі Масквы і КПСС (павышэньне цэнаў і т. п.).

Выступленьні рабочых Менска напалохалі камуністычную намэнклятуру ў Беларусі. Першы сакратар ЦК КПБ Малафееў зьвярнуўся ў Маскву (у ЦК КПСС) з прапановай увесьці ў


(Фота з Сеціва).

*9. Красавік 1991 г. Плошча Леніна (Незалежнасьці) у Менску. Грандыёзная дэманстрацыя працоўных, арганізаваная БНФ і „Рабочым саюзам Беларусі" (які быў пад уплывам БНФ).*

СССР надзвычайнае становішча. М. Гарбачоў не адгукнуўся на вернападданы сігнал зь Менска. Тады ў ЦК КПБ вырашылі ажыцьцявіць гэтую ідэю ў Беларусі. Там падрыхтавалі і падалі ў Вярхоўны Савет тры законапраекты: аб пасадзе прэзыдэнта БССР; аб выбарах прэзыдэнта і аб надзвычайным становішчы. Разгляд праектаў пачаўся ў траўні. Дыскусія доўжылася пятнаццаць дзён.

Мушу сказаць, што для нас, дэпутатаў Апазыцыі Фронта, гэта было сапраўднае баявое хрышчэньне, а дыскусія – адной з найцяжэйшых у Вярхоўным Савеце. У залі мора... – сотні чырвоных твараў, рашуча настроеных „навесті порядок", і наша няпоўная апазыцыйная трыццатка, якая паставіла задачу перамагчы гэтую арду. Мы добра прааналізавалі цэкісцкія праекты, выпрацавалі аргумэнты і тактыку, і (дзень за днём, выступ за выступам) пачалі секчы гэтую пісаніну і палітыку – крок за крокам. Адначасна мы вялі пасьлядоўную кулуарную працу і на індывідуальным узроўні. Мы скарысталі супярэчнасьці паміж абласнымі партарганізацыямі камуністаў,

іхныя страхі, розныя адносіны да Гарбачова, Малафеева і г. д. Старшыням калгасаў расказвалі, чым абернецца для іх цэкісцкае прэзыдэнцтва; інвалідам, незалежнікам, журналістам і іншым „блукаючым форвардам" тлумачылі, чаму ў пакеце йдзе закон аб надзвычайным становішчы і чым гэта ўсё абернецца ў жыцьці для кожнага чалавека. Ветэранскаму „бэтону" па-змоўніцку казалі: „Даўно пара, мы, фактычна, „за": прэзыдэнт Пазьняк пакажа вам „кузькіну маць" (тут ветэраны глядзелі і лыпалі вачыма: іх „осеняло"). Словам, за два тыдні мы падрыхтавалі шмат якіх дэпутатаў, а ў дыскусіі размалацілі ўшчэнт усе палажэньні цэкоўскіх праектаў. Настрой у залі пачаў мяняцца. І вось галасаваньне: усе праекты праваліліся.

У нас быў узьнёслы настрой. Выйгралі „бітву пад Воршай". Мне здавалася, што менавіта гэтая перамога ўсяліла ў нашы душы ня тое, што цалкавітую ўпэўненасьць у самых сябе, а хутчэй перакананасьць у непераможнасьці. (Даволі ненадзейнае перакананьне, між іншым.) Для сябе я ўсьвядоміў, як важна мець ідэю, веру і мэту, і сьцяг наперадзе, і як шмат можа маленькі сьмелы і арганізаваны інтэлектуальны авангард перад „цьмой" агрэсіўных балваноў. Адзіная іхняя зброя – кнопкі для галасаваньня – спрацавала супраць іх. Вядома, было нямала разумных і талковых людзей сярод камуністычнай намэнклятуры, але ідэя ў іх была скампраметаваная, фальшывая, яны самы ў яе ўжо ня верылі.

Пазьней, восеньню, мы больш уважліва прааналізавалі гэтыя падзеі і заўважылі ў іх сувязь паміж ГКЧП і наступным камуна-гэбоўскім путчам у Маскве 19-21 жніўня 1991 г. Аднак тады путчысты зь Беларусі прамарудзілі і не засьвяціліся. Путч скончыўся перш, чым тут сабраліся.

# НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ. МОМАНТ ІСЬЦІНЫ. СЫМВАЛЫ ДЗЯРЖАВЫ

Пераломны момант настаў якраз у жніўні 1991 г., калі праваліўся камуністычны путч у Маскве. Нам трэба было дзейнічаць вельмі хутка, цьвёрда і рашуча (пакуль намэнклятура не апамяталася ад страху).

Настаў момант ісьціны. Прышоў наш час. Ён быў кароткі, і трэба было пасьпець. Дзьвесьце гадоў беларусы імкнуліся, рыхтавалі такі час. Але пакуль што гэта быў толькі час змаганьня, дзе трэба было перамагчы...

Мы перамаглі. Я не апісваю тут, у прадмове, як гэта адбывалася, бо пісаў пра здабыцьцё незалежнасьці ўжо ня раз. Гэтак жа і Сяргей Навумчык (гл. напрыклад, ***Сяргей Навумчык. Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988-1995).*** *– Варшава, – „Беларускія Ведамасьці", Прага – „Clovek v tisni", 2006 г., стар. 52-66).* Ёсьць пра тое і ў гэтай кніжцы (стар. 72–76, 113–121).

25 жніўня 1991 года каля 21-й гадзіны вечара, калі мы, дэпутаты Фронта, выйшлі на шумную плошчу з будынка Вярхоўнага Савета, мне здалося, што нават паветра ўжо пахне інакш – паветра незалежнасьці, паветра свабоды.

* * *

Потым настали ці ня самыя інтэнсіўныя дні ў нашай працы і змаганьні. Трэба было замацаваць незалежнасьць, стварыць першасныя інстытуты дзяржаўнай незалежнасьці, закласьці заканадаўчыя і структурныя асновы незалежнай дзяржавы. І гэта не перабольшаньне. Цяжар стварэньня новага заканадаўства і новых заканадаўчых асноў незалежнай дзяр-

жавы на пачатку лёг якраз на плечы Апазыцыі БНФ і дэмакратычных дэпутатаў. Дэпутаты ад намэнклятуры нічога не хацелі рабіць, яны жылі надзеяй, што вернецца старое, Савецкі Саюз, і зноў стане кіраваць Масква, а так званыя дэпутаты-ветэраны адкрыта сабатавалі ўсе спробы заканадаўчага зацьвярджэньня дзяржаўнага будаўніцтва незалежнай Беларусі.

Адразу пачалася ярасная барацьба за галоўнае па парадку дзеяньня – за Беларускі Сьцяг і Гэрб незалежнай Беларусі. Ветэранаў НКВД аж круціла ад злосьці. Але мы палічылі за лепшае займацца ціхім асьветніцтвам гэтых „бэтонных" людзей, чым рэагаваць на нянавісьць (нам патрэбныя былі галасы). Мы арганізавалі ў Вярхоўным Савеце выставу аб сымволіцы, стварылі геральдычную камісію, запрасілі вядомых мастакоў. Непасрэднае выкананьне гэрба (стварэньне эскізу і эталона) зрабіў мастак ***Яўген Кулік*** (пры кансультацыях і назіраньні іншых мастакоў – М. Купавы, А. Марачкіна, У. Крукоўскага і інш.). Я асабіста курыраваў тую мастацкую працу і назіраў яе этапы. Шчыльна і пасьлядоўна займаўся геральдычнай тэмай ***Алег Трусаў*** і іншыя дэпутаты Апазыцыі БНФ.

Мы зьвязаліся з аўтарытэтным сярод намэнклятуры высокім савецкім і партыйным дзеячом ***Герогіем Таразевічам*** і папрасілі выступіць на сэсіі, падтрымаць *Бел-Чырвона-Белы сьцяг* і *гэрб Пагоня*, спасылаліся пры гэтым на Шушкевіча, які раіў зьвярнуцца да Таразевіча. Таразевіч згадзіўся выступіць (што на тыя часы было ўчынкам), але папрасіў падрыхтаваць яму даклад. Фронтаўскія дэпутаты (Алег Трусаў і інш.) і гэта зрабілі. Было распрацавана і прапанавана намі нават афіцыйнае навершша для дзяржаўнага сьцяга – шасьціканцовы крыж у ажурнай страле (зацьверджана Вярхоўным Саветам). Паседжаньне парламан-

ту па Гэрбу і Сьцягу сталася, аднак, адным з найцяжэйшых, якое нам удалося выйграць.



*10. Георгі Таразевіч.*

Вялікая падрыхтоўка раптам перакулілася ў самым пачатку, зышла ня тое што на нуль – на мінус пасьля нечаканага выступу аднаго патрыёта – саліста-індывідуаліста, якога мы проста выпусьцілі з поля зроку, ведаючы, што ён прыхільнік нацыянальнай сымволікі. Псіхалагічная шкоднасьць гэтага просталінейнага „патрыятычнага" выступу была ў тым, што ён неабачліва настроіў супраць сябе і ідэі (якую прапагандаваў) старую намэнклятуру, што сядзела ў залі, пачаў іх саркастычна аблічаць і крытыкаваць.

Уся наша падрыхтоўчая праца павалілася дагары нагамі. Вэтэраны НКВД азьвярэлі, аж пырскалі сьлінай ад нянавісьці. (Запомніўся чырвоны ад напругі, узбуджаны твар Дземянцея.) Якраз падыходзіў мой выступ. Я разумеў, што ў гэтай сытуацыі дэманы, абуджаныя ў іхных душах, узлуюць іх яшчэ больш, убачыўшы адно маё зьяўленьне на трыбуне. Тут словы маглі б ўжо не падзейнічаць, адбыўся, як кажуць, пераскок па фазе, яны шукалі чырвоны плашч тарэадора, каб выпусьціць жоўць. Я хутка паслаў запіску Шушкевічу, што здымаю свой даклад і папрасіў выступіць А. Трусава, папярэдзіўшы: „Алег, трэба спакойным ласкавым тонам, ніякіх рэзкіх словаў... гавары пра навуку... пахвалі іх за што-небудзь. Задача – супакоіць вар'ятаў".

Цяпер мне трэба было глядзець уважліва за ўсёй заляй, рэгуляваць нашыя выступы і танальнасьць выступаў. Да

Таразевіча я не падыходзіў і прасіў не падыходзіць іншых фронтаўскіх дэпутатаў, каб не насьцярожваць узбуджаных апаратчыкаў і не сапсаваць справу. Якраз выступ „свайго" Таразевіча найбольш супакоіў намэнклятуру. Ён выступіў разважліва і пераканаўча, але пералом яшчэ не наступіў. Тут мне перадалі словы Шушкевіча, што добра было б, каб прыехаў прэзыдэнт Акадэміі Навук ***Уладзміер Платонаў*** – вучоны з сусьветным імем. Я выйшаў у фае і пазваніў Платонаву (гэта лёс, Боская дапамога, што ён быў на месцы). Разумны выступ Платонава таксама станоўча адбіўся на дэпутацкай аўдыторыі.



*11. Уладзімер Платонаў.*

Але сапраўдная драма разыгралася ў час галасаваньня. Некалькі разоў галасавалі, зьмяняючы фармулёўкі, – і ўвесь час не хапала аднаго-двух галасоў. Урэшце – мы выйгралі гэтую „бітву", паклаўшы на шалі ўвесь свой інтэлект і душэўныя сілы. (Гл. стар. 156–163)

Хачу адзначыць, што ўсё гэтае паседжаньне сэсіі С. Шушкевіч правёў добра. Наколькі я памятаю, гэта быў адзіны выпадак за ўвесь час ягонага сьпікерства, калі ён цалкам падтрымаў нашу пазыцыю і не страмляў палкі ў колы.

Але тут жа пасьля сэсіі ўзьнікла пытаньне аплаты мастаку за зробленыя эталоны дзяржаўнай сымволікі, прынятай Вярхоўным Саветам. Дамова аб аплаце была, толькі вусная – гарантавалі аплаціць пасьля зрабленьня працы. (Гэта ж Вярхоўны Савет. Слова – золата.) Калі пасьля зьвярнуліся да



(Аўтар фота невядомы)

*12. 8-га верасьня 1992 г. Менск. Прыняцьце вайсковай прысягі на вернасьць Беларусі. Прамаўляе З. Пазьняк. Побач падпалкоўнік М. Статкевіч. У першым шэрагу ў цэнтры здымка палкоўнік У. Барадач.*

Шушкевіча, той ад усяго адмовіўся, маўляў, Вярхоўны Савет ня мае мажлівасьці. „Народны Фронт заказваў, хай БНФ і аплочвае”, – сказаў Шушкевіч.

У гэтым быў увесь „палавіністы чалавек”. Але каб жа на тым скончылася. У чыноўнікаў (відаць, недзе ў селязёнцы) зьявіўся „сорам”, і яны прызначылі аплату мастаку ў колькасьці (пры перакладзе на амэрыканскую валюту) некалькіх даляраў. (Прыблізна столькі, колькі цяпер пэнсія ў Шушкевіча ад Лукашэнкі.) Тады была шалёная інфляцыя.

Мастак, вядома, не прыняў чыноўніцкай зьнявагі. Крыштальна сумленны чалавек і шчыры патрыёт Беларусі ***Яўген Кулік*** сам бы заплаціў Вярхоўнаму Савету за сваю працу, калі б ня быў, відаць, самым бедным мастаком Беларусі, „бессярэбранікам,”

як называлі яго забясьпечаныя людзі. (Дарэчы, выкананьне эталона Дзяржаўнага гэрба ацэньваецца ў Заходнім сьвеце вельмі высока.)

Аднойчы ў самалёце я адчыніў малітоўнік ксяндза Стэповіча (Казіміра Сваяка) на старонцы 15: „Грахі, што вымагаюць кары Божай": 4-ы грэх – „затрыманьне належнай аплаты". Але людзі не задумваюцца над гэтым. Асабліва, калі мінае час.

## ЗМАГАНЬНЕ ЗА БЕЛАРУСКАЕ ВОЙСКА

Пасьля сымволікі найцяжэйшая барацьба разгарэлася па двух атрыбутах незалежнасьці: па войску і грошах. Адбылося па гэтых пытаньнях некалькі закрытых паседжаньняў Вярхоўнага Савета. Намэнклятура ўсяляк супраціўлялася стварэньню беларускага войска. І гэта ў той час, калі на тэрыторыі Беларусі знаходзілася 200-тысячная групоўка савецкай арміі, ядзерная зброя, аэрадромы, ракеты; усё гэта неабходна ўтрымліваць, а войска фармальна (ды й фактычна) было ня нашым.

Становішча абсурднае і небясьпечнае. Было відаць, што „ветэраны НКВД" у Вярхоўным Савеце і прамаскоўская савецкая намэнклятура гатовыя былі разваліць, зьнішчыць нашу незалежную дзяржаўнасьць у самым пачатку. Яны супраціўляліся прыняцьцю абароннага заканадаўства, увядзеньню пасады міністра абароны, выступалі супраць увядзеньняі беларускай вайсковай прысягі і г. д.

Урэшце рэшт і тут удалося абыйсьці цемрашалаў. Перамог здаровы сэнс, і тыя, хто яго хоць трохі мелі, прагаласавалі за стварэньне міністэрства і выбралі першага міністра абароны Беларусі (генэрала Пятра Чауса).




*13. Сьцяг і Гэрб Беларусі.*

Але пасьля гэтага намэнклятура ў Вярхоўным Савеце адмовілася зацьвярджаць тэкст беларускай вайсковай прысягі. „Бэтон" стаў рогам: „НЕ" – і ўсё. Паталёгія. Але нам зразумелыя яе прычыны. Так цягнулася амаль год. Мелі войска без прысягі. (Прытым ўвесь гэты намэнклятурны сабатаж, фактычна, падтрымліваў сьпікер Шушкевіч.)

Мы, аднак, знайшлі спосаб грамадзкім напорам пераламаць гэтае бэтоннае супраціўленьне. Група беларускіх афіцэраў – сяброў Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў ***(БЗВ)*** – выступіла з прапановай правесьці публічную грамадзкую






*14. З родным Сьцягам.*

прысягу беларускіх вайскоўцаў запасу, не чакаючы рашэньня парляманту (якое сабатавалі савецкія дэпутаты намэнклятуры). Мы падтрымалі гэтую прапанову і разам узяліся за арганізацыю. Падключыўся ўвесь Народны Фронт. На плошчы Незалежнасьці насупраць Вярхоўнага Савета зрабілі шырокія дашчатыя трыбуны, разьвіваліся беларускія сьцягі і плякаты беларускіх вайсковых харугваў ***„Вітаўт Вялікі”***, ***„Касьцюшка”***, ***„Астрожскі”*** і інш., граў вайсковы аркестар. Тысячы мужчынаў у вайсковай парараднай форме і ў цывільным урачыста застылі ў позах „зважай!”. На трыбунах былі ***Васіль Быкаў***, ***Анатоль***

***Грыцкевіч***, ***Артур Вольскі***, усе нашыя дэпутаты Апазыцыі БНФ. У першых шэрагах стаялі дзеючыя афіцэры войска і афіцэры запасу. Над плошчай гучэлі словы прысягі на гонар і вернасьць Беларусі. Некаторыя станавіліся на калені, цалавалі Сьцяг. А калі прысяга ўжо прагучэла, аркестар зайграў адзін з пранікнёных беларускіх гімнаў – мэлёдыю паланэза Агінскіга. Пад гукі гэтага несьмяротнага гімна-паланэза нашыя дзьве дэпутаткі Апазыцыі Галіна Сямдзянава і Вольга Галубовіч падносілі кветкі дзейным афіцэрам, якія толькі што прысягнулі Беларусі. Гэта сталася ***8 верасьня 1992 года на Дзень Беларускай Вайсковай Славы***.

Прысяга мела вялікі розгалас, і потым акцыя прадаўжалася ў парках, скверах, на вуліцах і плошчах – усюды, дзе БНФ праводзіў свае акцыі і мерапрыемствы. Ставілі стол і зьбіралі подпісы вайскоўцаў і ваеннаабавязаных пад тэкстам прысягі Беларусі.

Галіна Пазьняк, удзельніца тых падзеяў, успамінае: *„Подпісы ставіліся і на плошчы Незалежнасьці. Я памятаю, што пасьля агульнай прысягі, якую паўтарала ўся плошча, амаль уся наша Койданаўская Рада БНФ стала ў чаргу, каб падпісацца пад прысягай, і я (паколькі ваеннаабавязаная і ў мяне быў ваенны білет як медсястры ў запасе) таксама стаяла ў чарзе і падпісалася. Такіх чэргаў было шмат, па ўсёй плошчы Незалежнасьці. Падпісваліся – і мелі ўрачысты настрой, а пасьля подпісу віншавалі адзін аднаго, усе ўсьміхаліся. Было сапраўды ўрачыста.”*

Намэнклятура капітулявала, скрыпучы зубамі. Неўзабаве мы мелі беларускае войска пад прысягай і адпаведнае заканадаўства. Першы Міністар абароны генэрал ***Пётра Чаус*** імкнуўся гаварыць па-беларуску, прыслухоўваўся да нашых

фронтаўскіх меркаваньняў і пачаў плянаваць стварэньне новага войска Беларусі. Цемрашалы ва ўрадзе і Вярхоўным Савеце не маглі такога перажыць. Неўзабаве ім удалося адхіліць ад пасады шчырага генэрала. Прызначылі іншага, Паўла Казлоўскага. Гэты пачаў выганяць з войска беларускіх афіцэраў, перасьледваў БЗВ, навучыўся мянціць языком, трымаць нос па ветры і затрымаўся на пасадзе даўжэй.

## БАРАЦЬБА ЗА ЎВЯДЗЕНЬНЕ ТАЛЕРА

Яшчэ больш зацятае змаганьне вялося за нацыянальную валюту, за беларускія талеры. Тут нам было, бадай, найцяжэй. Намэнклятура дружна і канвульсіўна чаплялася за савецкі рубель, які ператварыўся ўжо ў фантом, у ілюзію грошай. „Беларускія грошы – гэта сьмешна!" – казаў у гэты час С. Шушкевіч у адным з інтэрв'ю, наскокваючы на Народны Фронт. Магчыма, ён шчыра нічога не разумеў і паўтараў чужыя думкі, але справа была вельмі сур'ёзная.

Паколькі грошы хадзілі савецкія, па Беларусі балюча ўдарыла грубая і ў чалавечым вымырэньні подлая эканамічная палітыка навага прэм'ер-міністра Расеі Ягора Гайдара (якая прывяла да абрабаваньня Беларусі Расеяй, да захопу маёмасьці арганізаванымі групамі ў Расеі і ў выніку – да стварэньня рускай крымінальнай фінансавай алігархіі). У Беларусі яна выклікала шалёную інфляцыю, якую (зразумеўшы групавую выгаду) падтрымлівала тут савецкая намэнклятура. Яна скарыстала інфляцыю для свайго абагачэньня цераз лёгкі доступ да дзяржаўных крэдытаў, якія потым імкліва абясцэньваліся, і дзяржаве вярталі капейкі. Такім чынам былі скарыстаныя гро-

шы ўкладчыкаў, і „легальна” абрабаваны ўвесь народ, уся нацыя. Вось чаму (перш за ўсё) савецкая антабеларуская намэнклятура супраціўлялася увядзеньню беларускіх грошай. Акрамя таго, адбывалася рабаўніцтва нашага нацыянальнага таварнага рынку суседзямі.

Тут мушу адзначыць, што алігархічныя гайдараўскія рэформы ня толькі фатальна паскорылі дэградацыю грамадзтва ў Расеі, але мелі пад сабой непрыкрытую геапалітычную мэту – разбурэньне эканомікі на ўскраінах савецкай імпэрыі – у краінах, якія дэкляравалі сваю незалежнасьць.

Яшчэ ў 90-м годзе, складаючы праграму эканамічных пераўтварэньняў у Беларусі, дэпутаты Апазыцыі БНФ праанілізавалі становішча ў нашай краіне і ў краінах „сацлагеру.” На 90-ы год Беларусь пры ўмове адпаведных рэформаў мела самыя выдатныя стартавыя пэрспэктывы за кароткі час (8 гадоў па нашых разьліках) стаць самай перадавой эканамічна разьвітай (і па ўзроўню жыцьця) краінай Цэнтральнай і Усходняй Эўропы. Ужо ў 90-м годзе мы прыступілі да вырашэньня пытаньня пра Балта-Чарнаморскую супольнасьць і пазьней пра энэргетычны калектар БЧС, прадбачачы складанасьці, якая могуць ўзьнікнуць на Усходзе.

Нашыя заключэньні, вядома, не засталіся незаўважнымі. У гэты ж час у Маскве група эканамічных аналітыкаў, зьвязаных з урадам, прыходзіць да аналагічных высноваў, што з усіх краінаў СССР толькі Беларусь мае рэальныя шансы (пры ўмове палітычнай волі, вядома) хутка разьвіцца ў цэнтральнаэўрапейскага эканамічнага дракона з эфектыўнай эканомікай і высокім узроўнем жыцьця.

У Маскве тут жа зразумелі, што зьяўленьне такога вызваленага дракона на ўсходзе Расеі – гэта капец для ўсёй маскоўскай

імпэрскай палітыкі. І Масква пачала дзейнічаць. Гайдараўскія рэформы ў Расеі, дзякуючы адчыненым межам, і рублёвай зоне, нанесьлі зубадрабільны ўдар па Беларусі. Інфляцыя, якой мэтанакіравана (дзеля ўзбагачэньня чыноўнікаў) спрыяў урад Кебіча і бязглузда – камуністычны Вярхоўны Савет (бязглузда – бо можна было выбудаваць разумную абарону, што і прапаноўвала Апазыцыя БНФ) – гэтая інфляцыя перацерла ўсё, зрабіла беларусаў беднымі.

Па вялікаму кошту цяперашняя ўлада цемры і зьяўленьне Лукашэнкі ва ўладзе – гэта нават не пабочны, а непасрэдны вынік рэформаў Гайдара ў Расеі і наступства абрабаваньня беларусаў урадам Кебіча, які абапіраўся на камуністычны Вярхоўны Савет.

Тады, у 90-х, ўвядзеньне нацыянальных грошай і спыненьне інфляцыі было пытаньнем нумар адзін у нашым змаганьні. Грошы, межы і мытная служба – вось што стаяла востра і за што ішла лютая барацьба. Савецкая намэнклятура і ў Вярхоўным Савеце, і ва ўрадзе нічога не хацела рабіць. Яна ўсё яшчэ азіралася на неіснуючы СССР. Часам нам ужо пачынала здаваць вытрымка: „Вы самагубцы! Вы здрайцы! Вы топіце ўвесь народ!" – зрываліся некаторыя дэпутаты-фронтаўцы. Цяжка было дастукацца да розуму і сумленьня людзей, у якіх сэрца за Беларусь не балела, і таму яны альбо нічога не разумелі, альбо карысталі з нагоды, каб урваць ды абагаціцца на гэтым самым народзе, лёс якога ім быў абыякавы.

Бачачы, што ў лоб „бэтон" ня праймем, мы сталі прапаноўваць часовыя грошы, пераходныя ад купонаў да нацыянальнага талера. Трэба было ўратаваць сытуацыю і таварны рынак. Часовыя грошы пацягнулі б за сабой стварэньне паўнавартаснай дзяржаўнай мяжы і мытні. Усё стаяла ў тупіку, і да гэтай ідэі

пачалі ўсё ж прыслухоўвацца. Урад вымушаны быў дзейнічаць у такім накірунку. Яму не было іншай дарогі, і там (пад ціскам) сталі тое паступова разумець. Больш таго, займацца пытаньнем грошай у структуры Саўміна прапанавалі дэпутату Апазыцыі БНФ Сяргею Слабчанку. Мы не пярэчылі гэтаму ходу Кебіча і не зважалі на ўсе пабочныя мінусы такога павароту (тым больш, што Слабчанка сам хацеў такой пасады ў Саўміне). Слабчанка захаваў сувязь з Апазыцыяй, час ад часу інфармаваў мяне аб справах і, нарэшце, часовыя грошы зьявіліся, прытым з добрай абаронай ад падробак і фальсіфікацыяў. Паколькі грошы мелі часовае прызначэньне, „ідэалёгіяй" іх выгляду ўрад займацца ня стаў, зьмясьціўшы на купюрах прадстаўнікоў фауны Беларусі ад вавёркі да зубра.



*15. Пагоня з шастака (шэсьць грошаў) 1547 г. Манэта адбівалася ў Вільні і Гародні.*

Як і трэба было чакаць, часовыя грошы (якія народ ахрысьціў „зайчыкамі") сталі паваротным этапам у незалежніцкай палітыцы. Запрацавала на Незалежнасьць усё: і межы, і мытня, і ўрад, і Нацыянальны банк. Улада пачала рыхтаваць сапраўдныя грошы.

Яшчэ ў 90-м годзе я падрыхтаваў вялікі матэрыял па гісторыі і абгрунтаваньні талера як беларускай грашовай адзінкі. Матэрыял быў пакладзены на стол прэм'ер-міністру В. Кебічу і потым надрукаваны ў трох газэтах. Кебіч выказаў тады поўную падтрымку талеру і неабходнасьці мець беларускія грошы. Я аднёсься да яго безумоўнай падтрымкі крыху зь недаверам,

але (тым ня менш) мы паразумеліся, што я падрыхтую праект талераў.

У сьціслай таямніцы я дамовіўся з нашым фронтаўскім мастаком Лявонам Бартлавым, растлумачыў задачу і канцэпцыю талераў. Неўзабаве эскізы талераў былі гатовыя (прытым выдатна зробленыя). Фронтаўскі мастак Лявон Талбузін падрыхтаваў мэталёвыя грошы. Тэчку з эскізамі талераў і з матэрыяламі я асабіста перадаў у рукі Кебічу.

Энтузіязм Кебіча, аднак, быў павярхоўны.

Беларускія грошы аддрукавалі на Захадзе і завезьлі ў Нацыянальны Банк у 1993 годзе. Але адстаяць талеры мы не змаглі, нягледзячы на ўсе нашы доказныя і асьветніцкія высілкі. Талер быў вышэй за разуменьне савецкага дэпутата і ўрадоўца. Аддрукавалі і завезьлі рублі. У 1994 годзе антыбеларускі рэжым паставіў крыж на нацыянальнай палітыцы. Часовыя грошы, некалі прапанаваныя намі як пераходны этап, існуюць па сёньняшні дзень.

## БАРАЦЬБА ЗА ЗЬМЕНУ ЎЛАДЫ

Для таго, каб рэальна разьвівалася і мацнела незалежная дэмакратычная беларуская дзяржава, патрэбна была новая дэмакратычная ўлада. Старая савецкая каляніяльная ўлада нацыянальным дзяржаўным будаўніцтвам займацца не хацела і не магла, тым больш дэмакратычнымі пераўтварэньнямі. Знаходжаньне ўлады ў яе руках было небясьпечным тым, што па сваёй антынароднай прыродзе савецкая намэнклятура здольная была толькі выкарыстоўваць уладу ў сваіх групавых інтарэсах і заканамерна прыйшла б да мафіёзнай дыктатуры. Гэта ў

„лепшым" сэнсе. У яшчэ горшым – здала б суверэнітэт Маскве у выніку якога-небудзь мафійнага пагадненьня і ўцяканьня ад адказнасьці.

Усе гэтыя тэндэнцыі савецкай намэнклятуры выявіліся адразу пасьля жніўня 1991 году, перш за ўсё, у імкненьні да прэзыдэнцкай сістэмы і ў спадзяваньні на савецкія сілы ў Маскве.

Канстытуцыя БССР не прадугледжвала роспуску Вярхоўнага Савета і нечарговых выбараў. Трэба было ўносіць папраўку ў Канстытуцыю і зыходзіць з новай палітычнай рэальнасьці. Але намэнклятура навалілася масай і катэгарычна не хацела тое рабіць. Ніякая наша тактыка тут ужо не спрацоўвала, маса была непрабіўная. І тады мы пайшлі на шматхадовую камбінацыю. Падрыхтавалі праект закона аб рэфэрэндуме з прапановамі Вярхоўнаму Савету. Савецкая дэпутацкая большасьць адкінула наш праект і прапанавала свой контрпраект. Мы ўключыліся ў дыскусію па іхным праекце, выйгралі шэраг палажэньняў, і ў канцы 1991 г. закон быў прыняты. Мы тут жа (дэпутаты і ўвесь Фронт) прынялі рашэньне аб зборы подпісаў за рэфэрэндум аб новых выбарах па новым прапарцыйна-мажарытарным выбарчым законе, які ўжо быў распрацаваны ў Фронце.

У канцы сьнежня 1991 г. пра стварэньне Ініцыятыўнай групы і збор подпісаў за рэфэрэндум мы афіцыйна аб'явілі ў Врхоўным Савеце.

Зімой 1992 г. Фронт сабраў каля паўмільёна подпісаў (па закону патрэбна было 350.000). Подпісы былі прызнаныя і зацьверджаныя Цэнтральнай Выбарчай Камісіяй па выбарах і рэфэрэндумах. Па закону гэта абазначала рашэньне аб правядзеньні рэфэрэндуму, якое было перададзена ў Вярхоўны Савет, які (згодна закону) мусіў толькі прызначыць дату

рэфэрэндуму. Якраз была вясеньняя сэсія. У мяне было такое ўражаньне, што па Вярхоўным Савеце прайшлі дрыжыкі, ён здрыгануўся, як конь ад холаду. Намэнклятура зразумела, што прызначыўшы дату рэфэрэндума, яна падпіша сабе канец. Не ўратуе ніякая фальсіфікацыя (ня той выпадак). Намэнклятурныя дэпутаты не хацелі галасаваць за вызначэньне даты рэфэрэндума. Пачаўся ціск на Шушкевіча, і ў красавіку сьпікер перапыняе сэсію і распускае Вярхоўны Савет без вызначэньня даты новай сэсіі.

Гэтая здача пазыцыі сьпікерам стала моцным ударам па ўсіх нас, бо вельмі вялікую ролю тут адагрываў час, які трэба было скарыстаць. Шушкевіч пастаянна выступаў супраць рэфэрэндума, пры любой нагодзе крытыкаваў нашу фармулёўку, вынесеную на рэфэрэндум, дэманстраваў падтрымку Ураду і Вярхоўнаму Савету, усюды стараўся ўкалоць дэпутацкую Апазыцыю Фронта. Гаварыць зь ім было бессэнсоўна. Ён ня тое, што ня слухаў – ён нічога ня чуў. Можа, ён сапраўды не разумеў, што вырашаецца лёс Беларусі? Можа, ім апанаваў страх? (Спадабалася быць сьпікерам?) Можа, лёгкасьць думак там, дзе ня трэба? Так ці інакш, Шушкевіч выступіў на баку намэнклятуры.

Урад перайшоў у атаку. Былі створаныя ў сістэме Саўміна антыканстытуцыйныя структуры (дзяржсакратарыят і т. п.), куды былі запрошаныя працаваць функцыянеры КГБ і іншых спэцслужбаў – Г. Данілаў (партыйны куратар КГБ па Менскай вобласьці ў менскім Абкаме), палкоўнік В. Паўлаў (цяпер генэрал у Маскве), С. Гайдукевіч, М. Скарынін, А. Лукашэнка (гэты стаў грамадзкім дарадцам Кебіча па аграрных пытаньнях) і інш. У гэты ж час пры падтрымцы ўраду ствараецца антыфронтаўскае „Народное движение Белоруссии" (варыянт Інтэрфронту,

кіраўнікам зрабілі С. Гайдукевіча), навязваюцца цесныя стасункі з Крамлём і Лубянкай у Расеі, дэкляруецца кебічаўская „ідэя” пераходу на расейскі рубель (закамуфляваная для народа здача суверэнітэту Беларусі і пераход пад уладу Масквы). Паўсюдна стала відаць ажыцьцяўленьне і актывізацыя савецкай рэакцыі. Сэсію Вярхоўнага Савета Шушкевіч склікаў толькі ў канцы кастрычніка. За гэты час намэнклятура падрыхтавалася і згуртавала антыбеларускія сілы.

Расправу з законнасьцю пачалі груба і ў тыпова гэбоўскім стылі. Скарысталі злачынства, зробленае дэпутатам Д. Булахавым (які забіў пешахода на дарозе, будучы за рулём аўтамабіля). Булахаву паабяцалі збавіць яго ад турмы (гэта за забойства!), калі ён (юрыст па прафэсіі) зробіць даклад супраць рэфэрэндума. Ніколі потым мне не прыходзілася чуць больш подлага выступу і бачыць больш гнюсныя публічныя паводзіны. Па сутнасьці, яго задача была толькі адчытаць тэкст, астатняе – справа намэнклятурнай тэхнікі. Даклад быў для іх толькі нагодай прагаласаваць супраць.

Булахаў жа ілгаў з пафасам, страсна, з дрыжэньнем у голасе, старанна, удаючы хлусьню, як свае прынцыпы, як крыштальную пазыцыю маральна бездакорнага чалавека. Памятаю, што многія намэнклятуршчыкі слухалі яго з нахабнай і здзеклівай усьмешачкай, і нават з грэблівасьцю.

Рэфэрэндум забаранілі, хаця Вярхоўны Савет пайшоў пры гэтым насуперак уласнаму закону (Вярхоўны Савет ня меў права выносіць на галасаваньне пытаньне аб забароне рэфэрэндума і па закону ня меў права забараніць). Калі высьвецілася табло галасаваньня, „супраць” рэфэрэндума быў увесь Вярхоўны Савет, „за” – трыццаць галасоў, адна наша фронтаўская апазыцыйная трыццатка. Захавацца дэпутатамі ў савецкім

Вярхоўным Савеце побач з намэнклятурай – захацеў увесь „Дэмклюб”, і нават апазыцыйныя падпісанты (некаторыя нават выступалі супраць рэфэрэндуму).

А справа важылася аб лёсе Беларусі, аб новых выбарах новага парляманту, аб народнай ўладзе ў нашай краіне. Шмат хто зь іх потым доўга ня мог глядзець нам у вочы (але з цягам часу – нічога, звыкліся). Зрэшты, гэта ўжо ня мела значэньня, але многія з нас пераканаліся навочна, што гэта такое за цеста – дэмакраты бяз сьведамасьці і нацыянальных ідэалаў. Гэта людзі, якія разумеюць дэмакратыю абстрактна як дэмакратаю бяз нацыі.

## МАБІЛІЗАЦЫЯ ВОЛІ АЛЬБО ЗЬБІРАНЬНЕ З ДУХАМ

Мне ня раз прыходзілася выступаць у аўдыторыях (прытым без мікрафона), дзе сфармаваная антыфронтаўскай прапагандай маса гатовая была мяне разарваць. Але праз нейкі час, накрычаўшыся і выслухаўшы мае аргумэнты, людзі разыходзіліся маімі прыхільнікамі і сябрамі. Мяне ніколі ў такіх выпадках не пакідала ўпэўненасьць і спакой духа.

29 кастрычніка 1992 года, у злы дзень забароны рэфэрэндуму, мы сабраліся ў пакоі Апазыцыі. Вось тады мне прыйшлося перажыць найцяжэйшыя хвіліны, калі часам здавалася, што я ўжо не змагу спыніць гэтую буру роспачы і капітуляцыі. Мае сябры далі волю сваім эмоцыям. Амаль палова, а мо’ і больш, заявілі, што кладуць мандаты і зыходзяць з гэтага савецкага гадзюшніка, што яны больш ня могуць знаходзіцца побач з гэтым плебсам, бяз гонару і сумленьня, з гэтымі подлымі

душамі, з гэтымі паразітамі, якія гатовыя сто разоў прадаць і наш народ, і нашу зямлю, і нашу будучыню...

Мне зразумелы баў іхны стан і пачуцьці. Так маглі гаварыць уражаныя сумленныя людзі. Але палітыкам, на жаль, часта прыходзіцца існаваць, размаўляць, дзейнічаць побач і з паразітамі, і зь нягоднікамі, і зь лютымі ворагамі.

Я разумеў, што на сяброў найбольш паўзьдзейнічала здрада Дэмклюба і апартунізм некаторых падпісантаў Апазыцыі. Зь вялікай цяжкасьцю мне ўдалося крыху супакоіць маіх калег, каб абдумаць і адкласьці меркаваньні на іншы спакойны дзень. Спакойныя дні потым усё і вырашылі. Трэба было падымацца з накдаўна і змагацца далей.

У палітыцы трэба мець ідэальныя уяўленьні, сьветлыя мэты, але ня блытаць іх з рэальным становішчам. Рашэньні мусяць быць адэкватнымі і зыходзіць з рэальнасьці. Толькі гэтак можна йсьці да ідэалу, інакш застануцца адны летуценьні.

Бразнуць дзьвярыма ў той час не атрымалася б ніяк, асабліва ўлічыўшы, што супраць рэфэрэндуму прагаласаваў Дэмклуб і іншыя групы дэпутатаў (акрамя нас, Апазыцыі Фронта, – увесь Вярхоўны Савет). У такіх умовах скампраметаваць нас і растаптаць – нават не было б справай тэхнікі, яно б паехала само сабой, і першы камень бы кінуў Шушкевіч. Потым дэмакраты „растлумачылі б” сваю „правільную” пазыцыю і „памылкі” БНФ. Намэнклятуры ж і казаць бы шмат ня трэба было, яны б проста ўлюлюкалі нам усьлед, маючы радыё, тэлебачаньне, газэты і ўладу пад сваім кантролем. Мы ня мелі б ужо дэпутацкай недатыкальнасьці і ніякай трыбуны. Нашага голасу не было б чуваць. Вяшчала б намэнклятура, якая „наконец-то избавилась от этих крикунов”. А ў канцы выступіў бы які-небудзь разумнік, дэпутат-намэнклятуршчык і выраблены дэмагог, які



*16. На сустрэчы з выбаршчыкамі ў Баранавічах. Зь лева на права: Л. Баршчэўскі, С. Слабчанка, З. Пазьняк, Б. Гюнтар. 1992 г.*

сказаў бы: „Нет, вы посмотрите на этих бэнээфовцев, два года мутили воду, мешали работать, всех критиковали, а как только вышло не по их, бросили всё и ушли. Оказывается, плевать им на Белоруссию и на наш многострадальный народ". І ўсё гэта працягвалася б месяц-два (прапаганда павінна паўтарацца). І ўсё гэта – у нашым ужо безгалосым стане азначала б для нас ня проста палітычную сьмерць, а крах, бяздарны крах барацьбы і страту дасягнутага. Ды й выбаршчыкі маглі сказаць: „Мы за вас галасавалі, а вы што, у кусты?"

У тагачасным палітычна нясьпелым беларускім грамадзтве нельга было праводзіць такія дэмаршы і шляхецкія выхадкі. Тут было першае паражэньне на нашым цяжкім, але пераможным шляху. Атрымалі, як кажуць, ломам па галаве, і шмат хто з нас аказаўся псіхалягічна непадрыхтаваным да такога ўдару, адчулі сябе на момант бяссільнымі перад нахабным беззаконьнем, цынізмам і здрадай.


(Фота С. Грыца)

*17. П’яны В. Кебіч ва ўрадавай машыне цалуе расейскага прэм’ера В. Чарнамырдзіна. 1994 г. Здымак, зьмешчаны ў „Свабодзе”, выклікаў сьмех і агіду ў беларусаў.*

# НАСТУП РЭАКЦЫІ І ЗЬМЕНА ТАКТЫКІ

Тым часам ня трэба было адчайвацца. Як кажуць, „няма прыёму супраць лому, акрамя самога лому”. Мы ведалі, з кім мелі справу. Трэба было падымацца з дошчак, выціраць соплі і кроў – і зноў за сваё.

Тым ня менш пасьля грубай забароны рэфэрэндума наступ рэакцыі пачаў набываць усё больш агрэсіўныя і арганізаваныя формы. Змагацца і працаваць у Вярхоўным Савеце стала вельмі цяжка і вельмі ня проста. Рэакцыя зыходзіла найперш з Саўміна і з антызаконных структураў, якія там арганізавалі. Урад




*18. ЦВК. 1994 г. Зацьвярджэньне кандыдатаў у прэзыдэнты. Лукашэнка падыходзіць да ручкі Кебіча. У цэнтры кіраўнік камуністычнай партыі Новікаў.*

утварыў у Вярхоўным Савеце нават сваю фракцыю бальшыні („Беларусь”), якая павінна была стаць правадніком урадавай палітыкі і гасіць усе ініцыятывы Апазыцыі БНФ. Узьнікла нейкае адчуваньне напаўпараліча.

У гэтай (здавалася б бязвыходнай атмасфэры) мы вызначылі асноўную перашкоду і галоўную небясьпеку – урад Кебіча, які трапіў пад кантроль КГБ. Мы паставілі задачу адстаўкі прэм’ер-міністра. У лоб гэта зрабіць было немагчыма. Таму мы ўзьнялі пытаньне адстаўкі ў Вярхоўным Савеце, і нават дамагліся галасаваньня (вядома, бязвыніковага), і пасьля гэтага – зьмянілі тактыку. Асноўны палітычны цяжар працы мы перанесьлі за

сьцены Вярхоўнага Савета. Ставілася задача падрыхтаваць і з'агітаваць грамадзтва за адстаўку Кебіча.

У Фронце былі чатыры надзейныя машыны (дзьве легкавыя і два мікрааўтобусы). Мы задзейнічалі гэты транспарт для паездак па краіне дзеля асьветы і агітацыі насельніцтва (тэлебачаньне і дзяржаўныя СМІ былі ўжо амаль недаступныя). Фармавалі звычайна дзьве групы дэпутатаў, складалі плян, нашыя структуры на месцах рыхтавалі залі, аб'явы і выбаршчыкаў. За 1993 год я са сваёй групай аб'ехаў 149 гарадоў і мястэчак і выступаў перад людзьмі па ўсёй Беларусі. Галоўная тэма – антынародная палітыка ўраду Кебіча.

Шмат дапамагла нам у гэтай справе таксама газэта „Свабода", якую рэдагаваў сябра Апазыцыі БНФ дэпутат Ігар Гермянчук і якая выходзіла часам 100-тысячным накладам. Словам, да пачатку 1994 года бальшыня людзей у Беларусі была супраць Кебіча і палітыкі Кебіча. Толькі Кебіч (як ня дзіўна) гэтага яшчэ як бы ня ведаў і як бы не разумеў. Наша тактыка і даволі няпростая праца і тут дала плён. Калі аб'явілі прэзыдэнцкія выбары, нам было ўжо зразумела, што песенька Кебіча сьпета.

Аднак падзеі павярнуліся ў бок, калі ў выбары ўключыўся КГБ са сваім стаўленьнікам Лукашэнкам і іншымі людзьмі залежнасьці і ўплыву. У супроцьстаяньні Кебіч–БНФ савецкія выбаршчыкі, што былі ўжо супраць Кебіча, галасавалі б за БНФ (іншай альтэрнатывы не было). Калі ж у кампанію ўключыўся кандыдат з пазыцыяй пакараць Кебіча і абяцаньнем вярнуць усё, як было за СССР (бо пры Кебічы стала горай), то большая палова савецкага электарату перакінулася на бок савецкага кандыдата. Атрымалася, што Лукашэнка аўтаматычна пакарыстаўся вынікамі нашай працы.

Становішча ў корані мянялася ў другім туры (куды ў рэальнасьці трапіў якраз кандыдат Фронта, а не Кебіч). Пазыцыя БНФ зноў

набірала моц, бо крытэрыем выбару станавілася пазытыўная праграма (якая ў БНФ была магутная), а не крытыка Кебіча. Лукашэнка ня меў ніякай пазытыўнай праграмы. Аднак гэта, відаць, разумела і кебічаўская намэнклятура, для якой перамога Фронту была роўназначная сьмерці (так яны і казалі на сваіх нарадах).

Першы тур быў сфальсіфікаваны адносна мяне (мінус) і адносна Кебіча (плюс). Такім чынам ў другі тур мяне не прапусьцілі, правялі Кебіча. Заставаўся аднак яшчэ шанс – зьняцьцё з выбараў кандыдатуры Кебіча (тады – новыя выбары з новымі кандыдатамі). Кебічу прапанавалі такі варыянт, але Кебіч на гэта не пайшоў (потым ён напіша ў сваіх успамінах, што ў яго была агульная задача з Лукашэнкам – не дапусьціць да ўлады кандыдата БНФ).

## ЧАС ЦЕМРЫ. ПАЧАТАК

Прамаскоўская і антыбеларуская палітыка новага рэжыму пачалася зь першых жа дзён. Хамства і крымінальшчына (поўная непавага да закону) запоўніла афіцыйныя дачыненьні, зьявіліся новыя людзі зь нябачанымі раней тварамі, паводзінамі і лексікай, зьявілася новая карупцыя. Калі дэпутат Апазыцыі БНФ Сяргей Антончык вынес небывалую прадажнасьць рэжыму на парляманцкую трыбуну, газэты зь яго дакладам вышлі з друку зь белымі палосамі (плямамі цэнзуры на цэлыя газэтныя старонкі). Такой тупой цэнзуры (з пустымі палосамі) не было на Беларусі з 1915 года, з часоў 1-й Сусьветнай вайны. (Пазьней крымінальны рэжым расправіўся з С. Антончыкам: па рашэньні суда вынесьлі з дому нават ложак і канапу, пакінулі сям’ю на голай падлозе, а на працу не даюць уладкавацца па сёньняшні дзень.)

Першае маштабнае нішчэньне вольнай Беларусі, з чаго пачаў антыбеларускі рэжым, і якое датычыла лёсу нацыі і дзяржавы – гэта была акцыя па ліквідацыі Беларускага дзяржаўнага *Бел-Чырвона-Белага сьцяга* і *гэрбу Пагоня* праз рэфэрэндум. Тут было парушана ўсё: Канстытуцыя, законы, здаровы сэнс, этыка і мараль. Савецкая бальшыня Вярхоўнага Савета цалкам падтрымлівала ў гэтым крымінальную палітыку новага рэжыму. Усе нашыя довады, аргумэнты, спасылкі на заканадаўства з гіканьнем не прымаліся пад увагу. Вярхоўны Савет выходзіў на крымінал і злачынства, гатоў быў падтрымаць лукашэнкаўскія пытаньні і фармулёўкі незаконнага рэфэрэндуму аб мове і нацыянальных сымвалах дзяржавы (закон забараняў выносіць такія пытаньні на рэфэрэндум).

Вечарам 10 красавіка 1995 г., у апошні дзень перад галасаваньнем мы, дэпутаты Апазыцыі, сабраліся на нараду. Памятаю, я сказаў, што заўтра будзе лёсавызначальны для Беларусі дзень: „Сытуацыя такая, што ён можа стаць чорным днём нашай рэчаіснасьці. Закон не прымаецца пад увагу, ідуць напралом. Мы мусім нешта зрабіць, каб не дапусьціць „пралому”. Выказвайце любыя прапановы, любыя думкі, самыя неверагодныя – усё абмяркоўваем. Сядзім тут і не выходзім, пакуль ня знойдзем рашэньне і выхад са становішча”.

І думкі пасыпаліся. Усе ўсё разумелі, выказваліся адкрыта. Абмеркаваньне закончылі на вуліцы (каб пазьбегнуць падслуху). Была прынятая прапанова Міколы Маркевіча: аб’явіць дэпутацкую галадоўку пратэсту ў зале супраць цынічнага ламаньня Канстытуцыі і законаў Вярхоўным Саветам, супраць праекта незаконнага рэфэрэндуму.

Рознымі арганізацыйнымі пытаньнямі мне прышлося яшчэ займацца, фактычна, цэлую ноч. Канчатковае рашэньне было

ўзгоднена кіраўніцтвам Апазыцыі і прынята за паўгадзіны да пачатку паседжаньня сэсіі. Удзельнічаць у галадоўцы не змаглі некалькі асобаў, што па розных прычынах адсутнічалі на сэсіі. Ігар Пырх – па стану здароўя (хварэў), Галіна Сямдзянава – па нашай прапанове заставалася звонку, як сувязная асоба паміж галадуючымі, усім Вярхоўным Саветам і Народным Фронтам (гэта яна даведалася, што рыхтуецца правакацыя і папярэдзіла нас).

Усё ж такі маральная аснова ёсьць галоўнае ў чалавеку, важнейшая за шмат якія іншыя якасьці. Наш учынак, калі мы вышлі на галадоўку 11-га красавіка 1995 года і селі на прыступкі перад Прэзыдыюмам Вярхоўнага Савета вочы ў вочы перад Вярхоўным Саветам, наша рашучасьць і наша рацыя паўплывалі, дайшлі да сумленьня, сэрца і да розуму шмат каго з дэпутатаў. Тры пытаньні з чатырох, вынесеных на рэфэрэндум рэжымам, праваліліся. Лукашэнка, як ашпараны, выскачыў з паседжаньня. Гэта перамога так на ўсіх нас падзейнічала, што мы, застаўшыся ноччу адны ў Авальнай залі, не маглі стрымаць радасьці. Але наступныя начныя падзеі разьвіваліся, як у Афрыцы. Ніхто з нас ня змог прадбачыць, што спэцвойска ўвядуць у парлямант. Мы яшчэ жылі ў Беларусі.

Войска ўвялі ноччу, батальён (600 салдатаў) – „спэцназ" і група КГБ „Альфа". Пасьля зьбіцьця нас разьвезьлі ў розныя канцы Менска і выкінулі з „хапуноў". Адна наша група тут жа падняла на ногі Генэральнага Пракурора В. Шаладонава. Адразу была ўзбуджана крымінальная справа па факту нападу і зьбіцьця дэпутатаў. Раніцай а 9-й мы былі ўжо на паседжаньні Прэзыдыюма ВС.

Усё гэта ўжо апісана ў літаратуры, якая адзначана мной у гэтай прадмове. Я толькі нагадваю, што ніхто з нас не



*19. 11-га красавіка 1995 г. Галадоўка дэпутатаў Апазыцыі БНФ.*

разгубіўся ні на секунду, адразу пачалі дзейнічаць абдумана і мэтанакіравана. Было зразумела, што йдзе далейшы захоп улады грубай антыбеларускай сілай, што (калі яе не спыніць) наперадзе – вынішчэньне культуры, усяго сьветлага і беларускага. На жаль, тады, у 1995-м, гэта разумелі толькі мы.



(Фота С. Грыца)

*　*　*

Назаўтра, 13 красавіка, павінна была слухацца справа ў Канстытуцыйным судзе аб манапалізацыі СМІ Лукашэнкам, справа, якую ініцыявала Апазыцыя БНФ. Рыхтаваў і прадстаўляў гэтае пытаньне ў Судзе каардынатар Апазыцыі БНФ Сяргей Навумчык.

У працэсе ўдзельнічалі ад Апазыцыі БНФ яшчэ В. Алампіеў, Ю. Беленькі, Ул. Заблоцкі, М. Крыжаноўскі, В. Малашка, П. Садоўскі, Г. Сямдзянава, А. Трусаў, А. Шут. Нашы дэпутаты ня сталі казаць пра перанос справы (у сувязі з начной агрэсіяй і кепскім фізічным станам), а з ходу ўключыліся ў працэс. Акрамя таго, вытрыманы быў узровень: працэс з боку дэпутатаў вёўся Навумчыкам не ў палітычным (не гаварылі пра разбойны напад), а ў юрыдычна-прававым аспэкце. Вынік: 14-га красавіка Канстытуцыйны Суд прызнаў адзін з указаў Лукашэнкі неканстытуцыйным (тады рэжымная дрэнь яшчэ ня мела татальнага кантролю над грамадзтвам, і суды больш-менш трымаліся законаў). Пры наяўнасьці палітычнай волі Вярхоўнага Савета ўжо адно гэтае рашэньне Канстытуцыйныйнага Суда магло стаць прычынай пастаноўкі пытаньня пра імпічмант (а яшчэ й крымінал з вайсковым нападам на дэпутатаў у будынку парляманта). Толькі поўная нікчэмнасьць і рэакцыйнасьць савецкага дэпутацкага корпуса плюс такая ж нікчэмная слабавольнасьць і баязьлівасьць Старшыні Вярхоўнага Савета Мечыслава Грыба дазволілі рэжыму выйсьці цэлым з гэтага антыдзяржаўнага крыміналу.

* * *

14-га траўня 1995 года рэжым напралом правёў незаконны рэфэрэндум (галасаваньне па якім было да таго ж сфальсіфікаванае). За апошнія 20 гадоў ня памятаю больш трагічнага дня ў падзеях беларускай палітыкі. Некаторыя людзі, бачачы зьдзек над Сьцягам, плакалі, некаторыя – сьціскалі кулакі, лаяліся, некаторыя (не перажыўшы) памерлі ад разрыву сэрца. Цемра, хамства, беларусафобства, паранойнае самадурства насоўвалася на Беларусь.



*20. 14-га красавіка 1995 г. у Канстытуцыйным судзе. Зь лева на права А. Трусаў, С. Навумчык, М. Крыжаноўскі, П. Садоўскі.*

Увесь 1995 год доўжылася барацьба з рэжымам у абарону працы Вярхоўнага Савета. Ужо тады рэжым пачаў справы выкраданьня людзей. Гэтак зьнік адзін час Сяргей Антончык. Яго схапілі, завезьлі недзе ў каталажку „спэцназу", страшылі і г. д. Праўда, мы зрэагавалі хутка і апэратыўна. Дэпутацкія лісты пра факт незаконнага захопу дэпутата былі намі накіраваныя нават у міжнародныя структуры. С. Антончыка выпусьцілі.

На выбарах у парлямант увосень 1995 года мы ўбачылі і адчулі, што рэжым ня проста крымінальны, антыбеларускі – ён тыпова акупацыйны і дзейнічае акупацыйнымі мэтадамі. Супраць фронтаўскіх дэпутатаў быў наладжаны „спэцзаслон", куды кінута была ўся энэргія і выдумка рэжыму. І, тым ня менш, у некалькіх месцах не спрацавала сістэма фальсіфікацыі. Прайшлі Г. Грушавы, Ю. Беленькі (набраў 58% галасоў), В.

Голубеў. Адчайным высілкам мне не далічылі невялікую колькасьць бюлетэняў. Спэцыяльная камісія ЦВК (па майму настаяньню) выехала на месца і выявіла фальсіфікат у 500 галасоў. Выходзіць, што мая кандыдатура была выбраная. Тады старшыня ЦВК **А. Абрамовіч** наадрэз адмовіўся ставіць пытаньне перад пракуратурай (не даючы мне тлумачэньняў). Мае лісты ў органы пракуратуры засталіся без адказу. Гэта было ўжо тое новае, што ўпаўзло ў нашае жыцьцё разам з цёмным рэжымам. Кандыдатуры Голубева і Беленькага проста выкінулі са сьпісу дэпутатаў, а інстанцыі ня сталі прымаць ад іх ніякіх лістоў. Усё гэта пацьвердзіла тое, што мы ўбачылі ад самага пачатку – уладу ў Беларусі захапіла група нягоднікаў, вакол якой сабраліся ўсе антыбеларускія сілы. (Дарэчы, Абрамовіча Лукашэнка аддзячыў – прызначыў яго распрацоўшчыкам сваёй канстытуцыі дыктатуры, і Абрамовіч заказ выканаў.)

## ФАРМАВАНЬНЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАЛІТЫЧНАЙ ЭЛІТЫ

У гэтай фрагмэнтарнай прадмове я не апісваю і доўга не спыняюся на шмат якіх важных падзеях, зьвязаных з дзейнасьцю дэпутатаў Апазыцыі БНФ. Напрыклад, не апавядаю, як была падрыхтавана і як прымалася Дэклярацыя аб суверэнітэце, як адбывалася сэсія незалежнасьці 24-25 жніўня 1991 г., як прымаліся дзяржаўныя Гэрб і Сьцяг, як адбывалася галадоўка дэпутатаў і ўвядзеньне войска ў парлямант, як мы падтрымлівалі нацыянальна-вызвольную рэвалюцыю ў Летуве, як нашыя дэлегацыі езьдзілі ў Вільню ў час спробы там савецкага камуністычнага пераварота і г. д. Усё гэта ўжо часткова

апісана ў розных артыкулах, што друкаваліся ў ***„Беларускіх Ведамасьцях";*** у кнізе С. Навумчыка ***„Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988-1995)", – Варшава-Прага, 2006 г.;*** у кнігах аўтара гэтай прадмовы ***„Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн. 1, артыкулы і матэрыялы (1990–III.1996), – Варшава-Нью-Ёрк-Вільня, 2007 г.; „Цяжкі час. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн. 2, артыкулы і матэр'ялы (IV 1996-2002), – Варшава-Нью-Ёрк-Вільня, 2010 г.;*** у кнізе Галіны Пазьняк ***Беларусь ў сэрцы. – Варшава-Нью-Ёрк-Вільня, 2007 г.,*** а таксама ў матэрыялах гэтай кніжкі.

Пісаць пра нядаўні час змаганьня і друкаваць дакуманты пра здабыцьцё незалежнасьці нас прымусіла, перш за ўсё, сама рэчаіснасьць – цёмная рэчаіснасьць вынішчэньня, татальнага замоўчваньня і перакручваньня ўсяго таго, што зьвязана з барацьбой за незалежнасьць Беларусі, са сцьвярджэньнем Незалежнасьці і зь яе трыюмфам. Найвялікшую падзею нашай гісторыі цёмны рэжым хоча зьнішчыць у памяці людзей і ў памяці нашай культуры. Палітычна і сацыяльна ён мэтанакіравана прыніжаў нашых змагароў-дэпутатаў, ізаляваў іх ад вялікай палітыкі, шмат каго пазбаўляў працы, сродкаў да існаваньня, стварыў вакол іхняй ахвярнай выніковай дзейнасьці і дасягненьняў змову маўчаньня, паклёпу, хлусьні.

Тым часам у гістарычным Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня за кароткі час (ужо ў 1990 годзе) сфармавалася нацыянальная эліта беларускай палітыкі. Гэта, перш за ўсё, дэпутацкая Апазыцыя БНФ. Яны, дэпутаты Апазыцыі БНФ, разумелі лепш, маглі і ўмелі больш, чым усе астатнія на той час на беларускім палітычным полі. Гэта факт, які пацьверджаны іншымі фактамі. Але самае істотнае – што сэнсам і грунтам

іхняй (нашай, будзем так казаць) палітыкі, былі беларускае нацыянальнае Адраджэньне, незалежнасьць, свабода і дэмакратыя. Камунізм і расейскі каляніялізм нічога ня мог супроцьпаставіць нашым ідэям, акрамя збанкрутаваных сваіх догмаў („рабы старых ідэй”, як сьпявалася ў гімне Народнага Фронту). Не змаглі супроцьпаставіць – і прайгралі з усёй сваёй пачварнай камуністычнай сілай.

Каб узьнікала, фармавалася і разьвівалася нацыянальная палітычная эліта, патрэбна (акрамя элемэнтарных дэмакратычных свабодаў), перш за ўсё, магчымасьць выбараў па прапарцыйнай сістэме. Гэта дало б стымул палітычнай партыйнай кансалідацыі людзей і, галоўнае, цягласьць палітычнае дзейнасьці для найбольш здольных і актыўных палітыкаў. Эліта фармавалася б тады нават фармальна (аўтаматычна).

І камуністы, і ўвогуле бальшыня савецкіх дэпутатаў, і іншыя прыхільнікі СССР і непрыхільнікі беларушчыны ў Вярхоўным Савеце (і потым у антыбеларускім рэжыме Лукашэнкі) – былі супраць прапарцыйнай сістэмы выбараў, нават у палавінным прапарцыйна-мажарытарным фармаце. Яны разумелі, што гэта – тэхнічная дарога да дэмакратыі і вольнай Беларусі.

Аднак пасьля шэрагу дыскусіяў у парляманце пэўная частка намэнклятуры пачала хістацца і гатовая была ўжо пагадзіцца на зьмешаную прапарцыйна-мажарытарную сістэму выбараў. Тым часам вельмі нэрвова выступалі супраць розныя камсамольскія і прамаскоўскія дэмакраты, асабліва Лябедзька, які тады быў набліжаны да Лукашэнкі (і выконваў яго ўказаньні). Разыходжаньне тут было ня толькі па дэмакратычнай, але найперш па нацыянальнай пэрспэктыве.

Аднойчы на грамадзкім абмеркаваньні гэтага пытаньня выступіла ад „дэмакратаў” такая Абрамава. Яна зьвярнулася

да намэнклятурных дэпутатаў, што былі сярод прысутных, з заклікам не падтрымліваць прапарцыйныя выбары, бо „в противном случае БНФ придет к власти”. Успамінаньне БНФ у кантэксьце ўлады заўсёды палохала намэнклятуру, таму некаторыя фронтаўцы ўспрынялі як адпаведны заказ гэты выверт маргіналаў. І, відаць, не памыліліся. Праз некалькі гадоў, калі ўмацаваўся антыбеларускі рэжым, глядзім, аж тая Абрамава ўжо ў лукашэнкаўскай „палатцы,” дэпутатам лічыцца, выступае, дае інтэрв’ю і г. д.

Такім чынам, антыбеларускім рэжымам былі створаныя абставіны, палітычныя і тэхнічныя (заканадаўчыя), каб нацыянальная палітычная эліта не ўзьнікала, а тая, што ўжо была створана, – каб знаходзілася ў стане паралічу. Але ў 90-х гадах – гэта быў баявы авангард, які (насуперак усялякай арыфметычнай парляманцкай логіцы) з ходу браў бастыён за бастыёнам і (больш таго) вызваліў цэлую крэпасьць.

## ФЭНОМЭН АВАНГАРДУ Ў ФЭНАМЭНАЛЬНЫХ УМОВАХ

Як такое магло здарыцца? Вярхоўны Савет БССР – 360 дэпутатаў (рэальна было выбрана 345). Больш 90 адсоткаў зь іх – камуністы. Асноўны кантынгент – камуністычная намэнклятура (сакратары абкамаў, райкамаў, савецкае кіраўніцтва, міліцыя, КГБ, старшыні калгасаў, пракуроры, дырэктары заводаў і г. д.) плюс 50 асобаў ветэранаў партыі, НКВД, савецкай арміі і г. д., прадстаўнікі таварystваў сьляпых і глуханямых. Усімі імі камандаваў ЦК КПБ–КПСС (загадваў, як галасаваць, што казаць і г. д).




*21. 1995 г. 25 Сакавіка. Зь лева на права З. Пазьняк, М. Савіцкі, Р. Гарэцкі, Л. Зданевіч, В. Быкаў, Н. Гілевіч, Г. Сямдзянава, В. Голубеў, С. Навумчык.*

Нас жа ўсіх рэальна было – ***27*** дэпутатаў, плюс падпісанты (усіх ***39***), плюс Дэмклюб – яшчэ максімум ***30*** дэпутатаў і непастаянных галасоў. Такім чынам максімальны дапушчальны рэсурс – каля ***70*** галасоў; рэальны – ***27-30*** галасоў.

Пытаньне: што з трыццацьцю рэальнымі галасамі і столькімі ж умоўнымі можна зрабіць у парляманце, дзе парляманцкая большасьць вымяраецца ў **90** адсоткаў? Нічога. Тут у прынцыпе (па логіцы і арыфметыцы) нельга нічога зрабіць. Тым больш, што бальшыня парляманту – камуністы, а меншасьць – антыкамуністы, і элемент нянавісьці паміж імі лунае ў паветры.



І тым ня менш, ёсьць бясспрэчны, відавочны і гістарычны факт – ***Апазыцыя БНФ*** выйграла барацьбу ў камуністычным савецкім парляманце за Незалежнасьць, за праўду пра Чарнобыль (якая пільна хавалася ад грамадзтва), за нацыянальнае войска, за нацыянальныя грошы, за заканадаўства незалежнай дзяржавы, за Беларускі сьцяг і гэрб *Пагоня* і ўвогуле – за дзяржаўнае існаваньне незалежнай Беларусі, спыніўшы пры гэтым дзейнасьць КПБ (КПСС). Мяншыня спыніла дзейнасьць бальшыні (!)

Дык як жа такое магло адбыцца супраць логікі і арыфметыкі? Павінен быць адказ, бо яно адбылося. Прытым Апазыцыя БНФ – адзінае дэпутацкае ўтварэньне ў 12-м Вярхоўным Савеце, якое арганізавана праіснавала, дзейнічала і змагалася да самага апошняга дня – 9-га студзеня 1996 г. (чаго не было ні з адной фракцыяй – усе яны распадаліся, а ў канцы зьніклі зусім).

У кастрычніку 2009 года, на другім зборы дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вільні, я задаў усім нам гэтае пытаньне. „І сапраўды, – кажа Галіна Сямдзянава, – як гэта нам удалося ўвесь час (больш чым пяць з паловай гадоў) так дружна трымацца і перамагаць? Мы ж людзі такія розныя.”

Я спрабаваў даць адказ на гэтае пытаньне.



*22. Прэсавая канфэрэнцыя ў Вярхоўным Савеце. 1993 г. Зь лева на права У. Заблоцкі, Л. Баршчэўскі, С. Навумчык, З. Пазьняк, В. Голубеў.*

Найперш, трэба ўлічыць, што Вярхоўны Савет на той час ня быў у поўным сэнсе традыцыйным структураваным парлямантам на заходні манер. Гэта быў вялікі збор камуна-савецкай намэнклятуры, якая ня мела парляманцкіх навыкаў змаганьня і падрыхтаваная была на фармальную прысутнасьць ды зацьвярджэньне прапанаваных законаў (так, як было да гэтага ў БССР).

Дэпутаты Апазыцыі БНФ таксама ня мелі парляманцкага вопыту, але мелі ідэю, мэту і рваліся ў бой. Вопыт быў хутка набыты. Але трэба ведаць, што нічога не атрымлівалася само сабой, у Апазыцыі БНФ была прадуманая стратэгія, тактыка, паводзіны і ўзаемаадносіны, былі зробленыя ацэнкі, аналіз і прагнозы, кожны дзень складаўся плян працы.

Камуністычная бальшыня мела перавагу ў масе ў велізарнай колькасьці галасоў. Наша перавага была ў інтэлекце, у добрай адукацыі і эрудыцыі, ва ўменьні хутка думаць, правільна фармуляваць думкі і правільна іх выказваць; нарэшце – у лепшай



арганізацыі і самадысцыпліне. І ўсё гэта было падмацавана верай у нашу праўду, у неабходнасьць змаганьня за ідэю.

Коснасьці і ляніўству намэнклятуры мы супроцьпаставілі ініцыятыву. Мы былі першымі з ідэямі і з праектамі. Мы вымусілі іх нас даганяць. Мы, такім чынам, прымусілі іх працаваць (і за іхнымі плячыма – урад), вымусілі выступаць са сваімі альтэрнатыўнымі заканапраектамі, пасьля чаго мы ўключаліся ў абмеркаваньне, у дыскусію – і выйгравалі яе. Гэта адбівалася на фармулёўках і на галасаваньні.

За ўвесь час мы не прайгралі ніводнай дыскусіі з намэнклятурай. Гэта выклікала ў іх злосьць і страх, бо многія зь іх, асабліва ў эканамічных, фінансавых пытаньнях, не разумелі ні сутнасьці, не тэрміналёгіі, часта ня ведалі, як галасаваць, а поклічу камуністычнага сакратара – „галасуем!" – не было чуваць („замешкался в буфете"). Сьведамасьць гэтых абмежаваных людзей стала містыфікавацца. Яны часта не разумелі нашых паводзінаў, выступаў і словаў. Містыфікацыя ўспрыняцьця часам межавалася ў іх з паталёгіяй. „Товарищи,

нам подбрасывают", „товарищи, нас уводят в сторону", „товарищи, нас забалтывают", „товарищи, будьте бдительны" і г. д., – пэрыядычна выкрыквалі яны.

Іхняя дысцыпліна будавалася на загадах, выкананьні і падпарадкаваньні. Падпарадкаванасьць начальству была жалезная. І тут Апазыцыі прыходзілася „гуляць" тонка. Бо калі быў ў іх загад з гары не галасаваць „за" ці галасаваць „супраць" – яны галасавалі „супраць" на аўтамаце загаду. Істотна было іх заблытаць, пераканаць, пасеяць сумненьні ў загадзе, часам нават зьбянтэжыць. Яны ўважліва сачылі за мной, за ўсёй Апазыцыяй і стараліся рабіць усё наадварот (калі мы „за", то яны вырашалі, што трэба „супраць"). Мы гэта заўважылі і скарысталі іхнюю арыентацыю, правакуючы іх галасаваць так, як нам трэба было. Часам мы разыгрывалі з гэтым „бэтонам" цэлыя спэктаклі і іхнымі галасамі дамагаліся сваёй мэты. Найбольш эфэктыўныя нашы выйгрышы такім мэтадам – завал антыдэмакратычнага закона аб адкліканьні дэпутатаў, прыняцьцё Дэклярацыі аб суверэнітэце Беларусі, галасаваньні па асобах і іншыя дасягненьні. Галоўнае было – ненавязьліва зрэжэсіраваць і (не націскаючы) сыграць.

Закон аб адкліканьні дэпутатаў намэнклятура хацела прыняць, каб потым пры яго дапамозе выкінуць нас з парляманту. Сутнасьць нашай псіхалягічнай тактыкі была ў тым, што мы дружна выступілі за прыняцьце гэтага закона (які для нас стаў бы пятлёй на шыі). Камуністы (асабліва ветэранскі „бэтон") зьбянтэжыліся і западозрылі, што „напэўна" ў нечым тут яны памыліліся („недосмотрели"), і Апазыцыя хоча скарыстаць іхны пралік. Падумалі ... і прагаласавалі супраць свайго ж праекта. На гэта мы і разьлічвалі, ведаючы іхнюю паранойную псіхіку. Справа была сур'ёзная і для нас безвыходная, але абыгралі мы камуну зь лёгкасьцю і сьмехам.

У падобным стылі мы выйгралі і галасаваньне за Дэкларацыю аб суверэнітэце, калі з’імітавалі правакацыйны выхад з залі пасьля таго, як ўся праца намі была ўжо прароблена. Тым самым мы запабеглі перагляду нашай працы і падштурхнулі намэнклятуру дружна прагаласаваць агулам „за” ў піку нам („которые бросілі всё і ушлі”).

Вышаўшы з залі, мы назіралі сэсію па тэлевізары. Адчувалася, што манэўр падзейнічаў, але калегі хваляваліся надзвычайна. Стаяла зацятае маўчаньне. І вось тады, калі Дэкларацыя была прынятая (прайшла па той простай схеме галасаваньня, на якую мы і разьлічвалі), адбыўся выбух радасных эмоцыяў маіх калег, некаторыя нават прытанцоўвалі. У залю мы ўвайшлі шчасьлівыя, ледзь ні абымаліся. Памятаю заклапочаныя твары некаторых намэнклятуршчыкаў (асабліва ветэранскага „бэтону”), якія глядзелі на нас, здавалася, зь нейкай містычнай няўцямнасьцю. „Товарішчі, оні нас развелі!” – пачуўся „бэтонны” голас. Але было ўжо позна – мы сьвяткавалі перамогу.

## ПСІХАЛОГІЯ І ЭТЫКА ЗМАГАНЬНЯ

Звычайна я не імкнуўся часта выступаць на сэсіях. Галоўнае, каб выступала каманда. Каманда ж была такая, што ніколі нікога ня трэба было штурхаць. Наадварот, часам трэба было стрымліваць актыўных, каб не перабраць меры. Сябры таксама разумелі, што на сэсіях мне трэба было захоўвацца нібы трохі знутры, каб не дапусьціць фармальнай дэвальвацыі пазыцыі, якая важная была для ўсіх нас. Мая стрыманасьць часам непакоіла ветэранскі „бэтон” („замышляет что-та”). Калі ж прыходзілася выступаць – усе яны раптам замаўкалі,

у залі рабілася ціха. Нашыя палітычныя праціўнікі насьцярожана прыслухоўваліся („К чему он клонит?”). Чытаючы сваю ж камуністычную антыфронтаўскую прапаганду, яны ўспрымалі нас у скрыўленым вобразе і не разумелі, што мы, будучы інтэлектуальна вышэйшымі, скарыстоўвалі псіхалагічныя вынікі іхнай прапаганды супраць іх самых.

Увогуле, псіхалагічныя практыкаваньні ў гэтым асаблівым Вярхоўным Савеце сталі нашым „фірмовым” канька. Мы ўважліва назіралі за настроямі намэнклятурнай масы і (дзе магчыма) ужывалі сваю „джыу-джытсу”. Часам дастаткова было аднаго штрышка ў адпаведным моманце. Напрыклад, калі выбіралі першага Генэральнага пракурора незалежнай Беларусі, нам удалося падштурхнуць сакратара райкама КПБ Заводзкага раёна Менска Іосіфа Вашкевіча, каб той выступіў і падтрымаў кандыдатуру ***Мікалая Ігнатовіча*** – знакамітага сьледчага пракуратуры (я ведаў, што ў іх добрыя адносіны). Палова залі дрэнна арыентавалася, ня ведала, што рабіць (такі ў іх быў бесталковы стыль працы). Выступленьне сакратара райкама ў такіх выпадках было для дрымучых камуністаў сігналам, як галасаваць. І прагаласавалі за Ігнатовіча. Мала хто ведаў, што Ігнатовіч пасьлядоўны прыхільнік Фронта, што Народны Фронт правёў яго ў народныя дэпутаты СССР у 1989 г. Цікава, што ў гэты ж дзень я аказаўся сьведкам як група партсакратароў „пясочыла” Вашкевіча за „оплошность” („Это же БНФ! Чего ты вылез?” і г. д.).

Ігнатовіч, здаецца, не прабыў на пасадзе і году. Яго зьнішчылі (верагодна, пры ўдзеле КГБ). Пасьля сэрыі правакацыяў ён раптоўна захварэў і дагарэў проста на вачах. Перад смерцю я заходзіў да яго ў Лечкамісію. „Гэта разгалінаваная банда, – казаў ён пра „іх”, – яны будуць агрызацца, як шакалы” (Тут асобная справа. Некалі, у вольнай Беларусі, спадзяюся, яе раскрыюць.)

Характэрны выпадак прыпамінае таксама Юры Беленькі (гл. ***Галіна Пазьняк. Беларусь у сэрцы, – Варшава-Нью-Ёрк-Вільня, – 2007, стар. 127-129)*** пра тое, як Апазыцыя БНФ не дапусьціла выбраньня на старшыню Вярхоўнага Савета члена ЦК КПБ В. Ціхіню (які на пасадзе быў бы больш шкодны для Беларусі, чым Дземянцей). Апазыця БНФ правалiла галасаваньне камуністычнай бальшыні.

Мы павінны былі перамагаць у татальным варожым асяроддзі, інакш не было б сэнсу быць у савецкім Вярхоўным Савеце. Таму для нас істотным стаў этычны момант і так званая кулуарная праца. Прынцып быў просты: палітычных праціўнікаў асабіста не зьневажаць, ня крыўдзіць, не злаваць, падтрымліваць прыязныя асабістыя дачыненьні, пры нашай самай жорсткай і антаганістычнай палітычнай пазыцыі. Размаўляць зь імі, весьці размовы на розныя тэмы. Гэта давала магчымасьць мець інфармацыю, набываць прыхільнікаў па асобных пытаньнях і іхныя галасы; асабліва зацятых гэта часам расслабляла („теряли бдительность"). Удавалася прабіваць нават камуна-ветэранскі бэтон (прыклады: дэпутаты Шабашоў, Жукоўскі, Мілаванаў і інш.)

* * *

Тут узьнікае асаблівае пытаньне. Ці быў уплыў Апазыцыі БНФ на сьведамасьць дэпутатаў Вярхоўнага Савета? Для мяне гэта пытаньне з адным адказам – быў, і значны ўплыў. Інакш мы не забіралі б у іх галасы, ня мелі б павагі. А павага была, прытым суіснавала разам зь нянавісьцю. Калі ўжо надыходзіла дыктатура прэзыдэнта-калгасьніка, мы заўважылі, што яны нават губляліся, пачуваліся няўпэўнена і баязьліва, калі Апазыцыя адсутнічала ў залі. Паступова да шмат каго зь іх прыходзіла дзяржаўная сьведамасьць, разуменьне, што нашае тут, што трэ-

ба быць вольнымі і незалежнымі. І тут жа папраўляліся: „... але разам з Расеяй". На гэтым амбівалентным абсурдзе яны і спыніліся. Далей тады, здаецца, ніхто зь іх не разьвіўся.

Больш радыкальныя вынікі былі адносна камунізму. Нядзіўна, што яны так лёгка зь ім разьвіталіся. Тут наш уплыў быў істотны. Памятаю першыя месяцы Вярхоўнага Савета. Дэпутат Сяргей Шабашоў (былы першы сакратар Віцебскага абкама КПБ/КПСС – мясцовы ўдзельны князь) – акуратны, у касьцюмчыку, нібы ва ўніформе, з абласным шармам і з нейкай маскоўска-энкавэдзісцкай пацінай у манерах. Ён ядавіта фармуляваў колкасьці ў бок БНФ. Потым раптам сьціх, засумаваў, стаў задуманы і маркотны, слухаў, што казалі, круціў галавой, не выступаў на сэсіях. Выступіў дзесьці праз год. Сказаў, што ў Летуве бальшыня за „Саюдзіс", і што калі яны хочуць незалежнасьці, то ня трэба ім перашкаджаць (чым вельмі ашарашыў „таварышаў-камуністаў"). Заявіў, што складае з сябе дэпутацкія паўнамоцтвы, і ціха адышоў. (Гэта тады, калі ўсё бурліла і зьмянялася, і канец камунізму быў ужо відаць для разумных людзей.)

Падобнам чынам павёў сябе дэпутат ад ветэранаў Генадзь Мілаванаў. Ён быў чалавекам з паняцьцямі „камуністычнай справядлівасьці". Такія людзі часам перажывалі за камунізм, які (на іхнюю думку) „сказілі". Гэты таксама прыглядаўся ды прыслухоўваўся да таго часу, пакуль аднойчы, ў 1990 годзе, у пачатку восені, ні паехаў ў складзе дэпутацкай дэлегацыі ў Вільню, якая змагалася за незалежнасьць і якую падтрымліваў БНФ. Задача паездкі была – убачыць усё на ўласныя вочы і вывесьці „бэнээфовцев" і „саюдистов" на чыстую ваду.

Там Мілаванаў сапраўды шмат чаго ўбачыў. Вярнуўся ён маркотны і задуменны. Потым выйшаў на трыбуну сэсіі і, хвалюючыся, сказаў, што ў такога камунізма, які ён там назіраў, няма

будучыні і што паводзяць яны (камуністы) сябе там нядобра (ізноў жа, трэба было бачыць „товарішчей-ветеранов”).

Мілаванаў доўга не пажыў. Ветэраны партыі і НКВД яго зьелі, зацюкалі, зьнішчылі маральна, наладзілі яму абструкцыю нянавісьці, называлі „предателем” і загналі ў магілу. Труну з целам Мілаванава памясьцілі ў залі КГБ (у так званым „клубе Дзяржынскага”).

Сьмерць у палітыцы амаль заўсёды ёсьць (як гэта ня жорстка гучыць) фактам палітыкі (яе вынікам і працягам). Нам прыходзілася вырашаць і такое пытаньне – ісьці ці ня йсьці Апазыцыі на пахаваньне палітычнага праціўніка ў дом злачыннай акупацыйнай арганізацыі. Меркаваньні былі розныя. Але ўсе мы разумелі, што трэба аддаць даніну памяці чалавеку, які ў канцы жыцьця зрабіў учынак, годны справядлівасьці. Можа, гэты Мілаванаў і не страляў у патыліцу (мы пра яго амаль нічога ня ведалі). Ва ўсялякім разе камуністы, што напіліся нявіннай крыві, ніколі ня каяліся і паводзілі сябе інакш.

Мы прышлі на пахаваньне разам усёй Апазыцыяй. Там быў увесь Вярхоўны Савет. Памятаю выпучаныя вочы камуністычных ветэранаў (што ўжо яны там думалі, магчыма, што Мілаванаў агент БНФ).

## УНУТРАННАЯ ЭТЫКА, ДАЧЫНЕНЬНІ І ТАКТЫКА НА ПЕРАМОГУ

Яшчэ большая ўвага надавалася ў Апазыцыі БНФ дачыненьням паміж сабой. Істотнымі былі некалькі пазыцыяў. Перш за ўсё – аб'яднаць наш энтузіязм у канкрэтнай працы дзеля дасягненьня мэты і ажыцьцяўленьня задач. Тут мусілі




*23. Пасьля мітынгу. Зь лева З. Пазьняк.*

быць прыярытэты і пасьлядоўнасьць у працы. Але галоўнае – плянаваць, рыхтаваць і рабіць трэба было так і тое, што забясьпечвала б нам перамогу, ці хаця б частковы посьпех. Усімі спосабамі трэба было дасягаць перамогі і не дапускаць паражэньняў (інакш мог узьнікнуць псіхалягічны параліч). Гэта я разумеў даўно, як кажуць, і розумам і скурай. Перамога – важнейшая ўмова пасьпяховага змаганьня. Перамога (тым больш над такой фармальнай масай і колькаснай магутнасьцю,



*24. 1995 год. IV Зьезд БНФ. Зь лева на права С. Навумчык, У. Арлоў, Л. Дзейка, Р. Барадулін, В. Быкаў, Л. Баршчэўскі, М. Крыжаноўскі.*

як намэнклятурна-камуністычны дэпутацкі корпус) патрабавала сілы, давала нам сатысфакцыю, упэўненасьць у сабе, за што б мы ні браліся. Апазыцыйны Давід гатовы быў зьвярнуць горы. Лічу вялікім нашым тактычным дасягненьнем, што мы адразу, з ходу пачалі перамагаць, крушыць, блытаць, раскідваць гэтую намэнклятурную закасьнелую масу, не даючы ім апямятацца.

Але самая вялікая праблема асабіста для мяне была ня ў тым, як арганізаваць Апазыцыю і пабудаваць працу дзеля перамогі.

Самая вялікая задача была – арганізаваць самога сябе. Мяркую, што кіраваць, скажам, влікім савецкім заводам у пэўным сэнсе прасьцей, чым кіраваць партыяй. Там ёсьць Закон, тарыфы, субардынацыя, працоўная дысцыпліна, кантракт, зарплата і г. д. Любога парушальніка можна паставіць на месца, альбо звольніць. У партыі, і тым больш, у парляманцкай Апазыцыі, няма абсалютна ніякіх рычагоў улады і ўплыву, акрамя набыцьця аўтарытэту і ўменьня ўзаемадзейнічаць зь людзьмі, якія – такія ж, як і ты, валодаюць роўным статусам. Вось гэтым узаемадачыненьням мне прыходзілася вучыцца ўвесь час.

Атмасфэра ў нашым асяроддзі была заўсёды дзелавая і сяброўская. У нас ніколі не было павышэньня голасу, крыклівых гарачых спрэчак (прыкмета крызісу і недзеяздольнасьці калектыву). Як правіла, выказваліся розныя думкі, але, практычна, заўсёды прыходзілі да адзінага рашэньня. Мы прыслухоўваліся адзін да аднаго. Скажам, да мяне падыходзілі і казалі, што ў час маіх выступаў не павінна быць металу ў голасе, гэта адмоўна ўплывае на намэнклятуру („вот, смотрите, он же диктатор”). Прышлося ваяваць з „металам”.

Аднойчы, яшчэ ў пачатку працы Вярхоўнага Савета, адзін наш дэпутат, выступаючы вусна з трыбуны, дапусьціў некалькі памылак, замест арыгінальнага выказваньня атрымаўся ляпсус, які ў зале заўважылі і нават засьмяяліся. Тады (адзін на адзін) я сказаў гэтаму сябру, каб ён цэлы месяц не выступаў у зале, нідзе і ніяк (бо трэба, каб пра выпадак забыліся), а праз месяц каб падрыхтаваў пісьмовы выступ (калі захоча, маўляў, можа паказаць яго мне) і пасьля гэтага пачаў бы выступаць.

Усё так было і зроблена, з адпаведнымі карыснымі высновамі. Сутнасьць у тым, што няўдала выступіць у Вярхоўным Савеце (ды яшчэ выклікаць сьмех) магчыма было (як паказала

практыка) толькі адзін раз (гэта агульнае псіхалягічнае правіла, дарэчы). Пры паўторным правале такога дэпутата ўжо сур’ёзна не ўспрымалі. Ствараўся адпаведны „вобраз” (імідж). Ён „прыклейваўся” да чалавека. Паправіць становішча было вельмі цяжка, практычна, немагчыма. Шмат якія „гаваруны” ў савецкім парляманце зрабілі сабе псіхалягічнае „харакіры” з-за неуемнай цягі да непадрыхтаванага гаварэньня (калі яны выступалі, іх ўжо ніхто не ўспрымаў). Мы гэта бачылі і ўважліва ставіліся да сваіх слоў. Калі выступалі дэпутаты Апазыцыі, у залі цішэла, усе слухалі.

Вельмі важна, што ў дэпутацкай Апазыцыі БНФ не было сварак і ўнутраных канфліктаў. Дух сяброўства, прыўзьняты настрой, павага, дзелавы падыход – гэта была тыповая атмасфэра ў нашым асяроддзі. (Яшчэ і гумар, але пра гэта я тут не кажу.) Як я ўжо пісаў, з „адыходнікамі”, здраднікамі і асобамі з прыкметамі агентуры мы, асабліва не згаворваючыся, расставаліся спакойна, цьвёрда і непрыкметна, так, што гэтага амаль не заўважылі іншыя.

Нашыя непрыяцелі былі зацікаўленыя, каб у Апазыцыі існавалі канфлікты, скандалы, каб не было адзінства, каб мець нагоду яе прынізіць і т. п. Мы ўсё гэта выдатна разумелі і былі вельмі ўважлівымі да сытуацыі і дачыненьняў.

Уваходзячы ў парляманцкую залю, мы ўжо былі падрыхтаваныя да выступаў і да пэўных дзеяньняў дзеля той ці іншай задачы. Але ў межах пастаўленай задачы заўсёды была творчая імправізацыя нашых дэпутатаў. Бо ўсяго нельга было прадбачыць, і сытуацыя часта мянялася. Нашая Апазыцыя не была так жорстка скаваная і павязаная рыгарыстыкай, як у клясычным (скажам, у брытанскім ці канадзкім) парляманце. Тады б мы нічога не зрабілі. Але, разам з творчым падыходам,

заўсёды ў нас была дысцыпліна, актыўнасьць, бачаньне залі, імкненьне ўплываць на сытуацыю. Калі ж раптоўна зьяўляліся нейкія новыя акалічнасьці, то паводзіны, тэмы, выступы рэгуляваліся праз старшыню Апазыцыі і потым хутка ўдакладняліся ў перапынку, на кароткай зборцы дэпутатаў.

## НЕ ПАМЫЛЯЦЦА І ПЕРАМАГАЦЬ

Наша стратэгія перамогі дазволіла нам распрацаваць і адпаведную тактыку дзеяньняў і паводзінаў дзеля ажыцьцяўленьня гэтай стратэгіі. Улічваючы важнасьць падзеяў, якія адбываліся хутка, сканцэнтравана, часам нечакана і ўлічваючы нашу дэпутацкую малалікасьць, вельмі важна было ў гэтым пераменным працэсе гісторыі вызначыць дакладнае месца і дакладны час прыкладаньня нашай сілы. Гэта ўжо амаль мастацтва, але і яно нам удавалася. Найбольш характэрны прыклад гэтаму якраз – спыненьне дзейнасьці КПСС у Беларусі і здабыцьцё незалежнасьці. Нам удалося не спазьніцца з сэсіяй Вярхоўнага Савета і дамагчыся яе адразу (праз два дні ) пасьля путча (а прыйшлося менавіта дамагацца). У залю мы ўвайшлі зь *Бел-Чырвона-Белым Сьцягам*. Гэта істотна. Камуністы павінны былі адразу зразумець, што ўвайшла перамога і новая незалежная Беларусь.

Тут таксама ўсё ад пачатку было прадумана. Сьцяг ў залю ўнесла Г. Сямдзянава, а ў Прэзыдыюм яго па маёй просьбе занёс і паставіў В. Голубеў. (Г. Сямдзянава дапамагала там замацаваць сьцяг.) Тады ж, калі стала зразумела, што сэсія можа пайсьці ў бок і не па нашым сцэнары (бо камуністы пачалі абмяркоўваць сьцяг, які яшчэ ня быў афіцыйнай сымволікай), я папрасіў В. Голубева забраць Сьцяг і паставіць у нашым 1-м апазыцыйным



*25. 24-га жніўня 1991 года. В. Голубеў са Сьцягам.*

сэктары. (Усе гэтыя этапы адлюстраваныя на фота.) Мы тут жа ўзялі ініцыятыву ў свае рукі і паставілі пытаньне аб зьняцьці М. Дземянцея з пасады Старшыні Вярхоўнага Савета.

Істотным таксама быў бурны напор на Прызыдыюм і на Дземянцея з першых жа секундаў сэсіі. Намэнклятуршчыкі павінны былі адчуць, што мы можам іх разарваць (пад сьценамі парлямента стаяла 30-40 тысяч людзей). Памятаю, што Павел Холад крычаў без мікрафона і роў, як труба Архангела.

Калі б мы празявалі эпізод з выхадам да трыбуны сакратара ЦК КПБ А. Малафеева, у нас, напэўна, узьніклі б праблемы са спыненьнем дзейнасьці КПСС. Ня мае значэньне, што казаў бы гэты першы сакратар (прамоўца зь яго быў ніякі). Істотна было тое, што калі б яму ў той сытуацыі далі выступаць, гэта стала б знакам для намэнклятуры, што КПСС яшчэ ліпіць і што „ня



*26. Дэпутаты Апазыцыі БНФ праганяюць А. Малафеева з трыбуны.*

ўсё страчана”. Таму нашыя дэпутаты зрэагавалі імгненна, і з усіх канцоў залі кінуліся напярэймы Малафееву. Яго адагналі ад трыбуны, не далі выступаць. (Малафееў быў дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР і пачуваўся нахабна, думаў, што ўсё будзе, як некалі.) Далейшы працэс сэсіі пайшоў па нашым раскладзе.

Тое самае (момант часу) перад галасаваньнем за незалежнасьць, калі ўсё вырашалі секунды, і трэба было знайсьці рычаг і выступіць, каб падштурхнуць усю дэпутацкую бальшыню да рашучага выбару.

У мяне было адчуваньне няпэўнасьці ў залі. Агульны настрой быў за незалежнасьць, але ветэраны партыі і НКВД пры любых умовах былі б супраць, і калі б да іх далучылася яшчэ нейкая частка савецкіх, то можна было б не набраць 2/3 галасоў



(Фота А. Кляшчука)

*27. Вечарам перад Вярхоўным Саветам.*

(канстытуцыйную большасьць). Вельмі невыразна паводзіў сябе сьпікер Шушкевіч. Складвалася ўражаньне, што ён не зацікаўлены ў станоўчым галасаваньні і падтрымае тых, куды хісьнецца воля і нават настрой дэпутатаў. Апошняя яго рэпліка перад гістарычным галасаваньнем мяне проста зьбянтэжыла і ашаламіла, яна была нібы падказка – не галасаваць. Славаблудзтва было, відаць, не ад злой задумы, а хутчэй ад сумбуру думак (які потым даўся нам у знакі). Трэба было імгненна нешта зрабіць, заставалася секунда-дзьве.

Я ўзяў слова і паспрабаваў зьвярнуцца да нацыянальнай годнасьці і прагматычнага інтарэсу савецкіх дэпутатаў, паказваючы агрэсіўную сутнасьць палітыкі з усходу і нямякаючы на „сьвятую" тады карову часовай маскоўскай дэмакратыі – Барыса Ельцына, які патэнцыйна стаяў за гэтай палітыкай і якога не любіла косная беларуская партнамэнклятура. Здаецца, я ўгадаў іхныя думкі, яны сталі выступаць у падтрымку незалежнасьці, і

прытым дастаткова абгрунтавана. Стрэлка рашучай гатовасьці ў зале перад галасаваньнем пайшла ў гару.

Галасаваньне было пераважным. За незалежную Беларусь прагаласаваў, практычна, увесь Вярхоўны Савет. Чуліся апладысменты. Гэта была радасьць, ад якой займала дух (пра гэта гл. *Сяргей Навумчык. Сем гадоў... с. 62, 63)*.

Істотная прычына, чаму колькасна малалікая, але энэргічная дэпутацкая Апазыцыя БНФ здолела адразу перавярнуць той Вярхоўны Савет і навязаць яму сваю палітыку, была ня толькі у выключных якасьцях гэтай Апазыцыі, ня толькі ў савецкай асаблівасьці і парляманцкай адсталасьці таго Вярхоўнага Савета, але і ў тым выдатным факце, што, змагаючыся, Апазыцыя БНФ не нарабіла памылак, якія падарвалі б яе сілы, ці выключылі б з барацьбы, ці скампрамэтавалі б перад выбаршчыкамі. Малалікая структура ў варожым асяроддзі не магла памыляцца ў істотных пытаньнях. Інакш яе тут жа растапталі б. Памыляцца магла парляманцкая бальшыня, ёй гэта менш небясьпечна. Посьпех для нас заключаўся ў парадыгме: не памылыцца і перамагаць. Сакрэт якраз у тым, што нам гэта ўдалося.

## НАКАНАВАНЬНЕ ВЫМУШАНАГА КАМПРАМІСУ

Але ёсьць адно пытаньне, на якое адказаць няпроста: памылку мы зрабілі ці не памылку, што ўцягнулі ў палітыку С. Шушкевіча. Ацэнкі і эмоцыі франтаўцаў адносна ягонай асобы адмоўныя. Але гэта эмоцыі. Тады, у канцы 80-х, мы не маглі наўпрост выбрацца ў народныя дэпутаты СССР, як гэта змаглі зрабіць народныя франты ў Прыбалтыцы. Прыбалтыйскія кампартыі былі

нацыянальна арыентаваныя. Камуністычная партыя Беларусі (найперш кіраўніцтва) была антынацыянальная. Ад антыбеларускага цемрашальства гэтай партыі нашая інтэлігенцыя шукала паратунку нават у Маскве (у маскоўскага начальства).

У выбарчым заканадаўстве СССР 1989 года. быў прадугледжаны партыйны фільтар – сходы дзяржпартактыву з прыцягненьнем грамадзкасьці, якія рыхтавалі райкамы КПСС. На сходах выбіралі (адкрытам галасаваньнем) кандыдатаў у дэпутаты. Праз камуністычны фільтар не прайшоў тады ні адзін фронтавец. Прыйшлося нам шукаць падстаўных камуністаў. Нам удалося правесьці праз „фільтры" такіх падстаўных сем асобаў. Потым усіх іх Фронт правёў у народныя дэпутаты СССР. Зь іх толькі адзін (М.Ігнатовіч) апраўдаў нашу працу. Астатнія альбо здрадзілі (А. Жураўлёў), альбо нічым сябе не праявілі.

Ва ўнівэрсітэце (БДУ) у нас была ўжо даволі моцная суполка БНФ. Адтуль мне паведамілі пра Шушкевіча, што яны (фронтаўцы) яго падтрымліваюць і што ён ня супраць балатавацца. Калі ён прайшоў ужо праз унівэрсітэцкі сход, я пазваніў яму і запрасіў прыехаць у Акадэмію Навук, дзе я працаваў, каб пагаварыць пра выбары. Шушкевіч прыехаў. Размаўлялі ўтрох: мы зь Міхасём Чарняўскім (ад Аргкамітэту БНФ) і С. Шушкевіч. Сутнасьць нашай прапановы была ў тым, што, калі Шушкевіч падтрымлівае пазыцыю, ідэалы і палітыку БНФ, то мы (Фронт) будзем праводзіць яго ў Вярхоўны Савет СССР (агітацыя, прапаганда, групы падтрымкі і г. д.). (Тут зазначу, што на той час у грамадзтве было толькі дзьве сілы, якія здольныя былі правесьці кандыдата ў дэпутаты – гэта КПСС і Фронт. Больш нічога не было.) Шушкевіч пагадзіўся.

За Шушкевіча Фронт вымушаны быў, што называецца, выкласьціся. Сытуацыя набыла рэзкі паварот і стала справай



прынцыпу. Шушкевіч аказаўся супернікам 1-га сакратара Менскага гаркама КПБ (быў такі Галко за саветамі – гэта, фактычна, галоўная асоба гарадзкой улады ў горадзе, бо рэальна кіравала кампартыя). Ну, не магла ж правячая камуністычная намэнклятура прайграць выбары БНФ, які яна ненавідзела („презирала”). Мы таксама не павінны былі тут прайграць намэнклятуры. Справа прынцыпу. Схліснуліся дзьве сілы, пачалася барацьба, у якой задзейнічаліся дзясяткі тысячаў людзей – увесь Фронт і ўся кіруючая дзяржаўна-палітычная магутнасьць у Менску, дзе бушавалі страсьці і сыпаліся іскры. Сотні нашых агітатараў хадзілі па кватэрах, сутыкаліся на мітынгах і ўстановах, расклейвалі і раськідалі ў кожную паштовую скрыню выбаршчыкаў лістоўкі (а гэта тысячы кватэраў). Лістоўкі таксама рабілі і тыражавалі фронтаўцы за свае грошы на ратапрынце, у друкарнях, ціхенька дамовіўшыся з работнікамі, на працы – хто як мог, але з энтузіязмам шукалі выйсьце, бо ўсе друкарскія сродкі былі пад пільным кантролем КПСС).

У дзень выбараў Фронт наладзіў вельмі жорсткі і пільны кантроль на ўсіх выбарчых участках. Падчас падліку назіральнікі



*28. Перадвыбарчы мітынг БНФ у Менску 25 Сакавіка 1989 г.*

стаялі блізка (за адзін мэтар ад лічыльнікаў), назіраньне было вельмі шчыльным. Сфальсіфікаваць бало няпроста (хоць улады стараліся).

Па маіх назіраньнях, Шушкевіч ня вельмі арыентаваўся, чаму гэта ён „без лишней драки попал в большие забияки”. Ён нязьменна казаў на мітынгах, што падтрымлівае Фронт на 95 адсоткаў, і ўсе лічылі, што гэта ў яго прапагандысцкі прыём для

выбаршчыкаў (а ў сапраўднасьці, маўляў, тут 105 адсоткаў). Фронт перамог. Нічога не дапамагло камуністам: ні спробы фальсіфікацыі галасоў, ні ўлада. Сістэма ўжо пачала трашчэць пад нашым напорам.

Фронтаўцы, якія ўдзельнічалі ў гэтым выбарчым змаганьні, глядзелі і слухалі потым па тэлебачаньні сьмелыя выступы на Зьездзе народных дэпутатаў СССР прыбалтыйскіх дэпутатаў, што абаранялі сваё. Усе ў Народным Фронце чакалі выступу Шушкевіча. Доўга яго не было чуваць. Нарэшце, яму далі слова, і ён невыразна і блытана пачаў нешта казаць (прагаворваць), безадносна да Беларусі. Потым яшчэ – тое ж самае. Для масы фронтаўцаў, якія адпрацавалі тады на выбарах, як ніколі ў жыцьці, гэта быў шок і вялікае расчараваньне. Некаторыя (менш загартаваныя ў барацьбе) нават адышлі пасьля гэтага ад БНФ.

У 1990 г. пытаньне выбараў С. Шушкевіча ў Вярхоўны Савет БССР Народны Фронт пакінуў на рашэньне раённай арганізацыі Фронта, дзе была выбарчая акруга Шушкевіча. Кіраўніцтва БНФ было ня супраць, але не вязала з гэтай асобай ніякіх надзей. Раённая арганізацыя БНФ пасьля доўгіх дыскусіяў усё ж падтрымала Шушкевіча, і мы зноў убачылі яго ў Вярхоўным Савеце БССР.

І зноў узьнікла сытуацыя пустаты нэўтральнай паласы паміж двума сіламі, якую мусілі запаўняць кампрамісныя фігуры. Гэта быў, як зубны боль.

У 1991 г. (зноў зьбегам абставінаў) стаўшы сьпікерам пры падтрымцы дэпутацкай Апазыцыі БНФ, Шушкевіч пастаянна казаў пра „згоду” з намэнклятурай, вінаваціў Апазыцыю БНФ, што яна парушае гэтую „згоду”, адключаў нам мікрафоны ў зале, кідаў зьняважлівыя слоўцы, усяляк дэманстраваў бальшыні, што ён ня з намі, што ён „самастойны”, што „ўрад працуе”, а Апазыцыя толькі крычыць і г. д.

Шмат хто з дэпутатаў Апазыцыі ўсё ж мелі яшчэ ілюзіі, прасілі мяне пагаварыць з Шушкевічам. Я ведаў, што гэта абсалютна бяссэнсоўна, але сытуацыя ўжо станавілася пагрозлівай для Незележнасьці (доўжыўся яшчэ так званы „Нова-Агароўскі працэс", аб падпісаньні навага саюзнага дагавору, у які ўцягнуўся Шушкевіч).

Вырашылі наладзіць спатканьне Апазыцыі са сьпікерам. Спатканьне адбылося 5 сьнежня 1991 г. Шушкевіч прышоў у наш пакой і быў нейкі ўзбуджаны, вельмі шмат і хутка гаварыў, перабіваючы кожнага тонам чалавека, які ведае больш і лепш. Я гаварыў мала больш даваў слова іншым. Усіх хвалявала, што Шушкевіч ублытаўся ў перамовы з Гарбачовым аб навым саюзным дагаворы і, фактычна, гатовы быў ужо пастурацца беларускім суверэнітэтэтам.

Ён гаварыў раздражнёным і нецярпімым тонам. „Вы мышы, – казаў Шушкевіч дэпутатам Апазыцыі. – Урад працуе! Вы мышы!" І далей нешта пра званочак „кату на хвост." Памятаю, што ў некаторых маіх сяброў літаральна раскрыўся рот ад такога тону і нечаканасьці. Ні адну думку, ні адну пазыцыю, ні адзін довад Шушкевіч не ўспрыняў. Усё адкінуў, усё аспрэчыў, гаворачы шматслоўна і хутка, нават не задумваючыся. На заўвагу Сяргея Навумчыка пра Чарнобыль ён тут жа, з ходу абвінаваціў Фронт у тым, што Фронт раскрыў праўду пра Чарнобыль і гэтым самым напалохаў народ, выклікаў у яго „радыёфобію."

Пасьля гэтага запанавала маўчаньне. Здаецца, той, хто нечага ня ведаў, ужо ўсё зразумеў. Я зачыніў паседжаньне, і Шушкевіч пайшоў, задаволены сабой, што адкінуў усе аргумэнты Апазыцыі і лёгка (як ён, відаць, думаў) з усімі расправіўся. Я нічога не камэнтаваў, бо бачыў, што некаторыя былі амаль што ў шоку.

Спатканьне з Шушкевічам аказалася карысным у тым пляне, што цалкам зьніклі ўсе ілюзіі ў тых, хто іх яшчэ трымаў. Адразу выбудавалася адналітая прагматычная пазыцыя да яго асобы ў палітыцы. Але і тут мне прыходзілася шмат каго пераконваць (ужо наадварот) – падтрымаць Шушкевіча на пасадзе.

Шушкевіч не задавальняў намэнклятуру, мазоліў вочы Кебічу і ўраду сваім гаварлівым сумбурам, некаторым – сваёй адукацыяй і беларушчынай. Яны не ўспрымалі яго за „свайго", як Шушкевіч ні стараўся прыпадобіцца; не дапамагалі ні „згода", ні „ўрад працуе", ні лазьня (у камуністычнай намэнклятуры быў бзік – хадзіць разам у лазьню, сумесная лазьня была ў іх пасьвячэньнем у „свае"). Два разы на працягу 1993 года яны спрабавалі адхіліць Шушкевіча ад пасады галасаваньнем. І абодва разы Апазыцыя БНФ праводзіла працу, здабывала галасы і выратоўвала Шушкевіча. Мне гэта каштавала шмат высілкаў, каб угаварыць сяброў галасаваць за Шушкевіча. Скажу шчыра, палова нашых дэпутатаў ужо не хацела яго падтрымліваць, але палітычная лёгіка была няўмольная, і ўсе падпарадкоўваліся неабходнасьці, ведаючы, што з намэнклятурным сьпікерам можа быць яшчэ горш.

Выйшаўшы „сухім", Шушкевіч працягваў сваю „згоду", „урад працуе" і прадаўжаў бэсьціць Апазыцыю. Нехта з намэнклятуршчыкаў зрабіў яму правакацыйную заўвагу пра гэта. „А куды ім дзявацца, – адказаў Шушкевіч, – будуць мяне падтрымліваць."

Я разумеў, што трэці раз у яго абарону мне будзе вельмі цяжка пераканаць дэпутатаў, што, магчыма, я ўжо нікога не ўтрымаю ў рамках прагматычнай неабходнасьці – скончыцца „зубны боль". Людзі ёсьць людзі, пра іхныя якасьці ў палітыцы ніколі нельга забывацца. Сваім неабдуманым гаварэньнем, непаважнымі заўвагамі на сэсіях (вымаўленых скарагаворкай), стараньнем ўсё адпрэчыць, віляньнем і шматслоўем ён залез у скуру шмат якім

самалюбівым дэпутатам з Дэмклубу і намэнклятуры, выклікаючы раздражэньне і нецярпімасьць да сваёй асобы. Памятаю, што дэпутат В. Ганчар (які ў Авальнай залі ВС сядзеў побач са мной) аж бялеў ад нянавісьці да сьпікера (Шушкевіч, здаецца, аднойчы зьняважыў яго самалюбства пустой заўвагай). Гэтаму ж Ганчару належылі і словы, якія ён падрыхтаваў як гістарычныя пасьля зьняцьця С. Шушкевіча (трэба было ведаць Ганчара і ягоныя позы): „Скончылася блытаная кар'ера блытанага палітыка".

Камуністычная (праўрадавая) бальшыня Вярхоўнага Савета выкарыстала факт, што Пракуратурай і КГБ быў дадзены дазвол летувісам на арышт у Менску двух камуністычных путчыстаў зь Летувы. Намэнклятура абвінавaціла кіраўнікоў КГБ і МУС у парушэньні закона. КГБ і МУС былі ў падпарадкаваньні Вярхоўнага Савета (а фактычна – у Шушкевіча). Намэнклятура паставіла пытаньне аб міністрах на сэсіі, і Шушкевіч маладушна іх здаў (ня стаў нават абараняць). Міністраў зьнялі, і стала зразумела, што Шушкевічу засталося быць на пасадзе лічаныя дні.

Памятаю, калі Шушкевіч здаў міністраў, я ішоў у Авальную залю па пустым фае. З дзьвярэй выскоквае ўзбуджаны і чырвоны, як рак, старшыня КГБ (толькі што зьняты) генэралпалкоўнік Шыркоўскі, натыкаецца на мяне і гукае з попрыску: „Зянон Станіслававіч, ну, вы бачылі, які гэта чалавек, а? Это же самоубийца! Он от меня всё имел! Каждое утро! Всю информацию." Тут Шыркоўскі асёкся, уцяміўшы, хто перад ім, і толькі паўтараў: „Да-а-а, да-а-а".*

---

* Пачынаючы з другой паловы 90–х Шушкевіч пастаянна кажа пра свае „цудоўныя кантакты з КГБ" і пра абарону там двух сваіх дысертацыяў. (Апашні раз – інтэрв'ю на радыё Свабода 15 сьнежня 2009 г., гл. http://www.svaboda.org/content/transcript/1903155.html ). – *З. П.*)

У перапынку да мяне падышоў дэпутат Г. Казлоў (кадравы супрацоўнік ахоўных органаў, быў прызначаны каардынатарам дэпутацкай намэнклятурнай групы бальшыні „Беларусь”) і кажа: „Вось ваш Шушкевіч, ніякі ён не палітык, выпадковы чалавек”.



Да намэнклятуры далучыліся так званыя „маладыя ваўкі”: В. Ганчар, Д. Булахаў, А. Лукашэнка, А. Лябедзька. Іх падтрымаў Г. Карпенка і іншыя. Усе яны хацелі зьняць Шушкевіча, усім ён надакучыў, іх цяпер было шмат, амаль увесь Вярхоўны Савет. Ніхто зь іх не хаваў сваёй грэблівасьці і раздражненьня сьпікерам. У нас ён таксама сядзеў у пячонках, але мы (у адрозьненьне ад астатніх) здольныя былі, нягледзячы ні на што, сьцяўшы зубы, падпарадкавацца палітычнай неабходнасьці і зноў галасаваць за меншае зло. Аднак цяпер нас ўжо было замала. Мы пры сваёй малалікасьці не маглі ўратаваць становішча; ды й не было ўжо магчымасьці, калі сьпікер, здаўшы міністраў, пахаваў сябе сам, ператварыўся ў баласт для ўсіх. Гэта было больш сур’ёзна, чым здаваць і пляваць на Апазыцыю, лавіраваць на кампрамісе і ёрнічаць, што Апазыцыя ўсяроўна за яго прагаласуе.



*29. Дэманстрацыя Народнага Фронту ў Горадні. Беларускі Народны Фронт у пачатку 90 – х гадоў – гэта сапраўдны народны рух. У ім удзельнічалі людзі працы, інтэлігенцыя, рабочыя, інжэнеры, служачыя, былыя вайскавікі, дробныя прадпрыймальнікі, работнікі аховы здароўя, вучоныя, мастакі, хатнія гаспадыні – увесь спэктар грамадзтва. Гэта былі людзі, якія стваралі матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасьці, мелі цьвёрды сацыяльны статус, павагу ў грамадзтве і адказнасьць за свае дзеяньні. Сярэдні ўзрост людзей у Народным Фронце адпавядаў ідэальнай палітычнай шкале: 40-45 гадоў. Гэта яны, гэтыя людзі, сэрцам ўспрынялі Курапаты і падтрымалі барацьбу за незалежнасьць Айчыны. Яны прыўнесьлі сваю энэргію, чалавечнасьць, веру і здаровы дух у змаганьне за ідэалы свабоды.*



*30. Вось яны гэтыя людзі Народнага Фронту перад намі на фатаграфіях (фота 30-31). На мітынгі БНФ яны хадзілі, як у храм, як на малітву, як на глыток паветра, цэлымі сем'ямі, разам зь дзецьмі і бацькамі. Гэта на іхныя плечы абаперлася нашая незалежнасьць. Угледзьцеся ў іхныя адкрытыя, напоўненыя ўнутраннай прыгажосьцю абліччы, у іхныя вочы, сарамлівыя ўсьмешкі... Гэта наш народ. Гэта мы самыя. Любем жа гэты народ, ён вельмі харошы.*

Ніхто нават з больш-менш лаяльных намэнклятурных дэпутатаў не хацеў і слухаць, каб ізноў пакінуць Шушкевіча. Усе мае размовы зь імі натыкаліся на цьвёрдую негатыўную пазыцыю. У гэтай сытуацыі мы прынялі рашэньне не прымаць удзел у галасаваньні, бо заблякаваць галасы (як гэта было паўгады раней) мы ўжо ніяк не маглі. Няўдзел у заведама адмоўным галасаваньні меў для нас цяпер маральны аспэкт, на які Шушкевіч не надаваўся.

У час абмеркаваньня ягонай працы і кандыдытуры на сэсіі Шушкевіч меў магчымасьць вялікага выступу. Некаторыя чакалі, што ён, зразумеўшы наканаванасьць, выступіць, нарэшце, як трэба – усыпле пад заслону. Замест гэтага Шушкевіч зноў пачаў лавіраваць і, стараючыся спадабацца былым сакратарам абкамаў і райкмаў КПБ/КПСС, якія яго тут здымалі, стаў цытаваць, што сказаў Энгельс на магіле Маркса. Намэнклятура пры гэтым рагатала яму ў твар.

Некаторыя з маіх калег казалі мне, што бяспрынцыпнае, згодніцкае і канфармісцкае сьпікерства Шушкевіча прынесла непараўнальна больш шкоды Беларусі, чым карысьці. Я пярэчыў, што намэнклятурны сьпікер быў бы ўвогуле без „карысьці", была б адна „шкода", успомніце, маўляў, Дзямянцея. Мы ня можам мець фронтаўскага сьпікера ў гэтым Вярхоўным Савеце: тут альбо намэнклятура і непрыяцель, альбо кампрамісная фігура з усімі негатыўнымі наступствамі гэтай фігуры. Гэта вымушаная і часам вельмі непрыемная неабходнасьць, але яна дае магчымасьць бакам праводзіць больш гнуткую палітыку.

Пасьля Шушкевіча на пасаду сьпікера быў выбраны Мечыслаў Грыб (дамоўленая асоба паміж намэнклятурай і ўрадам) – чалавек даволі умеркаваны, але цалкам (хоць і без энтузіязму) выконваў палітыку намэнклятурнай дэпутацкай бальшыні. М. Грыб меў свае плюсы і мінусы, але ў новых умовах прэзыдэнцкай рэакцыі аказаўся такім жа бездапаможным, як і Шушкевіч.

## ВЫКАНАНЬНЕ АБАВЯЗКУ ПАРАД НАРОДАМ

Гаворачы пра дэпутатаў Апазыцыі БНФ як пра людзей і арганізаваных палітыкаў, што здабылі незалежнасьць Беларусі,

я маю на ўвазе толькі выкананьне імі абавязку перад народам і пакаленьнямі, што змагаліся і жылі да нас. Нічога б не было, каб за намі ні стаяў наш народ, яго актыўныя прадстаўнікі, згуртаваныя ў Народны Фронт, – нічога б не было, каб не існавала іхняй волі і іхняй падтрымкі, каб яны не стаялі за намі шэрагамі і ня дыхалі нам у патыліцу. Было запатрабаваньне грамадзтва. Людзі не хацелі камунізму і камуністаў, не хацелі іхняй улады, іхняй хлусьлівай, чужой, каляніяльнай палітыкі. Яны жадалі павагі, волі і лепшай долі, і верылі нам, што незалежнасьць Бацькаўшчыны верне беларусам сілу і годнасьць, адчыніць шлях да лепшага жыцьця, да сьветлай і вольнай будучыні ўсяго народа.

Істотна тое, што мы гэта разумелі, што мы мелі веру, адказнасьць і сьведамасьць нашай народнай рацыі. І гэта было найважнейшым у нашай працы і нашым змаганьні з камунай і імпэрскай Масквой. Важнасьць, прыярытэт нацыянальна-сьведамаснай пазыцыі ў дэмакратычнай і нацыянальна-вызвольнай барацьбе выразна ілюструе гісторыя. Там, дзе гэтай сьведамасьці не было, там не існавала нічога, акрамя паразы, канфармізму і здрады; ніякай сур’ёзнай барацьбы, акрамя імітацыі яе, якая заканчвалася прыстасаваньнем да абставінаў і калабарацыяй з антынародным рэжымам.

У гутарках старыя савецкія салдаты казалі мне, што на вайне, у наступе, у атацы адзіная магчымасьць застацца жывам – гэта перамагчы, бегчы толькі наперад, на акопы, на кулямёты. Усялякая нерашучасьць, кіданьне ў бок, паварот назад (на кулямёты НКВД) – зьніжаюць мізэрныя шансы жыцьця і набліжаюць сьмерць.

Камуністычная намэнклятура, яе верхавіна была паталягачна антынацыянальнай ў Беларусі. Яна па-халуйску гнулася пе-

рад Масквой, была уладным і выканаўчым ворагам беларускай незалежнасьці. Каб перамагчы – гэтага ворага, неабходна было толькі атакаваць. Бо набыць сілу малы фронтаўскі дэпутацкі авангард мог толькі за кошт дынамікі. Калі б мы дзесьці спыніліся, загаварыліся, пайшлі б на перамовы з тупой сілай, уключыліся б у іхныя камбінацыі – наша атака захлыснулася б і мы страцілі б шанц перамогі. Як добра, што Бог даў нам разуменьне як трэба змагацца і чаго ня трэба рабіць.

Між іншым, у тыя часы агентура аж вылузвалася са скуры, раючы нам „дзеля дабра Беларусі" ісьці на перамовы з антыбеларускай намэнклятурай, супрацоўнічаць з Кебечам, шукаць „згоду" ды не крытыкаваць Расею, ды не „выпячивать белорусский язык". Часам гэтую тарабаршчыну можна пачуць нават сёньня ад тых хто ня ведае як яшчэ можна прынізіць Беларускую нацыянальную рэвалюцыю.

* * *

Азіраючыся назад, аналізуючы ўсё спакойна з адлегласьці часу і ведаючы усё знутры – і ў Апазыцыі, і ў Вярхоўным Савеце, і ў грамадзтве, і ў тым часе, – я бачу, што гэта была ўнікальная дэпутацкая група, унікальная Апазыцыя і ўнікакльная яе праца.

***Дэпутаты Апазыцыі БНФ, апынуўшыся воляю лёсу ў тым пераломным часе на вяршыні пераменаў, зрабілі ўсё магчымае і амаль немагчымае, каб спраўдзілася мара пакаленьняў беларусаў аб свабодзе і незалежнасьці Айчыны, аб незалежнай беларускай дзяржаве пад сьвятым Беларускім Сьцягам і гэрбам Пагоня.*** Дзеля гэтага варта было жыць і цярпець, бо няма вышэйшай узнагароды для палітыка ў барацьбе, як свабода і незалежнасьць сваёй краіны. Гэтым самым сябры Апазыцыі

БНФ набылі гістарычны статус дэпутатаў, якія дамагліся незалежнасьці Беларусі.

* * *

Мяркую, што для ўсіх нас, дэпутатаў Апазыцыі БНФ, тыя цяжкія, але ўзьнёслыя дні змаганьня з „камунай" за волю і Незалежнасьць Бацькаўшчыны, тыя дні сталіся яркім пэрыядам жыцьця, працы і існаваньня. І, пэўна, шмат хто з нас сказаў бы, што пражыў гэты час недарма.

*25 сьнежня 2009 г., Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***



*32. Мітынг БНФ. 1996 г.*

# КРОК ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

**Калі я ўпершыню зайшоў у Авальную залю, адчуў тое, што, напэўна, адчувае асуджаны на сьмерць, калі яго ставяць перад расстрэльнай камандай. У вачах – нянавісьць, у манерах – упэўненасьць у абсалютным валоданьні тваім лёсам; хіба што зброяй былі ня стрэльбы, а кнопкі для электроннага галасаваньня.**

Дэпутаты БНФ складалі толькі 8 адсоткаў ад агульнай колькасьці Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня. Наша перавага перад сьмяротнікамі была ў тым, што можна было павярнуцца і сыйсьці. Але прыйшлося перамагчы эмоцыі і працаваць.

## ПРАКАМУНІСТЫЧНЫ ПАРЛЯМАНТ

Зразумець складанасьць прыняцьця Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце і шырэй – аднаўленьня Незалежнасьці Беларусі – немагчыма бяз тлумачэньняў раскладу палітычных сілаў ў пачатку 90-ых гадоў, пра якія ні сучасныя падручнікі гісторыі, ні афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі аб’ектыўна не гавораць.

На сакавіцкіх выбарах 1990 года ў Вярхоўны Савет БССР 12-га скліканьня Беларускі Народны Фронт выставіў сваіх кандыдатаў па большасьці з 310 акругаў (усяго было 360 мандатаў, але 50 дэпутатаў абіраліся, ці, лепш казаць, прызначаліся арганізацыяй ветэранаў, таварыствамі інвалідаў,

сьляпых і глухіх). Прадбачачы іранічныя ўсьмешкі, адразу скажу, што большасьць дэпутатаў ад трох апошніх таварystваў потым засьведчылі свае дэмакратычныя перакананьні і зрабіліся сапраўднымі прафэсійнымі парлямэнтарыямі; дэпутаты ж ад ветэранскай арганізацыі, колькасьцю у 30, вызначаліся гранічным непрыняцьцем усяго прагрэсіўнага і нацыянальнага. Яны да апошняга дня існаваньня ВС 12 скліканьня шалёна ненавідзелі ўсё беларускае, магчыма, таму, што ў большасьці – былі рускімі па нацыянальнасьці. Гэта былі пэнсіянеры – былыя партыйныя работнікі, генэралы, ветэраны КГБ. Яны блакавалі ўсе прапановы Апазыцыі БНФ. Гэтыя дэпутаты-ветэраны адыгралі чорную ролю ў найноўшай гісторыі Беларусі.

Народнаму Фронту на вясновых выбарах 1990 года ўдалося правесьці ў Вярхоўны Савет каля дваццаці сваіх кандыдатаў. Партыйныя (натуральна ж, камуністычныя) камітэты кантралявалі выбары; адмоўна паўплывалі і паклёпніцкія артыкулы, зьмешчаныя ў афіцыйных газэтах за дзень да выбараў, калі ўжо не было магчымасьці абвергнуць хлусьню.

Сапраўды, першы дзень у Авальнай залі пакінуў незабыўныя успаміны. Гэтыя некалькі сотняў партыйных сакратароў, старшыняў выканкамаў, дырэктараў прадпрыемстваў „сацыялістычнай вытворчасьці” падаліся ў нечым вельмі падобнымі; да таго ж (ці то выпадкова, ці то з нейкай невядомай мне прычыны) практычна, усе яны былі ў аднолькавых сьветла-блакітных касьцюмах. Жанчын было няшмат. Адна ветэранка, з зоркай Героя сацыялістычнай працы, паказала на мяне пальцам:

– Посмотрите, „бэнээфовец” такой молодой, а с бородой, что он этим хочет сказать?

Між іншым адзначу, што ці ні галоўнай перашкодай ва ўсталяваньні ўзаемаразуменьня з апанэнтамі быў якраз

наш малады ўзрост – мне было 28 гадоў, ***Мікола Маркевіч***, ***Ігар Гермянчук***, ***Юры Беленькі***, ***Лявон Баршчэўскі*** былі равесьнікамі плюс-мінус год, ***Валянціну Голубеву***, ***Лявонцію Зданевічу***, ***Вользе Галубовіч***, ***Сяргею Антончыку***, ды, бадай, большасьці дэпутатаў будучай апазыцыі не было і 35-ці. Саракашасьцігадовы Зянон Пазьняк здаваўся нам ў той час вельмі ўжо сталым і далёкім у гадах чалавекам. Праз некалькі тыдняў „ўзроставы бар’ер” зьнік.

## НЯ СІЛА АРГУМЭНТАЎ, А СІЛА АРЫФМЭТЫКІ

Ужо з першых дзён сэсіі дэпутатам БНФ прыйшлося ўступіць у супрацьстаяньне з пракамуністычнай большасьцю. Спачатку спрэчка ішла за пасаду старшыні Вярхоўнага Савета. ЦК КПБ вылучыла на гэтую пасаду былога сакратара ЦК па сельскай гаспадарцы Мікалая Дземянцея. Ужо пасля першых фраз Мікалая Іванавіча ўзьнікала пытаньне: як такі чалавек мог зрабіць кар’еру большую, чым заатэхнік калгасу? Дземянцей, па-просту, ня ўмеў гаварыць. Ён будаваў сказы, у якіх словы часам не стасаваліся па родах і ліках, утрымлівалі супярэчлівыя пазыцыі ў межах аднаго сказу. І самая знакамітая ягоная фраза – „Кто как хаціт, тот так і гаварыт” – выявіла інтэлектуальны ўзровень фармальнага кіраўніка БССР і надоўга прыклеілася да Дземянцея.

Мы разумелі, што Пазьняк ня будзе абраны гэтым дэпутацкім корпусам на пасаду старшыні ВС. (Цяпер я думаю, што, ўсё ж, трэба было вылучаць яго нават пры заведама непрахадным варыянце, каб ён змог агучыць канцэпцыю дасягненьня сувэрэнітэту на мільённую аўдыторыю; дэбаты з Авальнай залі вяліся ў прамой

радыётрансляцыі.) Таму спыніліся на двух кампрамісных кандыдатах: прарэктары БДУ, народным дэпутаце СССР Станіславе Шушкевічу і касманаўце Уладзімеру Кавалёнку (прытым Кавалёнак тут павінен быў адыгрываць дапаможную ролю). У той момант Кавалёнак выказваў дэмакратычныя перакананьні, а дзьве залатыя зоркі Героя Савецкага Саюза і пагоны генэрал-лейтэнанта істотна ўскладнялі спробы камуністычнай большасьці навешаць на яго шыльду „бэнээфаўца”. У выніку Кавалёнак саступіў месца Шушкевічу, якому і давялося змагацца за пасаду сьпікера зь Дземянцеем.



*33. „Прашу слова”.*

Калі падліковая камісія абвясьціла вынікі галасаваньня (большасьць, як і варта было чакаць, набраў Дземянцей), Народны Фронт вывеў да Дому ўраду дзесяць тысячаў чалавек. На наступны дзень нам удалося, спалучаючы тактыку ціску і кампрамісаў, прымусіць Дземянцея зьняць прапанаваную ім на пасаду свайго першага віцэ-сьпікера кандыдатуру намесьніка старшыні Горадзенскага аблвыканкаму Івана Машко і пагадзіцца з прызначэньнем на гэтую стратэгічна важную пасаду Станіслава Шушкевіча. (Заўважу, што адразу пасьля гэтага Станіслаў Станіслававіч чамусьці перастаў наведваць

пасяджэньні Дэмклубу і імкнуўся дыстанцыяваца ад БНФ. Ды і ўвогуле, нашыя спадзяваньні на падтрымку зь яго боку, калі ён заняў пасаду першага віцэ-сьпікера, аказаліся, з большага, не апраўданымі).



*34. Пётра Садоўскі. 2008 г.*

Далей ішла ня менш вострая барацьба за пасаду старшыняў парляманцкіх камісіяў (яны, па Канстытуцыі, уваходзілі ў склад Прэзыдыюму ВС). БНФ вылучыў, практычна, на кожную пасаду сваіх прадстаўнікоў (кіраўніком Планава-бюджэтнай камісіі – Юры Беленькага, Камісіі па міжнацыянальны станусках – Лявона Баршчэўскага, па міжнародных адносінах – Пётру Садоўскага і г.д.). Гэта давала магчымасьць пад час абнародаваньня праграмы і дэбатаў данесьці да насельніцтва сваю пазыцыю, практычна, у кожны беларускі дом, чаго БНФ раней быў пазбаўлены (але даволі хутка камуністы спахапіліся і спынілі наўпроставую трансьляцыю).

Аднак праграмы і аргумэнты, выказаныя дэпутатамі БНФ, у Авальнай залі ня браліся пад увагу: для камуністычнай большасьці галоўным было (як у супрацьпаветранай абароне) вызначэньне „наш”–„ня наш”. Ня „іхнія”–бязьлітасна зьбіваліся. Парадаксальна, але адукаванасьць кандыдатаў разглядалася як кампрамат. Анэкдатычны аргумэнт прагучаў, калі абмяркоўвалі Пятра Садоўскага на пасаду старшыні Камісіі па міжнародных адносінах: „Спадар Садовский вместо чтобы сделать что-то полезное для народа, изучил пять иностранных языков!”.

Садоўскі якраз быў усё ж абраны старшынёй „міжнароднай камісіі” і стаў адзіным дэпутатам БНФ у складзе Прэзыдыюму ВС, у астатнім жа нашыя кандыдаты „рэзаліся” пры галасаваньні. Не праходзілі і «кампрамісныя» фігуры.

Пад час выпрацоўкі канцэпцыяў, прадстаўленых нашымі кандыдатамі, выбудоўвалася мадэль рэалізацыі сувэрэнітэту – у эканоміцы, у фінансавай сфэры, у міжнародных дачыненьнях. Але самым прынцыповым было стварэньне дзяржаўных атрыбутаў і інстытуцыяў, якія павінна мець незалежная дзяржава: ўласная фінансавая сістэма, уласнае войска, самастойная міжнародная палітыка. Якраз гэта абсалютна не ўспрымалася парлямэнцкай большасьцю.

## БНФ ПАТРАБУЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Яшчэ 11 траўня 1990 году Сойм БНФ заявіў пра незалежнасьць Беларусі як палітычную мэту, а ў канцы таго месяца БНФ правёў агульнанацыянальную канфэрэнцыю „Незалежная Беларусь” з удзелам больш як шасьцідзесяці дэмакратычных дэпутатаў усіх ўзроўняў (ад Вярхоўнага да раённых Саветаў). Асноўны даклад зрабіў Пазьняк.

Распрацаваны БНФ праект Дэклярацыі аб сувэрэнітэце ў чэрвені 1990 году быў прапанаваны Вярхоўнаму Савету.

Калі Пазьняк казаў на сэсіі ВС пра сувэрэнітэт Беларусі як менавіта абвяшчэньне незалежнай дзяржавы, большасьць дэпутатаў слухала яго так, як бы ён абвясьціў, што ў Менск прыляцелі прадстаўнікі іншай галактыкі, і вось толькі што ён зь імі размаўляў. На тварах дэпутатаў чыталася ці ня ўся гама пачуцьцяў – ад зьдзіўленьня да сарказму. Эканамічная

самастойнасьць яшчэ так-сяк ўспрымалася (сакратарам і дырэктарам надакучыла выпрошваць на кожную дробязь дазвол Масквы), а вось уласная грашовая сістэма, уласнае войска, самастойная міжнародная палітыка – не, гэта было па-за межамі іх разуменьня.

## АНТЫБЕЛАРУСКІЯ БЕЛАРУСЫ

У гэтым, між іншым, была трагедыя Беларусі: у адрозьненьне ад Летувы, дзе суверэнітэту патрабавалі ў Гарбачова сакратары ЦК кампартыі Летувы, ці Эстоніі, дзе ЦК кампартыі Эстоніі падтрымаў ня толькі свой Народны Фронт, але дапамагаў іншым, ці хаця б Украіны, дзе сакратары ЦК і абкамаў паміж сабой размаўлялі па-украінску нават у савецкія часы, – партыйнае кіраўніцтва Беларусі на 99,99 адсоткаў не ўспрымала нацыянальныя інтарэсы як свае. Як прыклад – з дакумантаў выкрэсьліваліся словы „беларускі”, „нацыянальны”.

І гэта пры тым, што, практычна, усё кіраўніцтва, практычна, увесь партыйны апарат быў этнічнага беларускага паходжаньня. Аднак у 1988 годзе гэты партапарат распачаў маштабнае цкаваньне толькі што ўтворанага БНФ і яго старшыні менавіта з-за „нацыяналізму”, у «нацыяналізме» на «адзіных палітднях» (якія былі абавязковымі ва ўсіх установах і прадпрыемствах) абвінавачвалі і Васіля Быкава. Неверагодна, але пасьля адстаўкі сакратара ЦК Аляксандра Кузьміна адзіным „адвакатам” Быкава ў кіраўніцтве быў прысланы з Масквы другі сакратар ЦК КПБ расеяц Ігруноў – сакратары-беларусы патрабавалі „крыві” народнага пісьменьніка за тое, што асьмеліўся выступіць у абарону беларускіх каштоўнасьцяў. Вялізны

супраціў выявіў партапарат і абраньню дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня Рыгора Барадуліна (якому не далі стаць абраным).

Такім чынам, дасягнуць нашай мэты нам было ўдвая складаней, чым летувісам ці украінцам: тым даводзілася змагацца толькі з Масквой, нам жа – яшчэ і з нацыянальным нігілізмам «свайго» кіраўніцтва, усяго партыйна-дзяржаўнага апарату. Але Масква была далёка, а свае – тут, побач. Самыя зацятыя праціўнікі Незалежнасьці, самыя апантаныя змагары з нацыянальнымі каштоўнасьцямі – была мясцовая камуністычная наменклятура.



*35. Зянон Пазьняк. 1990 г. Першая сэсія ВС.*

## ПАЗЬНЯК ПРАПАНУЕ ПАГУТАРЫЦЬ „НЕФАРМАЛЬНА"

Спачатку Вярхоўны Савет адрынаў саму ідэю прыняцьця дэкляраціі аб суверэнітэце. Пасьля таго, як падобныя дэкляраціі прынялі Украіна і Расея, Дземянцей заявіў, што і Беларусь павінна зрабіць аналягічны крок (і нават афіцыйную парляманцкую камісію стварылі). Такая дыямэтральна супрацьлеглая зьмена пазыцыі тлумачыцца проста: Прэзыдэнт СССР Гарбачоў змагаўся са старшынём ВС РСФСР Ельцыным, і

яму было аб’ектыўна выгодна „размыць” расейскую дэкларацыю дэкларацыямі іншых рэспублік; пры гэтым ён нічога не губляў, бо Канстытуцыі ўсіх рэспублік і раней утрымлівалі фразу пра суверэнітэт, а ў дэкларацыі прапаноўвалася ўключыць пункт аб падпісаньні новай саюзнай дамовы. Менавіта такі варыянт і меў на ўвазе Дземянцей.

Але – для нас гэта быў шанец. Мы палічылі неабходным скарыстаць яго максымальна, прапанаваўшы такія палажэньні, якія б канстытуцыйна замацавалі суверэнітэт і дазволілі распачаць будаўніцтва незалежнай дзяржавы.

У камуністаў не было ніякага праекту – у нас праект Дэкларацыі быў падрыхтаваны. Гэта, бясспрэчна, было вялікім плюсам, але вопыт абраньня старшыняў камісіяў паказваў, што пры галасаваньні ўсё вырашалі не аргумэнты, а арыфмэтычная большасьць галасоў.

Уласна, мы мелі два варыянты дзеяньняў.

Першы – прапанаваць Вярхоўнаму Савету на пленарным паседжаньні наш праект, абгрунтаваўшы ягоныя палажэньні. Найхутчэй, камуністычная большасьць яго б адразу адрынула толькі таму, што яго прапанавалі дэпутаты БНФ.

Другі – прапанаваць праект спачатку ў адпаведнай камісіі, якую ўзначальваў дэпутат Козік (той самы, які пазьней быў пастаўлены Лукашэнкам кіраваць афіцыйнымі прафсаюзамі). Пераканаць дваццаць членаў камісіі значна прасьцей, чым трыста дэпутатаў, і калі ў выніку праект будзе ўнесены на сэсію ВС ад імя афіцыйнай камісіі, ён мае значна больш шанцаў быць прынятым.

Мы абралі другі варыянт.

Пасьля заканчэньня аднаго з пасяджэньняў ВС Пазьняк прапанаваў усім жадаючым застацца ў Авальнай залі, каб „неафіцыйна” абмеркаваць сытуацыю. Сабралася некалькі

дзясяткаў дэпутатаў (можа, восемдзесят) у сэктары ўраду і Менскай дэлегацыі (правы бок Авальнай залі, калі стаяць тварам да прэзыдыюму). Нашыя дэпутаты – гісторыкі (Пазьняк, Голубеў, Трусаў) распавялі пра гісторыю ВКЛ і БНР. І для большасьці тое, што Беларусь калісьці існавала як вялікая незалежная дзяржава, было адкрыцьцём.

А далей пачалася праца ў камісіі Козіка. У гэтай Камісіі ніхто з намэнклятуры не хацеў працаваць (яны сабатавалі прысутнасьць, іх проста не цікавіла задача) і разгублены Козік сам нас запрасіў дапамагчы ў працы Камісіі. Мы скарысталі яго запросіны і падрыхтавалі праект Дэклярацыі. Як ня дзіўна, але з большага нашыя прапановы былі там прынятыя. Яшчэ больш дзіўным для шмат каго было тое, што асноўныя палажэньні Дэкларацыі ад імя Камісіі прадстаўляў на сэсіі не яе афіцыйны старшыня, а Зянон Пазьняк.

## ЦЯЖКАЕ ГАЛАСАВАНЬНЕ

Найбольш вострыя дэбаты па Дэклярацыі аб суверэнітэце былі 26-га і 27-га ліпеня.

Наш праект прынялі ў цэлым да абмеркаваньня. Але пры паартыкульным абмеркаваньні даводзілася змагацца ня тое што за кожную фармулёўку – за кожнае слова ў нашых фармулёўках.

Словы пра ***„пераемнасьць дзяржаўнай ідэі БССР ад Беларускай Народнай Рэспублікі і неабходнасьць рэспубліканскай парляманцкай формы праўленьня”*** – выкідаюцца.

Слова пра назву ***„Беларуская Рэспубліка альбо Беларусь”*** – выкідаюцца, застаецца БССР.


*36. У. Заблоцкі і С. Навумчык. 1993 г.*

Словы пра тое, што ***„усе віды маёмасьці зьяўляюцца ўласнасьцю грамадзян БССР”*** (а не Масквы) – выкідаюцца.

Словы пра ***стварэньне ўласнай грашовай сістэмы*** – выкідаюцца. Але пагаджаюцца ўтварыць Нацыянальны банк. Праходзіць і нашая прапанова аб праве Беларусі на сваю долю ў «саюзным» алмазным і валютным фондах і залатым запасе.

Мая прапанова аб ***дэманапалізацыі СМІ*** належнай колькасьці галасоў не набірае.

Затое прымаецца прапанова Пазьняка, што ***„сваю свабоду і суверэнітэт Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка ў першую чаргу выкарыстоўвае на выратаваньне беларускага народу ад вынікаў Чарнобыльскай катастрофы”***.

Не праходзіць фармулёўка пра тое, што ***„Беларуская ССР мае права на ўласныя Ўзброеныя Сілы, унутраныя войскі, органы дзяржаўнай і грамадзкай бясьпекі, падначаленыя Вярхоўнаму Савету”*** – і першым супраць гэтага выступае дэпутат Віктар Ганчар. Яго падтрымлівае намесьнік Старшыні КГБ Генадзь Лавіцкі.

Даволі хутка дэпутацкая большасьць разумее, што працэс, дзякуючы націску дэпутатаў БНФ, ідзе „не туды”, куды ім хацелася б. У нейкі момант старшыня камісіі ВС Леанід Козік заяўляе, што „если мы примем эту Декларацию, то она направлена на сто процентов на выход из Союза”. Што, канешне, было праўдай.

І вось – апошні артыкул. Большасьць дэпутатаў застаецца непахіснай у сваім жаданьні прадэкляраваць падпісаньне „саюзнай дамовы”. Слова бярэ дэпутат БНФ ***Уладзімер Заблоцкі***, які ў складзе беларускай дэлегацыі па падрыхтоўцы гэтай самай „саюзнай дамовы” наведваў Маскву.

Заблоцкі паведамляе, што па праекце гэтай „саюзнай дамовы” Масква пакідала сабе ў Беларусі права на: міжнародную палітыку, войска, дзяржбясьпеку, памежныя войскі, мытню, юрыдычныя інстытуцыі, ваенную прамысловасьць, энэргетычную сістэму, перапрацоўку нафтапрадуктаў, газавыя і нафтавыя трубаправоды, крэдытна-фінансавую і банкаўскую сістэмы, чыгуначны транспарт, паветраны транспарт, тэлебачаньне, радыё, фундамэнтальную навуку... Словам, нам заставаўся хіба – Чарнобыль.

Але і гэта ня стала аргумэнтам для парляманцкай большасьці. Не жадалі дэпутаты і надаць Дэкларацыі статус канстытуцыйнай сілы. Для нас гэта было прынцыпова важным, бо такі статус ставіў Канстытуцыю і законы Беларусі вышэй за Канстытуцыю і законы СССР, і гэта якраз і азначала юрыдычную Незалежнасьць.

Тут ужо ніякія нашыя аргумэнты не ўспрымаліся.

Больш за тое: ўзьнікла рэальная пагроза перагляду ўжо прынятых артыкулаў і выхалошчваньня з Дэкларацыі ўсяго таго, што нам удалося правесьці.

## ВЫЙСЬЦІ, КАБ ПЕРАМАГЧЫ

І тады Пазьняк прапанаваў тактычны крок, які спачатку падаўся шмат каму з нас натуральнай авантурай. Пазьняк прапанаваў апэляваць не да розуму дэпутацкай большасьці, а,

скажам гэтак, – да калектыўнага інстынкту, скарыстаўшы ўжо выпрацаваную звычку галасаваць насуперак БНФ.

”Паважаныя дэпутаты, – пачаў свой выступ Пазьняк на сэсіі (спэцыяльна падрыхтаваны, каб „задзець” намэнклятуру), – я не затрымаю доўга вашай увагі. Тое, што мы зараз пачулі зьвесткі, што нам рыхтуе «саюзны дагавор», і тое, што зараз сэсія прагаласавала за гэты «саюзны дагавор», гэта тое самае, што сунуць галаву ў пятлю. Гэта значыць, што далейшая размова аб суверэнітэце ня мае сэнсу. Гэта значыць, што наша праца два дні была без патрэбы. На вялікі жаль, народныя дэпутаты, відаць, мы ўсё ж такі не дарасьлі да суверэнітэту. Таму я, Пазьняк Зянон Станіслававіч, заяўляю, што я адмаўляюся далей удзельнічаць у гэтай сэсіі ў выніку таго, што Вярхоўны Савет ня здольны прыняць Дэкларацыю аб сапраўдным суверэнітэце. Тых дэпутатаў, якія мяне падтрымліваюць, прашу зрабіць тое самае. Я пакідаю залю”.

З Авальнай залі выйшла трыццаць дэпутатаў (аднак некалькі дэпутатаў БНФ, у тым ліку і аўтар гэтых радкоў, былі адмыслова пакінутыя ў залі).

Заява Пазьняка і выхад з залі выклікалі ў прысутных шокавы эфэкт сваёй нечаканасьцю. Але значна больш моцным было жаданьне зрабіць насуперак – як перад гэтым на сэсіі заўважыў Ігар Гермянчук, некаторыя галасуюць „супраць” толькі таму, што Пазьняк галасуе „за”.

Перад выхадам з залі мы абмяркоўвалі гэты крок, нам ён падаваўся вельмі рызыкоўным. Найбольш рызыкаваў, канешне, Пазьняк: калі б у выніку Дэкларацыя не была прынятая (скажам, не хапіла б галасоў) – на ягоным палітычным аўтарытэце можна было б ставіць крыж, а Народнаму Фронту такога праліку не даравалі б.

Але адбылося так, як разьлічваў Пазьняк: дэпутаты заявілі, што поўныя рашучасьці прыняць Дэкларацыю і пачалі актыўна галасаваць. Ня ведаю, чаго тут у Пазьняка было болей: дакладнага палітычнага разьліку, адчуваньня псіхалёгіі, ці проста інтуіцыі.

Апошнім часам раз-пораз чуюцца сцьвярджэньні: „Апазыцыя БНФ не брала ўдзел у галасаваньні па Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце", – і на гэтым ставіцца кропка, маўляў, дэпутаты БНФ ня маюць да яе дачыненьня.

Асабліва часта пра гэта любіць казаць Станіслаў Шушкевіч.

Праўдай жа застаецца тое, што дэпутаты БНФ напісалі праект гэтай Дэкларацыі, прадстаўлялі яе тэкст у парляманце (Пазьняк) і галасавалі па кожным яе артыкуле, аргумэнтавалі і адстойвалі кожную пазыцыю. Толькі ў заключныя дні, 26-27 ліпеня, яны выступілі на сэсіі больш за сто разоў! Нарэшце, некалькі дэпутатаў БНФ, у тым ліку і я, былі ў залі пры канчатковым галасаваньні (нас пакінулі ў ролі назіральнікаў, хаця паўнамоцтвы назіральнікаў мы перавысілі, калі ўбачылі, што шок ад выхаду з залі большасьці дэпутатаў БНФ можна скарыстаць у інтарэсах Незалежнасьці).

На гэтай хвалі намэнклятурнай дэпутацкай рашучасьці мы (у іхных вачах, тыя, што не пайшлі за Пазьняком) пачалі падыгрываць ім і выступаць. Мы нават змаглі (дзіва!) вярнуць дэпутатаў да тых прапаноў БНФ і яго старшыні Пазьняка, якія раней былі адкінутыя.

Так, мне і Васілю Шачаку менавіта пры гэтым, канчатковым галасаваньні, удалося перканаць парляманцкую большасьць прыняць фармулёўку, што Беларусь „мае права на ўласныя ўзброеныя сілы, ўнутраныя войскі, органы дзяржаўнай бясьпекі, падкантрольныя Вярхоўнаму Савету" (гэта якраз



*37. Васіль Быкаў.*

раней адкінутая імі фармулёўка Пазьняка, пра якую ў пачуцьцях помсты дэпутаты бальшыні, відаць, забыліся). Прычым за гэта прагаласавала 230 дэпутатаў!

У рэшце рэшт у выніку манеўру з выхадам Апазыцыі за Дэкларацыю аб дзяржаўным сувэрэнітэце БССР прагаласавалі 229 дэпутатаў – значна больш, чым патрабавалася для яе прыняцьця.

Дэклярацыя была прынятая з асноўнымі азначэньнямі і артыкуламі, распрацаванымі і адваяванымі ў ходзе дыскусіі Дэпутатамі Апазыцыі БНФ. Некаторыя палажэньні былі страчаныя, але галоўнае засталося. Скажам абвяшчэньне Беларусі бязьядзернай зонай было адкінута, але потым (пасьля перафармулёўкі) 229 дэпутатаў прагаласавалі за тое, што Беларусь „ставіць на мэце зрабіць сваю тэрыторыю бязьядзернай зонай, а Рэспубліку – нэўтральнай дзяржавай". (Для мяне асабіста гэта было пэўнай адплатай і сатысфакцыяй, бо за два гады да гэтага нам – фронтаўцам і грамадзкасьці Віцебска – ўдалося перашкодзіць там плянам будаўніцтва АЭС.) У ходзе дыскусіі нашыя апанэнты спрабавалі нават аспрэчыць сэнсавае значэньне суверэнітэту краіны, але ўрэшце прыпертая да сьценкі парляманцкая большасьць пагадзілася на фармулёўку пра „поўны суверэнітэт" (якую, дарэчы, прапанаваў Анатоль Вярцінскі, рэдактар штотыднёвіка „Літаратура і мастацтва", бадай што самай прагрэсіўнай на той час газэты).

# У ЗША – ВЫВУЧАЮЦЬ, У БЕЛАРУСІ – ЗАМОЎЧВАЮЦЬ



*38. Андрэй-Тадэвуш Касьцюшка.*

І ўсё ж гэта яшчэ не была тая Незалежнасьць, пра якую марылася. Толькі праз год, 25 жніўня 1991 г., на скліканай па патрабаваньню Апазыцыі БНФ надзвычайнай сэсіі Вярхоўнага Савета Дэкларацыі будзе нададзены статус канстытуцыйнай сілы – і Беларусь стане незалежнай „дэ-юрэ”.

За гэты год паміж 27 ліпеня 90-га і 25 жніўня 91-га Апазыцыя БНФ падрыхтавала некалькі дзясяткаў законапраектаў, якія потым ляглі ў падмурак беларускай дзяржаўнасьці. Гэтых месяцаў шмат каму хапіла дзеля асэнсаваньня беспэрспэктыўнасьці існаваньня савецкай імпэрыі, і таму ў жніўні 91-ага, каб падтрымаць нас у змаганьні за незалежнасьць, на плошчу перад Домам ураду выйшлі некалькі дзясяткаў тысяч чалавек.

Вось чаму не вытрымліваюць ніякай крытыкі заявы, што нібыта „Незалежнасьць звалілася на беларусаў зьнянацку, як зь неба”. Тыя, хто гэтак кажа, забываецца (а хутчэй, проста ня хоча ведаць) ні пра ***Тадэвуша Рэйтана***, які ў 1772-ім годзе лёг перад дэпутатамі Сойму, каб перагарадзіць ім дарогу і перашкодзіць адданьню ўсходніх беларускіх земляў у панаваньне расейскага цара. Ні пра ***паплечнікаў Тадэвуша Касьцюшкі*** – ўдзельнікаў антыцарскага паўстаньня 1794-га. Ні пра паўстаньне 1831-га,

ні пра паўстаньне 1863-га году ***Кастуся Каліноўскага***. Ні пра ***Слуцкі збройны чын***, чые ваяры пацьвердзілі на сваёй тэрыторыі вяршэнства *БНР* і збройна змагаліся з бальшавікамі. Ні пра актывістаў ***Саюзу беларускіх патрыётаў*** на Пастаўшчыне і Глыбоччыне, якія ў канцы 1940-ых гадоў выступілі супраць русіфікацыі, трымалі ў сябе Бел-Чырвона-Белыя Сьцягі і за гэта правялі шмат гадоў у мардоўскіх канцлягерах.

Тое, што ўдалося зрабіць актывістам і змагарам ***БНФ*** (я маю на ўвазе ня толькі дэпутатаў, але тысячы прыхільнікаў Народнага Фронту ў Менску і ў рэгіёнах) у 1990-1991 гадах – гэта заканамерны вынік змаганьня пакаленьняў беларусаў за Незалежнасьць.

У Злучаных Штатах за дзьвесьце гадоў пра іхнюю Дэклярацыю аб незалежнасьці напісана безьліч кніг (ва ўсялякім разе, каталёг Бібліятэкі Кангрэсу ЗША налічвае тысячы і тысячы выданьняў). У сёньняшняй падрэжымнай Беларусі пра нашу Дэклярацыю імкнуцца ня ўзгадваць.

Красамоўны факт: праз амаль дваццаць гадоў пасьля прыняцьця Дэклярацыі „дэпутаты” гэтак званай „палаты прадстаўнікоў” выкінулі на сьметнік поўны камплект (адзіны на ўсю гэтую „палатку”) стэнаграмаў сэсіяў Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня. Лукашэнкаўскія прызначэнцы, якія спрабуюць легітымізаваць у Беларусі прамаскоўскую акупацыйную палітыку, ня хочуць мець ніякага напамінку пра Вярхоўны Савет, які ўвайшоў у гісторыю аднаўленьнем беларускай дзяржаўнасьці.

Прывяду, аднак, словы ***Васіля Быкава***: „Што ж датычыцца Апазыцыі ў Вярхоўным Савеце, то, я думаю, што ў тых умовах, у той час менавіта Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту зрабіла гераічны ўчынак з таго, што дамаглася менавіта гэтай

суверэннасьці. Гэта яе заслуга. І чым далей, незалежна ад таго, чым гэта скончыцца, незалежна ад лёсу Беларусі наогул, у гістарычным вымярэньні гэта будзе вельмі значна, гэта будзе ацэнена праз вякі”.

***Сяргей НАВУМЧЫК***

*Надрукавана: „Беларускія Ведамасьці”, – 2009, № 2 (67), с.14-17*

# ПЕРАМОГА ТЫХ, ХТО БЫЎ З ІДЭЯЙ

**Гэта была найбольшая палітычная перамога ў гісторыі Беларусі двух апошніх стагоддзяў, паўтарыць якую ўжо нікому ня ўдасца – бо, спадзяюся, краіна ўжо ніколі ня страціць Незалежнасьці.**

Тым больш мэтазгодна прааналізаваць, чым быў адметны посьпех 25 жніўня 1991 году, калі Вярхоўны Савет 12-га скліканьня надаў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце статус канстытуцыйнай сілы.

Адзначу тры найважнейшыя адметнасьці: здольнасьць палітычнага авангарду грамадзтва – БНФ – выкарыстаць час, мэтанакіраваная праца гэтага авангарду пры супрацьдзеяньні Захаду і нацыянальная ідэя як галоўны матыў масавых выступаў, якія і прывялі да перамогі.

## БЕЗ ПАДТРЫМКІ ЗАХАДУ

Цягам ўсёй савецкай гісторыі, пачынаючы з кастрычніцкага перавароту 1917 года, дэмакратычныя заходнія краіны выступалі супраць камунізму, хаця і ішлі на часовыя альянсы з крамлёўскімі лідэрамі (як у часе Другой Сусьветнай вайны). Аднак ў апошнія дзесяцігоддзі існаваньня СССР Захад (і найперш ЗША) пасьлядоўна падтрымлівалі змагароў з камуністычнай сістэмай, дамагаліся вызваленьня палітзьняволеных, ставілі эканамічнае супрацоўніцтва з СССР ў залежнасьць ад выканань-

ня правоў чалавека. Роля Захаду ў дэмантажы камуністычнай сістэмы, бясспрэчна, вялікая.

Іншая справа – змаганьне народаў СССР за дзяржаўную незалежнасьць. Тут меў месца „падвойны стандарт": адно стаўленьне – да Прыбалтыкі, іншае – да астатніх. Сярод гэтых „астатніх" была і Беларусь.

Ідэя Незалежнасьці Беларусі ад моманту, як яна была абвешчана галоўнай палітычнай мэтай БНФ у траўні 1990* году і праз два месяцы прадэкляраваная (хай і не напоўніцу) Вярхоўным Саветам, – не атрымала ніякай палітычнай падтрымкі краінаў Захаду.

Для параўнаньня: Захад ніколі не прызнаваў анэксію Масквой Летувы, Латвіі і Эстоніі, і ў 1989-1990-ых гадох тагачасны прэзыдэнт ЗША Буш (старэйшы) неаднаразова заяўляў прэзыдэнту СССР Гарбачову, што прыбалтыйскія рэспублікі павінны быць незалежнымі ад Масквы. Адпаведныя заявы рабіліся Злучанымі Штатамі і на іншых узроўнях. Лідэры „Саюдзісу", народных франтоў Латвіі і Эстоніі былі прынятыя ў Белым Доме, у Кангрэсе ЗША, у парлямантах краінаў Эўразьвязу.

Нічога і блізка да такой зацікаўленасьці мы ў Беларусі не адчувалі. Да Пазьняка часта прыязджалі заходнія журналісты, пыталіся пра Курапаты і звычайна – пра падтрымку ў Беларусі гарбачоўскіх рэформаў. Але як толькі Пазьняк пачынаў казаць пра Незалежнасьць – карэспандэнты складвалі нататнікі і выключалі дыктафоны; іх не цікавілі, як яны, відаць, лічылі, фантасмагарычныя пражэкты. Ня толькі БНФ, але і Вярхоўны Савет не цікавіў Захад, чыя ўвага сканцэнтравалася выключна на Гарбачове і корпусе народных дэпутатаў СССР.

---

* Аб змаганьні за суверэнітэт было паведамлена ўжо на жнівеньскім Сойме БНФ у 1989 г. – *(Выд.)*

Больш за тое: Белы Дом заявіў, што будзе ўсяляк падтрымліваць намаганьні Гарбачова па захаваньню СССР (за выняткам Прыбалтыкі).

Дзіўна, але пазыцыя Белага Дому не зьмянілася ні пасьля 27 ліпеня 1990-га, ні пасьля 25 жніўня 1991-га, ні нават пасьля падпісаньні Віскулёўскіх пагадненьняў у пачатку сьнежня 1991-га. І толькі пасьля заявы Гарбачова пра сваю адстаўку Белы Дом пачакаў яшчэ некалькі дзён і ў самым канцы сьнежня 1991 году прызнаў незалежнасьць былых рэспублік СССР (але адзначым відавочнае: прызнаўшы, ЗША як ніхто зрабілі шмат для падтрымкі беларускай Незалежнасьці. Эўрапейскія краіны ішлі за ЗША, звычайна – са спазьненьнем).

Сёньня тая няздольнасьць убачыць відавочнае – непазьбежны распад СССР – лічыцца найвялікшым правалам ЦРУ, тым больш парадаксальным, што Буш у свой час займаў пасаду дырэктара гэтага ведамства і мог бы разьлічваць на максімальна поўную інфармацыю. Няўжо аналітыкі з Лэнглі ня бачылі таго, у чым былі перакананыя фронтаўскія актывісты зь Вялейкі ці Лагойску? Няўжо варыянт распаду СССР не разглядаўся і не пралічваўся ў ЦРУ? Бо вядома, што некаторыя амэрыканскія палітолагі прадракалі Саюзу крах. Нарэшце, у ЗША існавала супольнасьць, якая дзесяцігоддзямі наўпрост патрабавала ад Белага Дому і Кангрэсу прызнаць Беларусь незалежнай краінай – беларуская дыяспара.

Канешне ж, варыянт распаду СССР аналізаваўся, і відавочна, не па адным сцэнары, але Захад быў не зацікаўлены ў ім з адной прычыны. Захад жадаў, каб ядзерная зброя і надалей заставалася пад кантролем адзінага цэнтру, у руках чалавека, зь якім „можна мець справу” – Гарбачова (заўважым, што ўрэшце ядзерныя боегалоўкі на тэрыторыі былога Саюзу і апынуліся пад

адзіным кантролем – гэбэшнага Крамля). І дзеля гэтага Захад падтрымліваў Гарбачова (а значыць, і цэласнасьць СССР) усімі магчымымі сродкамі.

Такім чынам, ***Незалежнасьць была здабытая беларусамі самастойна, без аніякай палітычнай падтрымкі іншых краінаў, і ёсьць тым больш каштоўнай нацыянальнай заваёвай.***

## КАЛІ ЧАС НЯ СТРАЧАНЫ

У ліпені 90-га Вярхоўны Савет прыняў Дэклярацыю аб дзяржаўным суверэнітэце, але адмовіўся ад прапановы Апазыцыі БНФ надаць дэклярацыі статус канстытуцыйнай сілы, што азначала б вяршэнства Канстытуцыі і законаў БССР над „саюзнымі”. У выніку Беларусь, як і раней, падпарадкоўвалася Маскве, шмат якія законапраекты, падрыхтаваныя дэпутатамі БНФ, не прымаліся яшчэ і таму, што супярэчылі „саюзным” законам. Суседнія Летува і Латвія закладалі асновы дзяржаўнасьці, рэфармавалі эканоміку – Беларусь губляла магчымасьці.

Гэта – прыклад страчанага часу ў палітыцы.

На шчасьце, нам, фронтаўцам, у вызначальныя дні жніўня 91-га ўдалося скарыстаць іншым чынам і час, і магчымасьці.

У першы ж дзень путчу, 19 жніўня 1991 года, Апазыцыя БНФ запатрабавала неадкладнага скліканьня пазачарговай сэсіі ВС. Штодня – 19 20 і 21 жніўня – мы абвяшчалі сваё патрабаваньне на мітынгах на плошчы Незалежнасьці і далі яго ў прэсу. Мы паўтарылі сваё патрабаваньне, калі путчысты пацярпелі паразу. Нас пераконвалі, што гэта нерэальна, што ў дэпутатаў-аграрнікаў „адказны час жніва”, што многія дэпутаты ў Крыму

і ў Сочы. Мы прапанавалі паслаць за аграрнікамі аўтамабілі, а за курортнікамі – самалёты (у выніку, даехалі і зь вёскак, і з курортаў без усялякіх спэцрэйсаў).

Нам казалі, што сэсія – непадрыхтаваная, а мы і ўдзень, і ўначы не выходзілі з кабінету Апазцыі і распрацавалі ўсе патрэбныя для абвяшчэньня Незалежнасьці законапраекты.

Калі б мы спазьніліся са скліканьнем сэсіі на некалькі дзён – Незалежнасьці магло ня быць, бо шок у дэпутатаў-камуністаў ад правалу ГКЧП хутка мінуў. (Могуць запярэчыць: іншыя ж рэспублікі, хто раней, хто пазьней, таксама абвясьцілі Незалежнасьць, няўжо беларусы засталіся б адзінымі „залежнымі” ад Масквы? Засталіся б! Ужо з восені 91-га года беларуская намэнклятура ўпарта лезла ў абдымкі Масквы, а „першы прэзыдэнт” стварыў з Расеяй хай і фантомную, але „саюзную дзяржаву”).

Але і на сэсіі (24-25 жніўня) настроі некаторых дэпутатаў былі не на карысьць Незалежнасьці.

Так, фактычна, супраць Незалежнасьці выступіў дэпутат А. Лукашэнка – з засьцярогай, што пытаньне пра Незалежнасьць „неожиданно” пачало „муссироваться” па ініцыятыве, нібыта, ЦК КПБ (тут гэтакае „хітраваньне”). Ён заяўляў, што Беларусь можа апынуцца, маўляў, у палітычнай і эканамічнай ізаляцыі ад Расеі і іншых рэспублік СССР, будзе адрынута Гарбачовым і застанецца па-за працэсам „фармаваньня новых органаў кіраўніцтва „саюза”. Насамрэч, камуністычныя функцыянеры з ЦК, якія ўвесь час былі супраць незалежнасьці, не ініцыявалі гэтую ненавісную ім Незалежнасьць – яны проста былі вымушаныя, пад нашым ціскам, нарэшце, пагадзіцца з тым, чаго даўно (і зусім не „нечакана”) патрабаваў Народны Фронт (літаральна праз пару тыдняў слова „незалежнасьць” яны будуць вымаўляць са зьдзеклівай інтанацыяй. Лукашэнка – таксама).



*39. Перад мітынгам на плошчы Незалежнасьці.*

Настрой такіх дэпутатаў адчуў Станіслаў Шушкевіч, які вёў сэсію і тут жа пастараўся патрапіць у тон (ён прапанаваў уключыць у парадак дня першым пытаньнем „саюзную дамову”), і вымавіў словы, якія маглі адмоўна паўплываць на вынік галасаваньня.

## ШУШКЕВІЧ СУМНЯВАЕЦЦА Ў КАНСТЫТУЦЫЙНАСЬЦІ ДЭКЛЯРАЦЫІ

Шушкевіч прапанаваў „заканчваць нашу работу” і выказаў сумнеў, што вынік галасаваньня будзе станоўчы: „Вы ведаеце, канстытуцыйная большасьць патрэбна нам. Я б хацеў зьвярнуць вашу ўвагу, што вельмі цяжка гэта пытаньне нават пры самых станоўчых адносінах вырашыць”.

Казаць такія словы было нельга а ні ў якім разе нават звычайнаму дэпутату, у вуснах жа, фактычна, сьпікера, яны несьлі вялізную пагрозу.

Справа ў тым, што немалая частка дэпутатаў, якія не належалі да кампартыі альбо БНФ, галасавалі спантанна, пад узьдзеяньнем эмоцыяў – альбо так, як скажа сьпікер, які ўспрымаўся імі як „начальнік”. І не істотна, быў гэта камуніст Дземянцей ці дэмакрат Шушкевіч. Таму выказаны ня проста дэпутатам, а сьпікерам сэсіі сумнеў у станоўчым выніку галасаваньня быў роўназначны сумневу ў мэтазгоднасьці такога выніку.

Доўгі час я лічыў гэтае выказваньне Шушкевіча спантаннай рэплікай, хаця і небясьпечнай. Аднак праз сем гадоў, у інтэрв'ю „Белорусской деловой газете” Шушкевіч сказаў:

„...Потым (я зусім не чакаў, што такое адбудзецца), калі здарыўся жнівеньскі путч, прадстаўнікі БНФ прапанавалі надаць

Дэкларацыі статус канстытуцыйнага закона. Г. зн., у выпадку супярэчнасьці нормаў Канстытуцыі і Дэкларацыі дзейнічаюць апошнія. З пункту гледжаньня канстытуцыйнага права, гэта была невялікая недарэчнасьць, бо Дэкларацыя прававых нормаў амаль не ўтрымлівала. Я ня верыў, што прапанова БНФ пройдзе, калі пытаньне ставілася на галасаваньне, – ну хіба што нехта выступіць супраць Канстытуцыі. Раз – паставіў на галасаваньне – прайшла, і нават канстытуцыйнай большасьцю... Калі падзеі імкліва разьвіваліся, дэпутатам часта не ўдавалася хутка з’арыентавацца ў тым, што адбывалася. У выпадку з наданьнем Дэкларацыі статусу канстытуцыйнага закона фракцыя БНФ, як гаворыцца, дакладна адчула момант, выступіла максымальна разумна і моцна выйграла. Калі б за паўгадзіны да галасаваньня мне хто-небудзь сказаў, што нешта падобнае магчыма, я б ніколі не паверыў. Але на эмацыйным парыве і добрым адчуваньні аўдыторыі – аказалася магчымым”. *(„БДГ”, – 27 ліпеня 1998 г., нумар 56 (487).*

Гэтыя словы пра „недарэчнасьць” наданьня Дэкларацыі канстытуцыйнай сілы не вытрымліваюць ніякай крытыкі. Такога кшталту дакументы вельмі часта не нясуць прававых нормаў ці нормаў непасрэднага дзеяньня; уласна, гістарычна значныя дэкларацыі ўвогуле іх рэдка маюць. Бо ня ў гэтым іх мэта – яны вызначаюць дзяржаваўтворны ці геапалітычны выбар нацыі на дзесяцігоддзі, ці нават на стагоддзі наперад (шмат прыкладаў, калі і Канстытуцыя мае як непасрэдныя нормы, гэтак і агульныя, абстрактныя вызначэньні).

Што да спосабу вядзеньня сэсіі, дык у гэтым выпадку нявер’е Шушкевіча выявілася ў словах, якія, паўтаруся, маглі адмоўна паўплываць на вынік, паколькі маглі павярнуць прыгаданы ім „эмацыйны парыў” у супрацьлеглы бок. Усё ж, палітыка – гэта




*55. Паштовыя маркі вольнай Беларусі.*

браць сьцяг са сцэны. Голубеў узяў Сьцяг і паставіў яго ў „менскім" сэктары (гэта зафіксавана на здымку, што на вокладцы гэтай кнігі). Пазьняк адразу запатрабаваў, каб Дземянцей, які „падтрымаў хунту", ня вёў сэсіі, а перадаў гэтае права свайму першаму намесьніку Шушкевічу.

Сэсія пайшла па нашым сцэнары. Потым *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг* быў вернуты на сцэну, а назаўтра Беларусь стала незалежнай.

## ВЫТОКІ АДНАГО МІТУ

У другі дзень сэсіі здарыўся эпізод, які, відаць, і стаў нагодай міту, што нібыта Лукашэнка ўнёс у Авальную залю ВС Бел-Чырвона-Белы Сьцяг (а некаторыя журналісты яшчэ пішуць – „першы ўнёс").



*56. Любоў да Сьцяга.*

Яшчэ перад сэсіяй Народны Фронт заклікаў людзей прыйсьці на плошчу перад Домам ураду, каб падтрымаць дэпутацкую Апазыцыю. Сабралася некалькі дзясяткаў тысяч чалавек, над якімі луналі Бел-Чырвона-Белыя сьцягі. У перапынку паседжаньня, вяртаючыся з гатэлю „Менск", касманаўт Уладзімер Кавалёнак узяў у некага на плошчы нацыянальны сьцяг і прынёс яго у Авальную залю. З боку касманаўта гэта быў спантанны жэст; перад увахадам у залю з Кавалёнкам выпадкова апынуліся Інэса Драбышэўская (пазьней – міністар аховы здароўя ў першым лукашэнкаўскім урадзе, яшчэ пазьней – „сэнатар") і Аляксандар Лукашэнка.

У гады дэпутацтва Лукашэнка ня тое што не выказваў сымпатыяў да нацыянальных сымвалаў – ён імі адкрыта, падкрэсьлена пагарджаў. Ня памятаю, каб ён насіў дэпутацкі бел-чырвона-белы значок, які выдалі кожнаму дэпутату ў пачатку 1992 году. Затое дакладна з 1993 года на ягоным пінжаку быў стары значок з „бээсэсэраўскім" зялёна-чырвоным сьцягам – гэта добра відаць і на фотаздымках пэрыяду прэзыдэнцкай кампаніі 1994 г.

Таму калі некаторыя былыя паплечнікі Лукашэнкі кажуць, што зьмена сымволікі ў 1995 годзе для іх была нечаканасьцю, яны хлусяць.

## КОЖНЫ ГОЛАС БЫЎ ВЫЗНАЧАЛЬНЫМ

У верасьні 91-га адкрылася наступная сэсія, і Апазыцыя БНФ унесла ў парадак дня пытаньне аб наданьні „Пагоні" і Бел-Чырвона-Беламу Сьцягу статусу дзяржаўных сымвалаў.

Эталон сьцягу і гэрбу па просьбе Пазьняка распрацаваў мастак ***Яўген Кулік***, яго кансультавалі Мікола Купава, Аляксей Марачкін, Ўладзімер Крукоўскі, Лявон Бартлаў і інш.

У фае перад Авальнай заляй мы разьмясьцілі стэнды пра гісторыю нацыянальных сымвалаў (падрыхтавалі нашыя гісторыкі і мастакі-франтаўцы). Для большасьці дэпутатаў гэтая інфармацыя была адкрыцьцём.

Якраз 19 верасьня па запрашэньні Вярхоўнага Савета Малдовы мы з дэпутатам Міхаілам Сьлямнёвым павінны былі ляцець у Кішынёў на выбары ў якасьці назіральнікаў. Але раніцай я ня стаў складваць чамадан і сказаў жонцы, што нікуды, хутчэй за ўсё, не палячу – бо наўрад ці пасьпеем прагаласаваць да вылету. Перад паседжаньнем пайшоў да Шушкевіча – і ў ягонай прыёмнай сустрэў Сьлямнёва. Ён таксама вырашыў адмовіцца ад паездкі. Аргумант быў адзін – мы не даруем сабе, калі нашых галасоў ня хопіць. Шушкевіч пагадзіўся.

Па праўдзе, мне падавалася, што галасоў павінна хапіць – проста не хацелася прапусьціць такое гістарычнае паседжаньне. Але сытуацыя аказалася больш драматычнай, чым уяўлялася спачатку.

За тры тыдні, якія прайшлі ад папярэдняй сэсіі, дэпутаты камуністычных перакананьняў адышлі ад пасьляпутчаўскага шоку і пачалі рыхтавацца да рэваншу. Цэнтрам палітычнай сілы намэнклятуры пасьля ліквідацыі ЦК КПБ зрабіўся Саўмін (нагадаю, што ў тыя дні Кебіч канкураваў з Шушкевічам за пасаду старшыні ВС). Кебіч тады не выступаў супраць нацыянальных сымвалаў, але і не падтрымліваў іх (зусім магчыма, што ён хацеў уцягнуць нас у гандаль: ён падтрымоўвае Сьцяг і „Пагоню", а мы – яго).

Шмат якія дэпутаты вагаліся. Станоўча паўплывалі на настроі залі выступы прэзыдэнта Акадэміі навук ***Уладзімера Платонава*** (ён ня быў дэпутатам ВС, яго па рэкамендацыі Шушкевіча запрасіў на сэсію Пазьняк), і асабліва – ***Георгія Таразевіча*** (у той момант ён быў членам Прэзыдыюму ВС СССР, яшчэ за паўтара гады перад гэтым – старшынёй Прэзыдыюму ВС БССР, а да гэтага старшынёй гарвыканкаму Менска. Намэнклятура ўспрымала яго як „свайго" і прыслухоўвалася. Тым часам выступ Таразевіча таксама рыхтавалі дэпутаты Апазыцыі і таксамы з парады Шушкевіча).

Сапраўды, Сьцяг і Гэрб былі прынятыя „голас у голас" – калі хаця б аднаго не хапіла, пытаньне давялося б адкласьці, магчыма, да наступнай сэсіі (праз некалькі месяцаў сытуацыя для станоўчага рашэньня была ўжо неспрыяльная; ды што месяцы, ужо на наступны дзень некаторыя дэпутаты камуністычных перакананьняў паспрабавалі аспрэчыць рашэньне). Вядома, кожны з дэпутатаў, якія галасавалі „за", можа абсалютна справядліва лічыць менавіта свой голас „вызначальным".

І ўсё ж быў адзін голас, які сапраўды вызначыў вынікі галасаваньня. Вось як пра гэта прыгадаў у інтэрв'ю радыё „Свабода" ***Зянон Пазьняк***:



*57. Наш вольны Гэрб, наш вольны Сьцяг.*

„У маім жыцьці гэта быў найвялікшы дзень. Бадай, пасьля вяртаньня Незалежнасьці, гэта была найважнейшая і самая хвалюючая падзея і найцяжэйшая задача: зацьвердзіць Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і гэрб Пагоня ў якасьці дзяржаўных сымвалаў. Мы разумелі тады ў парляманце, што калі мы гэтыя Сьцяг і Гэрб зацьвердзім, калі ў нас будуць дзяржаўныя сымвалы, гэта значыць, што нашая незалежнасьць стане на моцны грунт, што яна будзе. Мы разумелі, што такое для дзяржавы сымвалы, і мы вельмі рыхтаваліся.

Фронтаўскія мастакі зрабілі выставу ў фае Вярхоўнага Савета пра гісторыю беларускага гэрба і сьцяга, бо большасьць дэпутатаў дрэнна арыентавалася ў гісторыі. Мы падрыхтавалі ад Апазыцыі Фронта шмат дакладаў. Выступаць павінны былі амаль усе. Папярэдне мы гаварылі зь іншымі паважанымі



*58. Яўген Кулік аўтар эталону дзяржаўнага Гэрбу Пагоня Рэспублікі Беларусь. (Мастак Л. Шчамялёў, 1978 г., палатно, алей).*

дэпутатамі, з рознымі людзьмі і былі ўпэўненыя, што ўсё адбудзецца пасьпяхова.

Але адразу здарылася нечаканасьць. У самым пачатку паседжаньня Вярхоўнага Савета выступіў адзін вядомы і паважаны („незалежны”) пісьменьнік-дэпутат (*Ніл Гілевіч – С.Н.*) (ніхто з нас зь ім асаблівай гутаркі не праводзіў, бо былі ўпэўненыя ў ім). Ён

нечакана накінуўся з крытыкай на камуністаў, на тых, якія казалі, што „ім ба толькі флажкі”. А іх жа большасьць была ў зале, яны ж павінны былі галасаваць. Тым часам пісьменьнік-індывідуал „аблічае” сабе, красуецца (сам, дарэчы, нацыянал-камуніст).

Мы аслупянелі ад нечаканасьці. Я бачу, што ўся гэтая камуністычная публіка проста разьярылася: вочы гараць, злосныя, крычаць. Пачалі яго зганяць з трыбуны. Стала зразумела, што ўсё, канец, – катастрофа. Мы іх тыдзень супакойвалі, рыхтавалі, а гэты непрадбачаны „трыбун” перакрэсьліў нам усё адным махам. Гэта было жахліва. У мяне, памятаю, аж далоні сталі вільготнымі.

Першае, што я зрабіў, – напісаў запіску Станіславу Шушкевічу ў Прэзыдыюм, што здымаю сваё выступленьне. Бо зразумеў, што ў гэтай сытуацыі мне ня варта выступаць. (Артадоксам трэба было адразу сарваць злосьць, а тут – іхны галоўны апанэнт...) Патрэбны былі выступы ў нашу карысьць, але больш нэўтральных людзей, і пажадана – зь іхнага асяроддзя, каб яны супакоіліся.

Потым я абышоў (тут жа, у зале, бо трэба было дзейнічаць імгненна) усіх сяброў, дэпутатаў Апазыцыі БНФ, і сказаў, каб тэрмінова карэктавалі выступы і тэматыку, бо неабходна псіхалагічна выправіць і згладзіць канфліктную сытуацыю ў залі. (Мы ведалі характар і матывы паводзінаў бальшыні нашых „заканадаўцаў”.)

Першым я папрасіў выступіць ***Алега Трусава***. Ён добра выступіў. Заля крыху супакоілася. І так дзесьці да паловы абмеркаваньня ішла вось гэтакая пазыцыйная барацьба розуму і нэрваў, выступленьні з чыста псіхалагічнымі задачамі.

Вельмі дапамог тады Георгі Таразевіч. (Папярэдне мы гаварылі зь ім і ведалі ягоную думку.) Ён выступіў добра і

заклікаў зацьвердзіць нацыянальную сымволіку ў якасьці дзяржаўнай. Камуністы не маглі не ўлічыць ягоную пазыцыю і аўтарытэт. Але я бачыў і адчуваў, што галасоў мы не набярэм (бо трэ' было дзьве трэці). Тады я ізноў напісаў запіску С. Шушкевічу (які, дарэчы, добра праводзіў гэтае паседжаньне) і папрасіў, каб ён прадоўжыў дыскусію, а сам выйшаў у фае і патэлефанаваў Прэзыдэнту Акадэміі Навук Платонаву і папрасіў, каб ён тэрмінова прыехаў выступіць на сэсіі: патрэбна было аўтарытэтнае акадэмічнае выступленьне. (Шушкевіч пра гэта ведаў, бо ён сам параіў зьвязацца з Платонавым).

Платонаў прыехаў своечасова і выступіў, таксама вельмі добра і пераканаўча.

Пачалі галасаваць. Не набіралі1-2 галасы. Некалькі разоў рабілі перапынкі, падыходзілі з розных бакоў, прапаноўвалі розныя варыянты і папраўкі. (Зноў не хапала 1-2 галасы.) І, нарэшце, вычарпалі ўсё. І вось апошняе галасаваньне. Хваляваліся незвычайна. Я ніколі ў жыцьці не адчуваў сябе ў такім стане, як пад электрычным напружаньнем. І тады мы вылучылі найбольш аўтарытэтных дэпутатаў з Апазыцыі Фронта і сказалі сабе, што трэба ісьці і проста прасіць тых, якія будуць (зразумелая рэч) галасаваць „супраць", прасіць прагаласаваць „за". Мы прасілі.

Я памятаю, падышоў да вэтэрана-камуніста Міхаіла Дзімітравіча Жукоўскага і проста яго папрасіў. Кажу: „Міхаіл Дзімітравіч, нацыянальная дзяржава вышэй усялякай партыйнай ідэалёгіі. Калі мы ня будзем яе мець, ня будзем мець яе нацыянальных сымвалаў, то мы ня будзем мець нічога. Мы станем нічым. Я вельмі Вас прашу... Адзін раз у жыцьці... Прагаласуйце за Сьцяг, дзеля нашай будучыні. Мы ж – беларусы!». Ён быў ашаломлены. Але гэта быў прыстойны чалавек, і ён сказаў: «Добра. Я прагаласую». І прагаласаваў. "

(*Даведка: Міхаіл Жукоўскі – былы намесьнік старшыні Менскага гарвыканкаму, у той момант – старшыня Камісіі па справах вэтэранаў і член Прэзыдыюму ВС. І да гэтага, і пасьля гэтага, і як „просты” дэпутат, і як член Прэзыдыюму Жукоўскі галасаваў зусім ня так, як галасавалі дэмакратычныя дэпутаты. Але ў той гістарычны дзень ён сапраўды падтрымаў Беларусь. – С.Н*)

Вось гэтакая ішла барацьба на чалавечым узроўні.

Нарэшце – галасуем. У зале поўная цішыня. Калі табло паказала вынік, я ўпершыню ў жыцьці на сэкунду страціў прытомнасьць. Самлеў: такое было нэрвовае напружаньне. Бо трэба было набраць 231 голас. І табло паказала 231.

Потым цяжка было апамятацца. Мяне тут жа пацягнулі выступаць на плошчу. А я ня мог гаварыць, таму што цяклі сьлёзы.

Так што гэты ***Сьцяг*** стаў часткай майго жыцьця, майго лёсу, маёй натуры, і ня толькі маёй, – усіх нас, дэпутатаў Народнага Фронту, якія тады былі ў парляманце. Гэты дзень, я думаю, кожнаму з нас запомніцца на ўсё жыцьцё.

Ужо вечарам над Домам ураду лунаў Бел-Чырвона-Белы Сьцяг”.

Гэта была, як мы лічым, вялікая наша перамога ў тым Вярхоўным Савеце, перамога нацыянальнага гістарычнага маштабу.

Тым часам праімпэрскія сілы хутка адыйшлі ад пасьляпутчаўскага здранцьвеньня. У наступныя гады нам ўдавалася праводзіць некаторыя свае законапраекты, коштам усё большых высілкаў прымушаць парляманцкую большасьць прымаць рашэньні на карысьць умацаваньня дзяржаўнасьці, – і ўсё ж, пры ўсёй іх патрэбе, яны ня могуць параўнацца ў сваёй значнасьці для лёсу нацыі з Незалежнасьцю, з Гэрбам і Сьцягам,

якія нам удалося зацьвердзіць цягам тых дзён у жніўні-верасьні 91-га.

Потым я чуў шмат ад каго, што тыя дні нацыянальнага трыюмфу былі самымі шчасьлівымі ў іхным жыцьці.

…Калі-небудзь мы даведаемся імя дэпутата, які ўнясе Бел-Чырвона-Белы сьцяг у парлямант вызваленай ад дыктатуры Беларусі. Магчыма, гэта будзе нехта з тых сёньняшніх маладых, якіх зьбіваюць, арыштоўваюць і штрафуюць за вывешваньне нацыянальнага сымвалу на вуліцах нашых гарадоў.

*19 верасьня 2009 г.*

***Сяргей Навумчык***

*(Інтэрв'ю на радыё Свабода)*



*59. Сьцяг на флагштоку.*

# ЭПОХА Ў ЖЫЦЬЦІ НАЦЫІ

## (ДА ДВАЦЦАЦІГОДДЗЯ БНФ)

У 2008 годзе споўнілася 20 гадоў ад часу ўтварэньня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" – дэмакратычнага нацыянальна-вызвольнага руху супраць савецкай акупацыі і расейскага камунізму за дэмакратычны лад і дзяржаўную незалежнасьць Беларусі.

Фронт утварыўся 19-га кастрычніка 1988 года ва ўмовах пратэстнага ўздыму людзей супраць камуністычнай намэнклятуры і ўлады КПСС. Тады гэта было грамадзтва з адбітай гістарычнай памяцьцю, вынішчанай нацыянальнай сьвядомасьцю і цьмяным уяўленьнем пра свабоду. Дзяржаўная незалежнасьць шмат каму здавалася фантазіяй, казкай. Але праз тры гады Фронт, маючы дэпутацкі авангард у Вярхоўным Савеце і скарыстаўшы паразу камуністычнага путчу ў Маскве, зрабіў гэтую казку рэальнасьцю. 25-га жніўня 1991 года, у выніку рашучага націску і хуткіх прадуманых дзеяньняў дэпутацкай Апазыцыі БНФ, Вярхоўным Саветам БССР была аб'яўлена незалежнасьць Беларусі, Дэклярацыя аб суверэнітэце набыла сілу канстытуцыйнага закону. Дэпутацкі авангард БНФ адразу ўключыўся ў змаганьне за будаўніцтва незалежнай беларускай дзяржавы.

Ліквідацыя расейскага камунізму, дэмакратыя і дасягненьне незалежнасьці Беларусі ад СССР былі стратэгічнымі палітычнымі задачамі Фронта. Яны былі пасьлядоўна

распрацаваныя дэпутатамі БНФ. За незалежнасьць і дэмакратыю змагаліся крок за крокам з першых жа дзён у Вярхоўным Савеце. У гэтым змаганьні і працы галоўнымі былі незалежнасьць Беларусі і стварэньне дзяржаўных інстытутаў вольнай беларускай дзяржавы. Пры падтрымцы ўсяго Фронту дэпутаты БНФ прапанавалі дзясяткі законапраектаў, распрацавалі сістэму



*60. Крыж, устаноўлены сябрамі БНФ у 1990 годзе ў цэнтры Баранавіч у памяць пра загінулых за часы сталінскага генацыду. Пазьней крыж дэмантавалі камуністычныя ўлады (перанесьлі ў іншае месца).*

парляманцкай тактыкі, грамадзкіх дзеяньняў, палітычных ініцыятываў і ажыцьцявілі ўсё на практыцы.

Фэнамэнальным было тое, што, дзякуючы ўмелай тактыцы і добраму разуменьню сытуацыі, дэпутаты-франтаўцы, якія



*61. 24-га сакавіка 1996 года. Менск. Мітынг БНФ супраць рэжыму і накіданьня беларусам „саюзу з Расеяй”.*

складалі толькі 8 адсоткаў у камуністычным Вярхоўным Савеце, здолелі дамагацца перамог і ў парляманцкім змаганьні, і ў галасаваньні за свае ідэі, праекты, ініцыятывы. Самым вялікім дасягненьнем была незалежнасьць Беларусі. ***Тое, што сталася вечарам 25 жніўня 1991 года – гэта найвялікшая выніковая падзея ў гісторыі Беларусі за апошнія 200 акупацыйных гадоў. Беларусь дамаглася рэальнай незалежнасьці. У выніку (ізноў жа, дзякуючы дзейнасьці дэпутацкай Апазыцыі БНФ і ўсяго Фронта) былі створаныя рэальныя атрыбуты суверэнітэту і інстытуты ўлады беларускай незалежнай дзяржавы.***

Пачалі рэальна ажыцьцяўляцца ідэалы 25 Сакавіка. Але на той час не ўдалося зрабіць вельмі істотнае. Беларускае Адраджэньне не ўзяло ўладу ў незалежнай Беларусі. Пасьля ліквідацыі СССР Фронт заставаўся як апазыцыйная ўплывовая беларуская палітычная сіла. Тым часам уся ўлада была ў старой савецкай каляніяльнай



*62. 1993 год. Прыём прадстаўнікоў беларускай эміграцыі ў Сядзібе БНФ. У глыбіні кадра Ю. Хадыка, З. Пазьняк.*

намэнклятуры. У галовах гэтых людзей панаваў кампрадорскі, каляніяльны спосаб думаньня і спадзяваньні на вяртаньне СССР. Яны прыстасоўваліся да новых абставінаў вяла і з аглядкай, ня мелі ніякай ідэёвай пэрспэктывы, акрамя азіраньня ў тыл ды ў Маскву. Прамаскоўскі рэжым, унутраная акупацыя і антыбеларуская дыктатура лёгка вынікалі з такіх абставінаў, дзе спэцслужбы чужой дзяржавы мелі поўную свабоду дзеяньняў.

У пачатку 90-х гг. падзеі разьвіваліся хутка. Склалася, аднак, трагічная сытуацыя. Нацыянальны, ідэёвы і дэмакратычны авангард – Беларускі Народны Фронт і ягоныя прадстаўнікі – здолелі энэргічна ўключыцца ў рэчышча падзеяў і здабыць незалежнасьць Бацькаўшчыны. Але грамадзтва, прыдушанае векавымі рэпрэсіямі, вынішчанае бальшавіцкім генацыдам і камуністычнай прапагандай, не пасьпявала за ідэйнымі пераменамі, дрэнна арыентавалася і не зусім разумела сутнасьць і неабходнасьць дзяржаўнага

нацыянальнага разьвіцьця. Час для нацыянальна-культурнага асьветніцтва масаў аказаўся занадта кароткім, каб масы людзей пачалі актыўна ўдзельнічаць у фармаваньні незалежнай дзяржавы, падтрымліваць палітычны авангард, імкнуцца да пераменаў. Грамадзтва пасьля разьвітаньня з камунізмам засталося па-савецку пасіўным у пытаньні нацыянальна-ідэйнай перамены ўлады, рэагуючы непасрэдна толькі на сацыяльнае пагаршэньне свайго становішча і, не разумеючы яго прычынаў. Пасьля ліквідацыі СССР і КПСС пратэстны антыкамуністычны і антыкаляніяльны ўздым скончыўся.

У новай незалежнай Беларусі прыжылася старая савецкая каляніяльная ўлада і ў значнай ступені засталося старое дэфармаванае савецкае грамадзтва. ***Тут самае істотнае было ў тым, што старая савецкая намэнклятура на Беларусі была агулам антынацыянальная, а грамадзтва (таксама агулам) – нацыянальна індэферэнтнае.*** Калі прыбалтыйскія краіны, што вярнулі незалежнасьць, мелі 22 гады разьвіцьця ў незалежнай нацыянальнай дзяржаве (вырасла цэлае паўнавартаснае пакаленьне), то на Беларусі ў гэты час была суцэльная расейска-камуністычная ноч, НКВД, расстрэлы, рэпрэсіі і генацыд, дэфэнзыва і паланізацыя (на захадзе), Цэлае пакаленьне лепшых беларусаў было расстралянае ў шматлікіх Курапатах, згноенае ў Сібіры, замучане ў сталінскім Гулагу. Становішча ў Беларусі ў корані адрозьнівалася ад становішча ў Прыбалтыцы ці, тым больш, у Польшчы альбо ў Чэхаславаччыне. Каб хутка і карэнным чынам перамяніць няўстойлівую, каляніяльна-мэнтальную сытуацыю, што існавала ў пачатку 90-х, быў толькі адзін спосаб – улада ў Беларусі мусіла належыць Народнаму Фронту.

Адэкватная беларуская дэмакратычная ўлада праводзіла б адэкватную беларускую нацыянальна-асьветніцкую, экана-

мічную, сацыяльную, культурную і дэмакратычную палітыку, што дазволіла б вывесьці грамадзтва ў нацыянальна-цывілізаваны стан, адрадзіць нацыянальна-грамадзкую нармальнасьць.



*63. Фотакалаж У. Кармілкіна.*

Нягледзячы на складанасьць абставінаў у 90-х гадах, прыход да ўлады Народнага Фронту была цалкам выканальная задача, калі б ні ўмяшаньне Расеі ў беларускія справы, у першую чаргу – яе спэцслужбаў і стварэньне імі кантролю над урадам Кебіча, над КГБ, над цэлымі палітычнымі групамі. Адна зь іх (А. Лукашэнка, Л. Сініцын, В. Шэйман, В. Ганчар, Д. Булахаў, А. Лябедзька, І. Ціцянкоў) была прыведзена да ўлады.

Рэжым унутранай прарасейскай акупацыі, выкліканы гэтай „траянскай" групай (якая пазьней распалася), стаў надзвычай разбуральным для беларускай нацыі і культуры, паставіў пад пастаянную пагрозу незалежнасьць Беларусі.

Прамаскоўскі рэжым сфармаваўся як улада грубага аўтарытарызму, з усімі прыкметамі мафійнай і антыбеларускай дыктатуры. Зьнішчэньне Народнага Фронту як нацыянальнай альтэрнатывы рэжыму стала адной з галоўных задачаў уладнай групы.

Гэтая задача, тым ня менш, аказалася не пад сілу новым камбінатарам. Магутнасьць Фронту зноў вырасла ў 1996 годзе. Пратэсты супраць антынацыянальнай палітыкі выклікалі вялікія масавыя дэманстрацыі ў Менску і іншых гарадах. У 1997 годзе, калі антырэжымныя выступы былі яшчэ на ўздыме, Беларускі Народны Фронт на V Зьезьдзе БНФ прыняў



*64. Паштоўка, выпушчаная Фронтам да 10-годдзя БНФ.*

рашэньне аб стварэньні на чале з Фронтам агульнабеларускага Вызвольнага руху супраць прамаскоўскага рэжыму і імпэрскай палітыкі Масквы. Гэта абазначала ўмацаваньне беларускай нацыянальна-дэмакратычнай альтэрнатывы рэжыму і злучэньне шырокіх пратэстных сілаў вакол нацыянальнай ідэі і вакол БНФ пад беларускім Бел-Чырвона-Белым сьцягам.

Беларуская нацыянальная альтэрнатыва – гэта сьмяртэльная небясьпека для прамаскоўскага рэжыму. На змаганьне з БНФ рэжым кінуў значныя сілы, ужываў спэцыяльныя мэтады. Нэгатыўны вынік у барацьбе з Фронтам быў дасягнуты ў 1999 годзе, калі ***былі аб'яднаныя дзеяньні рэжыму (найперш КГБ), Масквы і палітыкі Эўразьвязу.*** Заходні накірунак уплыву на Беларусь з канца 1997 года ўзначаліў нямецкі разьведчык Ганс-Георг Вік, які фармальна ачольваў Місію АБСЭ у Менску

(адначасна быў рэзыдэнтам ва Ўсходняй Эўропе). Вік узгадняў свае дзеяньні з КГБ, з уладным рэжымам на Беларусі. Плян Віка традыцыйны для заходніх спэцслужбаў: разбурэньне нацыянальнай апазыцыйнай альтэрнатывы (гэта значыць БНФ) і стварэньне не нацыянальнай (гэта значыць не адраджэнскай, не пагрунтаванай на нацыянальнай ідэі) апазыцыі, заснаванай на дэмакратычных „прынцыпах" (а дакладней, на фармулёўках) і на фінансавай падтрымцы Захаду. Такая „апазыцыя" была залежная ад Эўразьвязу. На ўсю працу (уключаючы так званы „перамоўны працэс" з рэжымам) Эўразьвяз, згодна сьведчаньня Ганса Віка, патраціў каля паўтара мільёна даляраў. І, як часта бывае, эфект грошай для некаторых слабых людзей аказаўся занадта моцным сродкам, перавярнуў іхняе думаньне, этыку і паводзіны.

Зьнішчыць Фронт эўрарэжымнай кааліцыі спэцслужбаў, аднак, не ўдалося. Але ў 1999 годзе арганізацыю раскалолі. Неўзабаве пад непасрэдным уплывам Віка і іншых „эўрадыпляматаў" (Адрыяна Севярына, Рывальe і т. п.) была створана заплянаваная „аб'яднаная дэмакратычная апазыцыя", куды ўвайшлі розныя малыя партыі (створаныя ў першай палове 90-х), людзі, дэманстратыўна выштурхнутыя Лукашэнкам з групы ўлады (А. Лябедзька, Д. Булахаў, В. Ганчар, М. Чыгір і інш.), камуністы, гэбоўская фантомная „лібэральная" партыя С. Гайдукевіча і іншыя групкі і тыпажы, часам адкрыта варожыя беларушчыне, а таксама адколатая частка БНФ, так званыя „прагматыкі".

***Вікаўская „аб'яднаная апазыцыя" – характэрны прадукт эўрапалітыкі ва Ўсходняй Эўропе.*** Зыходзячы з ацэнкі палітычнага канфлікту ў Беларусі, з разуменьня нацыянальных інтарэсаў і сэнсу палітычнага змаганьня – гэта тыпова маргінальная зьява ў беларускай палітыцы, якую і Эўразьвяз, і Масква (і нават, ускосным чынам – рэжым) тут жа паднялі на шчыт.

Свае легальныя кантакты, сувязі і каналы ўплыву на рэжым, Эўразьвяз і Масква выбудавалі праз гэтую маргінальную „апазыцыю”, цалкам ігнаруючы ўсё астатняе, што зьвязана з Адраджэньнем і рэальнай беларускай палітыкай. Ніякіх палітычных вынікаў ад „дзейнасьці” маргінальнай „апазыцыі” не магло быць і, натуральна, не было. Штучнасьць і шкурнасьць яе былі відавочныя. Момант ісьціны найбольш выразна настаў ў верасьні-кастрычніку гэтага *(2008)* года падчас так званых „парляманцкіх” выбараў у Беларусі.

Ваенны напад Расеі на Грузію летам 2008 года і рэакцыя на яго ў Эўропе агалілі сутнасьць эўрапалітыкі ў Беларусі. Эўропа прадэманстравала ізноў свой тыповы ўзровень, засьведчыўшы, што інтарэсы для яе важней за ўсялякія прынцыпы. Эўразьвяз пакінуў сваю „апазыцыю” і пачаў інтэнсіўна наладжваць сувязі з рэжымам Лукашэнкі, рахуючы свае геапалітычныя інтарэсы.

„Нас кінулі!” – залемантавалі на крымінальным жаргоне падстаўныя апазыцыянеры. Такі ёсьць фінал палітычнай афёры з „апазыцыяй” Ганса-Георга Віка на Беларусі. ***Пэрыяд існаваньня падстаўной апазыцыі Ганса Віка – гэта дэманстрацыя стагнацыі і маргіналізма ў палітыцы, пры дапамозе якой непрыяцелі Беларусі хацелі ўплываць на рэжым Лукашэнкі і нішчыць беларускі нацыянальна-вызвольны і адраджэнцкі рух.*** Страты ад гэтае імітацыі для беларускай палітыкі відавочныя.

У 2000-м годзе на міжнароднай канфэрэнцыі ў Беластоку Ганс Вік адкрыта заявіў, што сэнс яго дзейнасьці ў Менскай Місіі АБСЭ заключаўся ў тым, каб дапамагчы Беларусі ўвайсьці ў склад „дэмакратычнай” Расеі. Чаша цярпеньня перапоўнілася. Ганс Вік быў аб’яўлены Беларускім Вызвольным Рухам (у аснове Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ) пэрсонай „нон-грата”, запатрабавана яго выдаленьне з Рэспублікі Бела-

русь. У будучыні Ганс-Георг Вік, хутчэй за ўсё, стане перад беларускім дэмакратычным судом за антыбеларускую дзейнасьць і нанясеньне шкоды інтарэсам Беларусі.

* * *

Беларускі Народны Фронт – гэта ня толькі наша дзяржаўная незалежнасьць, ня толькі сапраўдная беларуская дэмакратычная палітыка, ня толькі беларускае нацыянальнае Адраджэньне, ***гэта цэлая яркая эпоха ў жыцьці нацыі і ў найноўшай беларускай гісторыі XX-га стагоддзя.*** Фронт і ягоная дэпутацкая Апазыцыя ў Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня паднялі і праілюстравалі на фактах і прыкладах, **і *вырашылі*** найбольш важныя і балючыя пытаньні беларускага народа: пра радыяцыю і злачынства Чарнобыля, пра генацыд і расстрэлы беларусаў расейскімі бальшавікамі, пра вяртаньне беларусаў на Бацькаўшчыну з расейскіх войнаў, з „гарачых кропак" і з савецкага войска, пра ліквідацыю прывілеяў камуністычнай намэнклятуры і ліквідацыю дзейнасьці кампартыі і камсамола ў Беларусі, пра стварэньне беларускага войска, пра ўвядзеньне беларускіх грошай, пра беларускае грамадзянства, пра дыверсіфікацыю рэсурсаў (Балта-Чарнаморскі нафтавы калектар), пра беларускія дзяржаўныя сымвалы (вярнулі *Бел-Чырвона-Белы сьцяг і гэрб Пагоня*), пра дзяржаўнасьць беларускай мовы, пра вяртаньне беларускай школы і адукацыі, пра стварэньне сістэмы ўлады беларускай незалежнай дзяржавы, пра высьвятленьне разбуральнай ролі расейскай палітыкі ў жыцьці беларускай нацыі.

Безумоўны ўплыў адраджэнцкай ідэалёгіі (і нават тэрміналёгіі Фронту) адбіўся на ўяўленьнях, сьветапоглядзе, думках і думаньні цэлага пакаленьня беларусаў і ўсяго грамадзтва.

Франтаўскі працяг, рэальная беларуская пазыцыя Адраджэньня і палітыка, якая зыходзіць зь беларускіх нацыяналь-

ных інтарэсаў, сканцэнтравана цяпер у дзейнасьці і ідэалёгіі Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – Беларускі Народны Фронт. Гэта аснова БНФ, якая засталася пасьля расколу 1999 года і адыходу „прагматыкаў". Рэчаіснасьць выразна паказала, што „прагматыкі" страчаныя для беларускай нацыянальнай палітыкі назаўсёды (ва ўсялякім разе, пры гэтым рэжыме). Кампраметацыя ўдзелам ў падстаўной „апазыцыі", супрацоўніцтва там з камуністамі, са старой і варожай беларускаму руху камуністычнай намэнклятурай (агітацыя за прэзыдэнцтва Уладзімера Ганчарыка, Міхаіла Марыніча), сумніўныя кантакты з Масквой, поўная і пакорная ўлегласьць усім і любым вымогам палітыкі Эўразьвязу ўзамен за фінансаваньне, аплату палітычнай працы і яе імітацыю (што асабліва выразна засьведчылі выбарчыя кампаніі) – усё гэта паказвае, што раскол БНФ выявіў істотныя разыходжаньні ў ідэалёгіі, прынцыпах, падыходах у палітыцы, якія выразна таксама відаць у сцьвярджэньнях гэтых людзей, напрыклад, як гэтае: *„ ...нацыянальна-вызвольная ідэя, якая была стрыжнем у дзейнасьці БНФ з канца 80-х гг., у значнай ступені вычарпала сябе"... Аптымальна было б не падзяліць Фронт, а аб'яднаць яго з Аб'яднанай грамадзянскай партыяй і іншымі партыямі гэтага накірунку." (Ю.Хадыка. Бюлетэнь „Избиратель", №9, чэрвень, 1999 г.; „Беларускія Ведамасьці", – 2001, № 2 (32), стар. 13).* Сімптаматычна, што такое было напісана тады, калі „прагматыкі" рыхтавалі пераварот у БНФ.

Супольным з гэтымі людзьмі (некалі сябрамі і аднадумцамі) застаўся толькі пачатак – хвалюючы час беларускай нацыянальнай рэвалюцыі. Гэта тое, што ўсіх нас яшчэ аб'ектыўна лучыць, заклікае да стрыманасьці і разуменьня.

* * *

Беларускі Народны Фронт – гэта магутная песьня ў жыцьці нацыі, якая гучыць у сэрцы беларусаў і хутка (набліжаецца час) хутка вырвецца голасна на свабоду. Сьпявайма яе.

Настае час новых выпрабаваньняў, і нельга яго змарнаваць. Адраджэньне новага беларускага руху павінна аб'яднаць усіх беларусаў на грунце ўнівэрсальнай і вялікай ідэі, патрэбнай усім, – гэта Беларуская нацыянальная ідэя. Гэтая ідэя, працягам якой ёсьць вольная квітнеючая шчасьлівая Беларусь, дзе ўладарыць сьветлы розум і добрае сэрца, дзе гучыць наша вялікая Беларуская мова, дзе веецца наш Белы-Чырвона-Белы Сьцяг і грозная Пагоня сьцеражэ ўваход.

Ня трэба чакаць нічога зьверху, каб нехта нешта арганізаваў ці зрабіў. Маючы Беларускую ідэю ў сэрцы – гэтага дастаткова, каб арганізавацца ў любой галіне і рабіць для дабра Беларусі. Тады з мноства малых справаў утвараецца вялікі рух за беларускую Беларусь, за розум і волю бяз цемры, без Расеі і дыктатуры.

Яшчэ прыйдзе, настане другое прышэсьце Народнага Фронта. Яно прынясе рашаючую і канцовую перамогу для Беларусі. Будучыня нашай Айчыны будзе велічнай і магутнай.

***Зянон Пазьняк***

*10 кастрычніка 2008 г.*

*Надрукавана: („Народная Воля”, – 2008, 23 кастрычніка. Пад загалоўкам: „Гэта магутная песьня ў жыцьці нацыі”); „Беларускія Ведамасьці”, – 2008, № 2 (64), с.5-7.*




*65. Малая эмблема БНФ.*

# НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ І РАСПАД ІМПЭРЫІ

Ёсьць у гісторыі пэрыяды, калі дзень роўны году, а гадзіна – месяцу. Змарнуеш дзень – ня вернеш і за год; а бывае, могуць спатрэбіцца і дзесяцігоддзі. Працэс ўтварэньня дзяржавы належыць да такіх пэрыядаў, і для Беларусі ён прыпадае на апошнія чатыры месяцы 1991 году.

Пасьля абвяшчэньня Незалежнасьці 25 жніўня 1991 году ўзьнікла патрэба неадкладнага стварэньня атрыбутаў дзяржаўнасьці – дзяржаўнах сымвалаў, уласных грошай, войска, памежнай аховы, мытні і шмат чаго іншага, што ўмацоўвае і гарантуе сувэрэнітэт краіны.

Аднак ажыцьцяўленьню гэтага перашкаджалі два фактары. Першы – нежаданьне і няздольнасьць намэнклятурнай дэпутацкай большасьці Вярхоўнага Савету і Савету Міністраў рэалізоўваць самастойную дзяржаўніцкую палітыку. Другі – існаваньне Савецкага Саюза з адміністрацыйным цэнтрам на чале з Гарбачовым.

Ужо ў пачатку верасьня 1991 года Апазыцыя БНФ запатрабавала склiканьня нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету, і яна была скліканая. Апазыцыя БНФ прапанавала уключыць у парадак сэсіі 16 пытаньняў і падрыхтавала 33 законапраекты. Сярод іх – праекты аб назове рэспублікі і дзяржаўных сымвалах, аб вяртаньні сталіцы назову „Менск", аб стварэньні ўласнай мытні і ўласнай сістэмы абароны (войска, рэспубліканская гвардыя, вайсковыя камісарыяты і сістэма грамадзянскай абароны), аб стварэньні памежнай службы. А таксама – законапраекты аб грамадзянстве, аб прызнаньні права прыватнай уласнасьці на зямлю, аб дэнансацыі Саюзнай дамовы 1922 г.

Некаторыя з гэтых прапаноў нам удалося правесьці (Гэрб і Сьцяг, назва краіны). Але значная частка найважнейшых рашэньняў Вярхоўным Саветам не была прынятая. Гэтае неўсьведамленьне большасьцю старарэжымных дэпутатаў нацыянальных інтарэсаў рабілася асабліва небясьпечным на фоне імклівага аднаўленьня Масквой імпэрскіх традыцыяў, цяпер ужо пад вяршэнствам „дэмакратычнага" Ельцына, і падрыхтоўкі у Расеі „гайдараўскіх" рэформаў, якія, пры захаваньні ў Беларусі каманднa-разьмеркавальнай сістэмы эканомікі ставілі нашыя прадпрыемствы ў надзвычай невыгодныя умовы.

Увосень 1991 года БНФ правёў некалькі канфэрэнцыяў і сэмінараў з удзелам адмыслоўцаў у галіне дзяржаўнага будаўніцтва, вайсковай справы, культуры і адукацыі, на якіх выпрацоўваліся канцэпцыі разьвіцьця маладой беларускай дзяржавы. Аднак кіраўніцтвам Вярхоўнага Савета гэтыя канцэпцыі не былі запатрабаваныя.

Што да СССР, дык пазыцыя БНФ была яснай: Беларусь зьяўляецца незалежнай краінай і не дэлегуе ніякіх паўнамоцтваў Маскве. Мы павінны сканцэнтравацца на ўнутраных праблемах ды інэграцыі ў Эўропу. Іншай аказалася пазыцыя Шушкевіча, які у верасьні 1991-га пры падтрымцы Апазыцыі БНФ быў абраны старшынёй Вярхоўнага Савета.

Адразу пасьля правалу жнівеньскага путчу Гарбачоў (аўтарытэт якога, дарэчы, да гэтага часу ў Савецкім Саюзе скаціўся амаль да нуля) ўпарта распачаў новы этап распрацоўкі так званай „саюзнай дамовы", дзеля чаго рэгулярна зьбіраў у Нова-Агарова пад Масквой лідэраў былых „саюзных" рэспублік (акрамя лідэраў Летувы, Латвіі і Эстоніі, якія туды ня езьдзілі, бо незалежнасьць Балтыйскіх краінаў у пачатку верасьня была прызнаная апошнім Зьздам народных дэпутатаў СССР).

# ШУШКЕВІЧ – ЗА НОВУЮ САЮЗНУЮ ДАМОВУ

Шушкевіч ў Нова-Агарова езьдзіў рэгулярна і, як сьведчаць апублікаваныя пазьней запісы пасяджэньняў „саюзнага дзяржсавета”, выказаўся за „абноўлены саюз” у форме канфэдэрацыі („*Я перакананы прыхільнік саюзнай дзяржавы,*” – заявіў Шушкевіч на пасяджэньні Дзяржсавету СССР у Нова-Агарове 25 лістапада 1991 г. ***(В Политбюро ЦК КПСС... По записям Анатолия Черняева, Вадима Медведева, Григория Шахназарова (1985-1991)****. – Масква, Гарбачоў-Фонд, 2008., стар. 750)*.

Мы патрабавалі ад яго не марнаваць час і займацца ўмацаваньнем сувэрэнітэту і будаўніцтвам незалежнай дзяржавы, але Шушкевіч, хаця і ўзышоў на ўсе дзяржаўныя пасады, дзякуючы падтрымцы БНФ (народны дэпутат СССР, дэпутат ВС Беларусі, першы намесьнік старшыні ВС, нарэшце – старшыня ВС), меркаваньні дэпутатаў Народнага Фронту ігнараваў.

Паказальнай у гэтым сэнсе была сустрэча Шушкевіча з дэпутатамі Апазыцыі БНФ 5-га сьнежня 1991 году ў пакоі Апазыцыі (363-ы пакой) Дома ўраду. Мы запрасілі Шушкевіча, каб высьвятліць ягоную пазыцыю напярэдадні візыту ў Беларусь прэзыдэнта Расеі Барыса Ельцына і прэзыдэнта Украіны Леаніда Краўчука. Дарэчы, гэта быў першы і апошні выпадак, калі Шушкевіч наведаў пасяджэньне Апазыцыі. Вось некаторыя цытаты з запісу:

*Шушкевіч:* „Саюзная дамова. Усё – праўда. Я лічу гэта палітыкай. Дазвольце мне не станавіцца пад вашы штандары… Вы, мышы, сабраліся, хочаце кату павесіць званочак на хвост. Хоць хто-небудзь працаваў ва ўрадзе? Начхаць нам на саюз з Малдовай і Прыбалтыкай – у іх нафты няма!.. У нас ва ўрадзе не такія дурні...”



*66. Прэсавая канфэрэнцыя Ценевага Ураду БНФ. 1994 год. Зь лева на права С. Антончык, І. Нікітчанка, З. Пазьняк, С. Навумчык, У. Заблоцкі.*

*Пазьняк:* „...Чаму Ваша палітыка – увесь час глядзець на Расею? А не на Прыбалтыку, Захад?”

*Шушкевіч:* „Да палітыкі, якую можа правозіць дзяржава – нам трэба ісьці доўга... (Наконт спатканьня з Краўчуком і Ельцыным): – Правядзем перамовы па пытаньнях эканамічных пагадненьняў, фінансаў, некаторых іншых. Размова „адзін на адзін” з Ельцыным і Краўчуком, у абставінах, ізаляваных ад астатняга сьвету”.

На той сустрэчы Шушкевіч сказаў – „я езьдзіў, ежджу і буду езьдзіць у Нова-Агарова”, пацьвердзіўшы тым самым сваю пазыцыю „захаваньня Саюза ў абноўленай форме”.*

---

* *(Заўвага выдаўца):* У адным інтэрв’ю С. Шушкевіч ўдакладніў, што яго супроцьстаяньне і непадтрымка палітыкі Апазыцыі БНФ і ягоная згода з намэнклятурай былі прадыктаваныя небясьпекай страціць пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета (якую ён усяроўна ганебна страціў). Дзеля ілюстрацыі такой пазыцыі вымоўны ёсьць наступны дыялог:

Але візіт Краўчука, Ельцына абярнуўся такім бокам, што праз чатыры дні пасьля гэтай размовы Шушкевіч разам з Кебічам падпісалі Віскулёўскія пагадненьні, якія ставілі кропку ў існаваньні СССР і дзейнасьці Гарбачова як прэзыдэнта.

## „МОЖНА БЫЛО Б ПАДПІСАЦЬ НЕШТА ГОРШАЕ...”

Я не зьбіраюся ставіць пад сумнеў важнасьць подпісу Станіслава Шушкевіча (як, між іншым, і Вячаслава Кебіча) пад пагадненьнем 8 сьнежня 1991 г. у Віскулях аб дэнансацыі Дамовы аб утварэньні СССР. Але па заявах і паводзінах Шушкевіча, Кебіча відавочна і зразумела, што ідэя і ініцыятыва разьвітацца

---

**„Карэспандэнт: – У канцы 1991-га года намэнклятура і большасьць у ВС была дэмаралізаваная, яны прымалі, фактычна, усё пад дыктоўку БНФ. Але вы адразу прынялі пазыцыю „згоды”. Гэта стала вашым любімым словам, фактычна, палітычным дэвізам. Але ці не паказалі далейшыя падзеі, што гэта было няправільным?**

**Шушкевіч** – Тыя наіўныя прапановы, што былі з боку БНФ – „Вярхоўны Савет у адстаўку”. Гэта я павінен уносіць такую прапанову? Я Старшыня, і я павінен такое прапаноўваць? Дык яны мне скажуць – „навошта ты нам такі патрэбны, мы зараз новага абярэм”

**Карэспандэнт: – Пачакайце, зьявілася новая незалежная дзяржава – Рэспубліка Беларусь, усталяваны іншы грамадзкі лад, няма кіроўнай камуністычнай партыі. А заканадаўчы ворган выбіраўся яшчэ ў той дзяржаве, СССР, у тых умовах. Чаму новая дзяржава не павінна мець новы заканадаўчы ворган? Гэта цалкам абгрунтаваная прапанова...**

**Шушкевіч** – Я яшчэ раз вам кажу... Яшчэ раз кажу. У гэты заканадаўчы ворган людзі былі абраны больш-менш дэмакратычным чынам, і трэба было зь яго выцягнуць усё, што магчыма.” *(„Салідарнасьць”, – 11 лютага 2010).* http://gazetaby.com/index.php?sn_nid=26684&sn_cat=32

з Гарбачовым і Савецкім Саюзам зыходзіла зусім зь іншага боку і для беларускіх падпісантаў была, відаць, даволі нечаканай.

Гэты крок, аднак, быў у інтарэсах беларускай Незалежнасьці. Іншая справа, што важнасьць самых пагадненьняў часам істотна перабольшваецца павярхоўнымі заявамі, што менавіта яны і далі Беларусі (як і іншым савецкім рэспублікам) Незалежнасьць. Гэта відавочная няпраўда: Беларусь юрыдычна мела Незалежнасьць з 25 жніўня 1991 года, калі набылі вяршэнства яе Канстытуцыя і законы. Аднак бясспрэчна, што пагадненьні паспрыялі зьнікненьню СССР (казаць „паставілі кропку", пэўна, будзе не зусім дакладна – нагадаем, што Захад не сьпяшаўся прызнаваць былыя савецкія рэспублікі і заявіў пра прызнаньне і ўсталяваньне дыпляматычных адносінаў толькі пасьля заявы Гарбачова аб адстаўцы. Зрэшты, працэс ўжо быў незваротны).

Нарэшце, асабіста я паставіў бы пад сумнеў сьцьвярджэньні, што нібыта Шушкевіч загадзя планаваў дэнансацыю Саюзнай дамовы. Гэта ў нечым нагадвае цяперашнія інтэрв'ю Гарбачова, які заяўляе, што сьвядома задумаў „перабудову" як дэмантаж злачыннай камуністычнай сістэмы (пагартаўшы газэтныя падшыўкі канца 80-ых-пачатку 90-ых гадоў, лёгка пераканацца, што Гарбачоў апантана абараняў камунізм, ленінізм, „сацыялістычны выбар", і ягоныя саступкі працэсам дэмакратыі – рэакцыя на абставіны, жаданьне захавацца на пасадзе, а не рэалізацыя нейкага мудрагелістага плану). Выказваньні і дзеяньні Шушкевіча ў апошнія месяцы 1991 года (зрэшты, як і ранейшыя) сьведчаць, што ён не жадаў распаду СССР у тым варыянце, які ўрэшце адбыўся. Да прыкладу, калі Апазыцыя БНФ у верасьні 1991 г. уносіла ў парадак дня сэсіі ВС законапраект аб дэнансацыі Саюзнай дамовы 1922 году, Шушкевіч нас не падтрымаў.

Што да самой атмасфэры сустрэчы ў Віскулях і падпісанага 8 сьнежня 1991 пагадненьня, дык варта прывесьці словы аднаго з удзельнікаў сустрэчы, тагачаснага віцэ-прэм'ера Расеі Ягора Гайдара: „Больш за ўсіх, як мне здаецца, перажываў, хваляваўся С. Шушкевіч. У ягоных словах гучаў лейтматыў: мы маленькая краіна, прымем усялякае ўзгодненае рашэньне Расеі і Украіны. Але вы ж, вялікія, усё прадумалі?"

(Е.Гайдар. Дни поражений и побед. – М.: Евразия, –1997. стар. 325).

Станоўча ацэньваючы рашэньне аб дэнансацыі Саюзнай дамовы, мы ў Апазыцыі адразу ж выступілі супраць стварэньня СНД, убачыўшы ў ёй прататып будучай імпэрыі, дзе галоўная роля ізноў будзе адведзеная Маскве (што пазьней і адбылося). У прыватнасьці, супраць стварэньня СНД у часе ратыфікацыі пагадненьняў Вярхоўным Саветам 10 сьнежня выступіў Зянон Пазьняк, яшчэ раз запатрабаваўшы неадкладна прыступіць да стварэньня ўласнага войска, уласных грошай, уласнай мытні; аднак уносіць папраўкі ў падпісаны тэкст Белавежскага пагадненьня ужо было немагчыма.

Сытуацыя была б іншай, калі б разам з Шушкевічам і Кебічам у Віскулях быў лідэр Апазыцыі БНФ альбо нехта з дэпутатаўфронтаўцаў.

У сваёй кнізе „Мой шыбалет" *(Радыё Свабода, 2008 г.)* Пётра Садоўскі піша пра пра Белавежскія пагадненьні: „Калі ўсё адбылося, я, як беларус, ня мог не вітаць гэтага. Аднак як старшыня Камісіі замежных справаў нацыянальнага парлямэнту я ня мог не разумець, што працэдура прыняцьця такога рашэньня ня лезе ні ў якія вароты. Я ня думаю, што Гарбачоў пачаў бы высаджваць у пушчы дэсант, калі б Ельцын і ягоныя калегі хаця б дзеля палітэсу апэратыўна запрасілі ў Віскулі прадстаўнікоў

парлямэнтаў. Гэта не была пакрыўджаная амбіцыя старшыні Камісіі замежных спраў. Я разумею, што магло здарыцца і нешта горшае, пад чым, напрыклад, Кебіч, які разам з Шушкевічам быў там, мог бы паставіць подпіс" *(стар. 325)*. І раней, там жа: „Можна было падпісаць нешта горшае, чым тое пагадненьне".

Да гэтых слоў можна дадаць хіба тое, што і Ельцын, і Краўчук мелі поўнае права аднаасобна прадстаўляць свае краіны, бо абодва былі абраныя прэзыдэнтамі, а Расея і Украіна на той момант былі прэзыдэнцкімі рэспублікамі. Шушкевіч жа быў сьпікерам парлямэнту (пазьней ён любіў апраўдвацца, што не зрабіў нечага, бо не хапала паўнамоцтваў, бо ён „толькі" сьпікер). Гэта дало магчымасьць некаторым спэкуляваць на легітымнасьці подпісу Шушкевіча (хаця, як вышэйшая службовая асоба, Шушкевіч меў права падпісваць такія дакумэнты, з наступнай іх ратыфікацыяй парлямантам).

Пытаньне, аднак, не ў легітымнасьці подпісу Шушкевіча (легітымнасьць пагадненьню была нададзена, калі іх ратыфікаваў Вярхоўны Савет). Побач з Шушкевічам не было нікога, хто мог бы падказаць яму нейкія іншыя варыянты, якія б у значна большай ступені адпавядалі нацыянальным інтарэсам Беларусі.

Я далёкі ад думкі, што Шушкевіч запрасіў бы Пазьняка (хаця праз два тыдні на сустрэчу лідэраў краінаў у Алма-Аце Пазьняк быў запрошаны), але афіцыйны статус таго ж Садоўскага (старшыня „міжнароднай" камісіі і член Прэзыдыюму ВС) цалкам апраўдваў ягоную магчымую прысутнасьць на сустрэчы (пазьней Шушкевіч ва ўсе замежныя паездкі запрашаў членаў Прэзыдыюму і дэпутатаў; перакананы, што проста ён напачатку не надаваў сустрэчы ў Віскулях вялікага значэньня, бо ня ведаў, што адбудзецца).

Пад ужытым Садоўскім вызначэньнем „горшае” можна разумець канфэдэрацыю (зь якой, па сутнасьці, пагаджаўся Шушкевіч у Нова-Агарове). Калі ж дапушчальна ўявіць, што мог быць нейкі „лепшы” варыянт, дык, трэба меркаваць, гэта магло быць пагадненьне толькі аб дэнансацыі Саюзнай дамовы – без усялякага дадатку ў выглядзе СНД. Але дзеля таго, каб падпісаць такое пагадненьне, старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі павінен быў мець палітычную волю.

Пры такой сытуацыі Беларусь (як і Украіна) была б роўна ў такім юрыдычным стане, у якім былі ў той момант Летува, Латвія і Эстонія, без прывязкі (праз СНД) да імпэрскай Расеі. І я перакананы, што Вярхоўны Савет ратыфікаваў бы такое пагадненьне (уласна, яму нічога не заставалася б рабіць, бо адмова ў ратыфікацыі азначала б саюз зь Ельцыным, які тады яшчэ ўспрымаўся дэмакратарам-рэфарматарам і якога дэпутаты экскамуністы ўсё яшчэ баяліся).

Замест гэтага Беларусь была ўцягнутая ў СНД, а пазьней – у сістэму калектыўнай бясьпекі (якую, ізноў жа, падпісаў Шушкевіч) і ўсё шчыльней уцягвалася ў арбіту маскоўскай палітыкі.

## „АДДЗЯЛЕНЬНЕ – ГЭТА АБСУРД...”

Нядаўна апублікаваныя пратаколы сустрэчаў тагачаснага прэзыдэнта СССР Гарбачова з заходнімі лідэрамі даюць нагоду
(http://www.glavred.info/archive/2009/10/05/163604-3.html
http://www.glavred.info/archive/2009/10/06/162106-9.html
http://www.glavred.info/archive/2009/10/09/151615-9.html
http://www.glavred.net/archive/2009/10/08/144050-8.html)

вярнуцца да тэмы стаўленьня „дэмакратычнага Захаду" да важнейшага права нацыі – права мець сваю дзяржаўнасьць – і лепей зразумець, зь якім магутным супрацівам давялося сутыкнуцца нацыянальна-вызвольным рухам.

Працэс суверэнізацыі былых савецкіх рэспублік ня выклікаў у заходніх лідэраў ніякага спачуваньня – спачуваньне было толькі Гарбачову. У сваіх гутарках з прэзыдэнтам СССР яны малявалі апакаліптычныя прагнозы ў выпадку суверэнізацыі рэспублік.

Старшыня Камісіі Эўрапейскіх Супольнасьцяў Жак Дэлор (19 ліпеня 1990 ): „Я нядаўна чуў заяву Украіны пра тое, што яна хоча ўвесьці ўласную валюту. Наступствы гэтага былі б жахлівыя".

Канцлер Нямеччыны Гельмут Коль (5 ліпеня 1991): „...важна пазьбягаць дзеяньняў, якія б стваралі на Захадзе адчуваньне таго, быццам СССР вось-вось разваліцца на канглямэрат асобных рэспублік".

Прэзыдэнт ЗША Джордж Буш (30 ліпеня 1991 ). „Ні ў якім разе не зьбіраюся падтрымліваць сэпаратызм…Канешне, у нас ёсьць з вамі складанасьці па Прыбалтыцы. Ландсбергіс вельмі жадаў, каб на шляху дадому я зрабіў прыпынак у Вільні. У нас, канешне, хапіла розуму, каб зразумець, што гэтага ня трэба рабіць. У той жа час не магу не сказаць, што, на наш погляд, лепш за ўсё было б, калі б вы знайшлі магчымасьць адсекчы, адпусьціць на волю гэтыя рэспублікі. Гэта цудоўна паўплывала б на грамадзкую думку„.

Пра права народаў Беларусі, Украіны ды іншых рэспублік у сьпічы амэрыканскага прэзыдэнта пра незалежнасьць – ні слова. Бо – „сэпаратызм".

2 верасьня Буш тэлефануе кіраўнікам Летувы, Латвіі і Эстоніі і паведамляе ім пра гатоўнасьць неадкладна ўсталяваць зь імі

дыпляматычныя стасункі. Лёс незалежнасьці іншых рэспублік амэрыканскага прэзыдэнта не цікавіць.

А між тым, Незалежнасьць большасьцю савецкіх рэспублік ужо абвешчаная. Здавалася б, дастатковая падстава для пераасэнсаваньня рэаліяў. Міністар эканомікі фінансаў і бюджэту Францыі Пьер Берэгавуа на сустрэчы з Гарбачовым 6 верасьня 1991 г. канстатуе: „ Зараз мы бачым, што зьяўляюцца сувэрэнныя рэспублікі”.

Аднак праз тры дні, 9 верасьня, іншы эўрапейскі міністар, кіраўнік зьнешнепалітычнага ведамства Нямеччыны Ганс Геншэр, кажа Гарбачову: „У рэспублік Савецкага Саюза зараз ёсьць унікальны шанец пазьбегчы фазы адасабленьня нацыянальных дзяржаў і адразу крочыць у эпоху канфэдэратыўных формаў дзяржаўнага жыцьця…”.

Праз паўтары месяцы, 26 кастрычніка, той жа Геншар дадае:

„Эўропа імкнецца да яднаньня, а вы шукаеце якія заўгодна нагоды, каб разьяднацца. Гэта парадаксальна і ня можа быць нічым апраўдана”.

29 кастрычніка 1991 Прэзыдэнт ЗША Джордж Буш супакойвае Гарбачова, каб ён не хваляваўся з прычыны кантактаў з некаторымі лідэрамі рэспублік і тлумачыць, чаму яны адбываюцца:

„Так, я прымаў Краўчука. Акаева. Мы маем кантакты з рэспублікамі, імкнучыся, каб яны не падрывалі Вашыя (Гарбачова – С.Н. ) пазыцыі”.

Як гаворыцца, усё – пад кантролем.

У той жа дзень прэм’ер-міністар Гішпаніі Фэліпэ Гансалес выяўляе ўласныя веды ў галіне геаграфіі і палітыкі:

„Казахстан як такі – гэта нонсэнс…Аддзяленьне – гэта абсурд…”.

На наступны дзень, 30 кастрычніка 1991 г, Гансалес у размове з тым жа Гарбачовым дэталізуе сваю эрудыцыю:

„… Асабіста для мяне няма сумненьняў у неабходнасьці захаваньня Саюза як моцнай дзяржавы. Гэта ў інтарэсах і Гішпаніі, і Эўразьвязу, і ўсяго Захаду… Рэальна, Джордж Буш не жадае развалу Савецкага Саюза. Больш за тое. Ён на Захадзе – найбольш сур'ёзны і пасьлядоўны прыхільнік разам з Бэйкерам (тагачасны дзяржсакратар ЗША – С.Н.) захаваньня Савецкага Саюза, які ўсьвядоміў неабходнасьць гэтага. ...Дзіўнаватыя школьніцкія разважаньні некаторых маіх калег, якія сур'ёзна кажуць пра гэты дрэны жарт, – праве нацыяў на самавызначэньне. Нам патрэбны Гарбачоў, і нам патрэбны стабільны, моцны інстытут прэзыдэнта СССР".

Той жа дзень. 30 кастрычніка 1991. Гарбачоў сустракаецца з прэзыдэнтам Францыі Франсуа Мітэранам і распавядае яму пра падтрымку гішпанскага прэмьера. Мітэран паблажліва заўважае: „У яго вельмі шмат аўтаноміяў. Францыі гэта не пагражае".

Сапраўды, у падмурку пазыцыі Мітэрана – ня ўнутраныя, а геапалітычныя інтарэсы, аж да Польшчы, і яшчэ далей. А таксама – прагматычны разьлік:

„Я разважаю абсалютна халодна: у інтарэсах Францыі, каб на усходзе Эўропы існавала цэнтральная сіла… Я з тых, хто жадае мець у Вашай асобе моцнага партнёра – новы Саюз. Інакш што – Расея, Украіна, Беларусь, Грузія, нейкія яшчэ дзяржавы? У выніку ў Польшчы сытуацыя зробіцца яшчэ больш нестабільнай... Францыя ня будзе спрыяць цэнтрабежным сілам. І я думаю, на такіх пазыцыях стаяць усе старыя эўрапейскія краіны з доўгай гісторыяй, у якіх старажытныя традыцыі і глыбокі эўрапейскі досьвед. Я маю на ўвазе Англію, Францыю, Гішпанію. Партугалію…"



*67. Характэрны прыклад супрацоўніцтва расейцаў зь немцамі. 1939 г.*

Паказальнае стаўленьне заходніх лідэраў да Украіны – дзяржавы, зь якой па тэрыторыі і колькасьці насельніцтва можа параўнацца толькі некалькі эўрапейскіх краінаў. Яе, у адрозьненьні ад Беларусі, яны лічылі стратэгічна важнай для захаваньня СССР (у тым, што Беларусь назаўсёды будзе пад Масквой, яны не сумняваліся). Вясной 1990 года, выступаючы перад дэпутатамі Вярхоўнай Рады Украіны, Маргарэт Тэтчар заявіла, што Украіна мае такое ж права на незалежнасьць, як і амэрыканскі штат Каліфорнія. Больш як праз год, 10 жніўня 1991 года, прэзыдэнт ЗША Джордж Буш сказаў у Кіеве, што „свабода ня тоесная незалежнасьці”, і выказаўся за захаваньне СССР; працэс суверэнізацыі Буш назваў „самазабойчым нацыяналізмам”.

І вось на 1 сьнежня 1991 года ва Украіне прызначаны рэфэрэндум аб Незалежнасьці. Напярэдадні, 30 лістапада, прэзыдэнт ЗША Буш сустракаецца з Гарбачовым:

„Калі рэфэрэндум дасьць чаканыя вынікі, дык адзінае пытаньне палягае ў тым, калі і якім чынам мы і іншыя краіны прызнаем незалежнасьць Украіны. Пасьля падрабязнага вывучэньня гэтага пытаньня нам ўяўляецца, што прызнаньне незалежнасьці можа спрыяць вяртаньню Украіны ў ажыцьцяўляемы Вамі працэс падпісаньня Саюзнай дамовы.. мы не жадаем нават выпадкова сыграць на руку радыкалам у Расеі альбо на Украіне...”

Гарбачоў: „Учора ў нас было пасяджэньне Палітычнай кансультацыйнай Рады пры прэзыдэнце. Удзельнічалі вядомыя

Вам асобы – Аляксандар Якаўлеў, Шэварнадзэ, Папоў, Сабчак, Яўлінскі, Петракоў, Ягор Якаўлеў, Бакацін. Гэта праверана каманда, загартаваная вопытам. Агульнае меркаваньне: палітычны саюз жыцьцёва неабходны. Без яго падзеі могуць прыняць катастрафічны характар для нас, для Эўропы. Для ўсяго сьвету…"

Буш: „Гэта вельмі абнадзейвае. Мне няма неабходнасьці казаць Вам, як мы паважаем названых асобаў. Гэта сапраўды людзі, загартаваныя вопытам і выпрабаваньнямі".

Зьвернем увагу на склад „выпрабаванай" і „загартаванай" каманды. Акрамя былых членаў Палітбюро ЦК КПСС Аляксандра Якаўлева і Эдуарда Шэварнадзе ды былога члена ЦК КПСС Вадзіма Бакаціна, у „камандзе" – „зорка" міжрэгіянальнай дэпутацкай групы, дэмакратычны мэр Пецярбургу Анатоль Сабчак, дэмакратычны мэр Масквы Гаўрыла Папоў, эканамістрэфарматар Мікалай Петракоў, яшчэ большы рэфарматар і дэмакрат Грыгорый Яўлінскі, сымвал гарбачоўскай галоснасьці – рэдактар „Московских новостей" Ягор Якаўлеў.

Як бачым, самыя аўтарытэтныя расейскія дэмакраты выступалі за захаваньне СССР, фактычна – супраць незалежнасьці рэспублік, якія заявілі пра свой суверэнітэт. І гэтага для заходніх лідэраў было абсалютна дастаткова, каб лічыць, што "за саюз" выступаюць усе дэмакратычныя сілы „саюза" – паколькі іншых яны, фактычна, ня ведалі.

У пацьверджаньне гэтага заўважу, што з траўня 1990, калі пачаў працу Вярхоўны Савет БССР 12 скліканьня і да сьнежня 1991-га я ня бачыў у нас ў парляманце ніводнага палітыка са „старых эўрапейскіх краінаў" (у разуменьні Мітэрана) ці з ЗША. Яны не прыяжджалі нават для вывучэньня сытуацыі, абмяжоўваючыся інфармацыяй, якая паступала ім з Масквы.

Важна, што ігнараваньне незалежных рэспублік лідэрамі краінаў Захаду адбывалася на фоне ўсё больш частых кантактаў зь Ельцыным, які такім чынам меў значна лепшыя магчымасьці для ўмацаваньня міжнароднай пазыцыі Расеі, чым кіраўнікі іншых былых падсавецкіх рэспублік.

Што да апошніх, дык яны, падобна, ў большасьці былі пазбаўленыя ўсьведамленьня месца сваіх краінаў у міжнародным кантэксьце і былі няздольныя спрагназаваць дзеяньні Расеі ні ў блізкай, ні ў аддаленай пэрспэктыве. Сьведчаньне гэтаму – перадача замежнай дыпляматычнай нерухомасьці СССР пад юрысдыкцыю Расеі. Яшчэ большай памылкай было прынятае ў канцы сьнежня 1991 г. ў Алма-Аце рашэньне аддаць Маскве места сталага члена Рады Бясьпекі ААН. Савецкія кіраўнікі незалежных рэспублік баяліся, што інакш месца зойме Японія, і тады іх інтарэсы ня будуць улічаныя.

Характэрны эпізод сустрэчы ў Алма-Аце прыводзіць у сваіх мэмуарах тагачасны міністар замежных спраў Пётра Краўчанка:

„У асноўнай частцы Алма-ацінскага саміту, якая праходзіла за зачыненымі дзьвярыма, удзельнічалі толькі першыя асобы рэспублік – кіраўнікі дзяржаў і ўрадаў. Астатнія члены дэлегацыяў чакалі вынікаў перамоваў у іншым памяшканьні. Пасьля завяршэньня сустрэчы да беларускай дэлегацыі выйшаў Станіслаў Шушкевіч і распавёў пра прынятыя рашэньні. Як бы паміж іншым ён адзначыў, што па просьбе Барыса Ельцына ўсе ўдзельнікі саміту пагадзіліся прызнаць Расею правапераемніцай Савецкага Саюзу ў Радзе Бясьпекі ААН і ўласьнікам ядзернай зброі.

Мы адчулі сапраўдны шок. Выходзіла, што Шушкевіч нас проста здаў! Здаў нацыянальныя інтарэсы Беларусі, якая адным махам пазбавілася галоўных козыраў на перамовах з Расеяй – аб падзеле ўласнасьці былога Саюза. Канешне,

ён ня меў права прымаць такія рашэньні, не параіўшыся з усім складам дэлегацыі. Не даводзілася сумнявацца, што цяпер мы не атрымаем ад Ельцына нічога! Памятаю, як я накінуўся на сьпікера, спрабуючы патлумачыць яму, што ён нарабіў, але Шушкевіч у адказ мармытаў нешта няўцямнае... Другім чалавекам у нашай дэлегацыі, які цалкам усьвядоміў увесь драматызм сытуацыі, быў мой даўнішні апанэнт Зянон Пазьняк. Ён спахмурнела назіраў за нашай перапалкай і, сумна ўздыхнуўшы, вымавіў такую фразу: – „Шушкевіч не клапоціцца аб дзяржаўных інтарэсах Бацькаўшчыны!” ***(Пётра Краўчанка, «Беларусь на распутье, или Правда о Беловежском соглашении»,*** *– Москва, 2006, «Время», стар. 185-186).*

Няцяжка спрагназаваць, як бы галасавала па ключавых пытаньнях міжнароднай палітыкі дэмакратычная Японія. Тое, як галасавала і галасуе цяпер кагэбізаваная імпэрская Расея – добра вядома.

## ВЫСНОВЫ

Такім чынам, можна зрабіць некалькі высноваў з падзеяў апошніх чатырох месяцаў 1991 года.

Першае. Віскулёўскія пагадненьні ніякім чынам не зьмянілі юрыдычны статус Рэспублікі Беларусь і не надалі ёй „большую” ступень суверэнітэту, які яна атрымала 25 жніўня 1991 года. Аднак пагадненьні зьмянілі кантэкст, зьнешнія абставіны. У выніку была ліквідаваная парадаксальная сытуацыя, калі, юрыдычна маючы ўсе суверэнныя правы, Беларусь нібыта дзялілася імі з „саюзным цэнтрам”, падтрымліваючы існаваньне па-сутнасьці фантомнай ўжо дзяржавы пад на-

звай СССР. Віскулёўскія пагадненьні паспрыялі спыненьню існаваньня СССР і прысьпешылі міжнароднае прызнаньне Беларусі.

Другое. Да самага апошняга моманту, падтрымліваючы ідэю „новага саюзу”, Шушкевіч у Віскулях (паводле Гайдара) заняў асьцярожную пазыцыю ды ішоў у фарватары рашэньняў Ельцына і Краўчука. Шушкевіч і Кебіч ня былі падрыхтаваныя да падпісаньня пагадненьняў аб спыненьні існаваньня СССР у той ступені, у якой былі гатовыя лідэры Расеі і Украіны, і ўжо ні ў якім разе не выступалі іх ініцыятарамі. Канешне, гэта не зьмяншае значнасьці подпісу беларускіх кіраўнікоў пад Віскулёўскім пагадненьнем, аднак, у немалой ступені, тлумачыць пасіўнасьць старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіча ў справе ўмацаваньня дзяржаўнасьці ў верасьні-снежні 1991 года, і ігнараваньне прапаноў Апазыцыі БНФ у наступны пэрыяд ягонага старшынства ў ВС 12-га скліканьня.

Трэцяе. Савецкі Саюз як імпэрыя завяршыў сваё існаваньне насуперак жаданьням лідэраў Захаду, якія ў пэрыяд суверэнізацыі дзяржаваў былога СССР у 1990-1991 гг. падтрымлівалі „саюзны цэнтар” на чале з Гарбачовым і выступалі супраць незалежнасьці былых савецкіх рэспублік (акрамя Прыбалтыкі). Захад ігнараваў існаваньне нацыянальна-вызвольных рухаў, што пазьней стварыла шмат праблемаў для самога Захаду.

Чацьвёртае. Лідэры былых савецкіх рэспублік передаверыліся Ельцыну і ўскладалі неапраўданыя спадзяваньні на Расею, у прыватнасьці, аддаўшы ёй ядзерную зброю, транспартныя і транзытныя паліўныя камунікацыі, маёмасьць ў замежжы. Асабліва адмоўны вынік – ужо ня толькі для дзяржаваў былога СССР, а для ўсясьветнай супольнасьці – мела адданьне Расеі месца сталага члена ў Радзе Бясьпекі ААН.

Пятае. Далейшае разьвіцьцё падзеяў паказала, што ***адзінай сілай у Беларусі, якая пасьлядоўна выступала за Незалежнасьць і мела канцэпцыю ўмацаваньня дзяржаўнасьці, практычна, па ўсіх накірунках (эканоміка, вайсковая палітыка, міжнародныя стасункі, адукацыя, культура і інш.) – быў Беларускі Народны Фронт і яго парляманцкая група – Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце 12 скліканьня.*** Ігнараваньне гэтых прапаноў дэпутатаў БНФ ў той вызначальны для краіны пэрыяд кіраўніцтвам Вярхоўнага Савету на чале з С. Шушкевічам і Саветам Міністраў на чале з В. Кебічам зрабіла, у значнай ступені, магчымым вяртаньне Беларусі ў аўтарытарызм і дыктатуру, палітычную і эканамічную залежнасьць ад Масквы. Тым ня менш, і праз доўгі час асноўныя палажэньні нацыянальнай палітыкі, распрацаваныя Народным Фронтам, і па сёньня застаюцца актуальнымі для Беларусі.

*26 студзеня 2010 г.*

***Сяргей Навумчык***

# СЛОВА ВАСІЛЯ БЫКАВА

Пасьля зыходу Васіля Ўладзімеравіча Быкава з жыцьця ад некаторых прыхільнікаў яго творчасьці чулася: „Не ўцягвайце імя Быкава ў палітыку, ён – вышэй”. Яны мелі спадзеў, што, „ачысьціўшы” фігуру Быкава ад палітыкі, ім удасца пераканаць цяперашнюю ўладу паставіць яе на тое месца, якое павінна займаць гэтая постаць у культурным жыцьці Беларусі. Зразумела, што пад „палітыкай” меўся на ўвазе ўдзел Быкава ў БНФ і прыхільнасьць да яго лідэра Зянона Пазьняка.

Спадзяваньні наіўныя – антыбеларуская ўлада ня можа шанаваць памяць вялікага беларуса, людзі, што на бачаць сваёй будучыні без Расеі, ніколі не аддадуць належнае змагару за Незалежнасьць, які падпісаньне „саюзнай дамовы” з Масквой назваў „злачынствам стагодзьдзя”.

Выходзяць артыкулы пра Быкава і нават манаграфіі, у якіх пра ягоны ўдзел у Беларускім Народным Фронце, у нацыянальным Адраджэньні, увогуле пра грамадзянскую пазыцыю – ні слова. Гэта як бы ў біяграфіі Адама Міцкевіча не ўзгадалі пра ягоную падтрымку антырасейскага паўстаньня і не назвалі прычыну эміграцыі, якая паліла яму сэрца, а проста сказалі – „пісаў вершы, а потым паехаў у Парыж”.

Бясспрэчна, творы і слова Быкава перажывуць наш час зь яго палітычнымі катаклізмамі. Аднак выкрэсьліць зь біяграфіі Быкава старонкі ягонай палітычнай і грамадзкай дзейнасьці – значыць абядніць асобу Быкава, зьменшыць яе маштаб. А таксама – пазбавіць гісторыю Беларусі постаці,

якая адыграла ключавую, вызначальную ролю ў нацыянальным Адраджэньні.

Дарэчы, калі нехта лічыць, што грамадзкая дзейнасьць ня вартая таго часу, які мог бы правесьці Быкаў за пісьмовым сталом як творца, – хай падумае пра тое, што ягоная актыўнасьць у БНФ дала магчымасьць стасункаў з сотнямі новых для яго людзей, назіраньня за іх паводзінамі ў розных сытуацыях, аналізу іх узаемаадносінаў – што зусім ня лішняе для пісьменьніка.

І нарэшце – трэба зусім ня ведаць Быкава, каб лічыць, што яго нехта мог прымусіць рабіць тое, чаго ён рабіць не жадаў.

## МАЎКЛІВЫ ДЭПУТАТ

Аднойчы Уладзімер Арлоў, прыгадваючы, як упершыню ўбачыў Быкава на семінары маладых літаратараў, сказаў пра вялікае ўражаньне ад быкаўскага маўчаньня. І сапраўды – часам маўчаньне можа сказаць больш за словы.

Доўгі час я ня мог патлумачыць сабе, чаму Быкаў, які з сярэдзіны 80-ых гадоў пачаў выступаць як публіцыст (ягоныя артыкулы і інтэрв'ю вызначаліся палемічнасьцю і вастрынёй), – маўчыць на сэсіях Вярхоўнага Савету Беларусі (ён быў дэпутатам некалькіх скліканьняў), і, пазьней – на зьездах Народных дэпутатаў СССР.

На першы погляд, прычыну маўчаньня трэба было шукаць у характары Васіля Уладзімеравіча. Ён ня быў „трыбунам” (у адрозьненьні ад блізкага свайго сябра Алеся Адамовіча, які адчуваў сябе ў парляманцкіх рысталішчах як рыба ў вадзе, і на плашчыне дэпутацтва сапраўды нямала зрабіў для дэмакратызацыі). Васіль Уладзімеравіч увогуле не любіў высту-

пацць публічна, а калі даводзілася гэта рабіць, зблізку адчувалася, што даецца яму гэта праз сілу.

І пры гэтым – Быкаў выступаў на мітынгах Народнага Фронту, на зьездах і соймах БНФ (і тады, калі памяшканьня на Варвашэні, 8 яшчэ у нас не было, і яны праводзіліся далёка ад цэнтру, у Серабранцы), пайшоў на просты эфір кандыдата ў прэзыдэнты Зянона Пазьняка, на мільённую тэлеаўдыторыю. Мне даволі часта даводзілася весьці і шматтысячныя фронтаўскія мітынгі, і прэсавыя канфэрэнцыі для невялікага кола журналістаў – і ён ніколі, ніводнага разу, не адмовіўся ад выступу. Зразумела, ня толькі таму, што не хацеў пакрыўдзіць арганізатараў (хаця далікатнасьць была рысай ягонага характару), а найперш – з прычыны ўсьведамленьня грамадзкай важнасьці свайго слова (ён, бузумоўна, рэальна ацэньваў вагу свайго імя).

Пазьней я зразумеў прычыну быкаўскага маўчаньня.

І ў Вярхоўным Савеце БССР, і на зьездах Народных дэпутатаў СССР Васіль Уладзімеравіч, з большага, быў у атачэньні апанэнтаў, прычым – варожых і агрэсіўных. Аднойчы ён расказаў, як, будучы членам нейкай дэпутацкай камісіі па абароне, прыйшоў на яе паседжаньне ў Крамлі і быў вымушаны слухаць прамовы генэралаў і кіраўнікоў вайскова-прамысловага комплексу пра небясьпеку дэмілітарызацыі ды неабходнасьць „спыніць вакханалію дэмакратыі”; пры гэтым ўсе пазіралі на яго. „Больш я на гэтую камісію не хадзіў”, – завяршыў свой расповед Васіль Уладзімеравіч.

Калі б Быкаў выйшаў на трыбуну – ён казаў бы праўду, і бясспрэчна выклікаў бы водпаведзі дэпутатаў-рэтраградаў. Публічнага цкаваньня ды агрэсіўнай нянавісьці (і злосных артыкулаў у газэтах, і камянёў у вокны кватэры), яму хапіла ў 60-ыя гады. Гэта паліла нэрвы і адбірала і без таго ня моц-

нае здароў’е – і таму дзякуй Богу, што ён устрымліваўся ад парлямэнцкіх дэбатаў.

На фронтаўскіх жа мерапрыемствах, наадварот, Васіль Уладзімеравіч быў у коле сяброў, прыхільнікаў, аднадумцаў. Тут лавілі кожнае ягонае слова, ставіліся да яго з усёй павагай (не здарма сваё 70-годзьдзе ён вырашыў сьвяткаваць у штаб-кватэры БНФ).

Пры ўсім гэтым, дэпутацтва Быкава мела бясспрэчны плён для грамадзтва. Не выступаючы з трыбуны, на зьездах Народных дэпутатаў СССР, Васіль Уладзімеравіч падтрымліваў галасаваньнем прапановы, якія разбуралі камуністычную сістэму, як, напрыклад, скасаваньне 6-га артыкула Канстытуцыі аб кіруючацй ролі КПСС. У студзені 1990-га у Вярхоўным Савеце БССР 11-га скліканьня Быкаў, разам з Генадзем Бураўкіным, Нілам Гілевічам, Іванам Чыгрынавым ды Іванам Шамякіным (пры ўсёй розьніцы палітычных прыхільнасьцяў гэтых пісьменьнікаў) галасаваў за прыняцьце гістарычнага рашэньня – наданьне беларускай мове статусу дзяржаўнай.

З 1991 году, калі былі спыненыя паўнамоцтвы Народных дэпутатаў СССР, Васіль Уладзімеравіч ужо не выбіраўся ў дэпутаты і адмаўляўся ад усялякіх прапаноў удзельнічацуь у выбарах у якасьці кандыдата. Мы ў Фронце паважалі гэтае ягонае рашэньне, разумеючы, што пісьменьнік імкнецца ашчадзіць сілы для творчасьці, і што ў выпадку патрэбы заўсёды пачуем ад яго слова падтрымкі.

## ЛЯ ВЫТОКАЎ АДРАДЖЭНЬНЯ

„Менавіта БНФ напрыканцы XX стагодзьдзя абудзіў нацыю, даў ёй надзею”, – сказаў аднойчы Васіль Уладзімеравіч.

Мы ж сёньня павінны прызнаць, што бяз Быкава стварэньне самога БНФ было б вельмі праблематычным. Зь імем Быкава зьвязаныя ключавыя, вызначальныя моманты найноўшай беларускай гісторыі.

У канцы 80-ых гадоў Быкаў меў вядомасьць у замежжы, як ніхто зь беларускіх пісьменьнікаў – ягоныя творы былі перакладзныя больш як на 50 моваў, а ў Эўропе яго лічылі адным з найбольш выбітных прадаўжальнікаў экзыстэнцыялізму. Улада спрабавала прылашчыць Быкава, надаўшы яму ўвесь магчымы для пісьменьніка набор вышэйшых савецкіх тытулаў і ўзнагародаў. У пісьменьніцкім асяродку за такія рэгаліі вяліся бойкі і інтрыгі – Быкаў жа ставіўся да іх спакойна.

Але надыйшоў момант, і гэтыя савецкія рэгаліі Быкаў скарыстаў напоўніцу ў інтарэсах змаганьня з савецкай сістэмай.

Калі Зянон Пазьняк прынёс у штотыднёвік „Літаратура і мастацтва" артыкул пра Курапаты, у рэдакцыі зразумелі, што надрукаваць яго можна будзе толькі пры падтрымцы асобы, з аўтарытэтам якой у ЦК павінны былі лічыцца. Пазьняк перадаў тэкст Быкаву, Васіль Уладзімеравіч напісаў прадмову. І пад подпісам, з усіх сваіх тытулаў, паставіў два: народны пісьменьнік Беларусі і лаўрыят Ленінскай прэміі. Першы – сьведчыў пра ягонае бясспрэчнае права казаць ад імя народа, чые сыны і дочкі былі зьнішчаныя бальшавіцкім рэжымам. Другі – раззбройваў ЦК „ленінскай" партыі і ставіў гэты „бальшавіцкі штаб" у вельмі няпростае становішча ў выпадку забароны публікацыі.

Быкаўская прадмова, як перакананы Пазьняк, зрабіла магчымай тую публікацыю. Цяпер ужо прызнана, што менавіта з артыкула З. Пазьняка і Я. Шмыгалёва „Курапаты – дарога сьмерці", які абудзіў нацыю, і пачалася апошняя хваля Адраджэньня.

# „БЭНЭЭФАВЕЦ"

19 кастрычніка 1988 году ў Чырвоным касьцёле ў Менску Быкаў рашуча спыніў спробу функцыянера ЦК пераўтварыць усеагульны сход у бясплённую гаварыльню, выступіў з прамовай, прапанаваў абраць на пасаду старшыні „Мартыралёга Беларусі" Зянона Пазьняка, які абвясьціў аб стварэньні Аргкамітэту БНФ.



*68. Стварэньне Таварыства „Мартыралог" і Аргкамітэту БНФ 19-га кастрычніка 1988 г. Васіль Быкаў спыняе правакацыю цэкіста Р. Бузука (зьлева). У цэнтры Міхась Дубянецкі.*

Быкаў увайшоў у гэты Аргкамітэт і пазьней быў абраны членам Сойму БНФ. Ён адкрыта, публічна падтрымліваў Народны Фронт у яго змаганьні за Незалежнасьць Беларусі.

„Пісьменьнікаў у новым руху было няшмат: я, Рыгор Барадулін, Артур Вольскі. І ўсё. Пісьменьнікі ў большасьці

дыстанцыяваліся ад БНФ. Пасьля шмат іх увайшло ў Таварыства беларускай мовы, лібэральную арганізацыю, са згоды ўладаў створаную Н. Гілевічам", – пісаў Быкаў у кнізе ўспамінаў „Доўгая дарога дадому".

Відавочна, гаворачы пра пісьменьнікаў, Васіль Уладзімеравіч меў на ўвазе прадстаўнікоў старэйшага пакаленьня, бо ад пачатку ў БНФ уваходзілі, сярод іншых, празаік Уладзімер Арлоў, паэт Сяржук Сокалаў-Воюш, перакладчык Лявон Баршчэўскі. Але па-сутнасьці заўвага дакладная: абсалютная большасьць ня толькі літаратараў, але і ўвогуле творчай інтэлігенцыі дыстанцыяваліся ад Народнага Фронта, мабыць, палічыўшы ўласную місію вышэй за выступы на мітынгах, пісаньне публіцыстычных аптыкулаў, удзел у выбарах хоць бы ў якасьці агітатараў. „Плён" такой сваёй пазыцыі ім давялося спазнаць неўзабаве, у лукашэнкаўскія часы, калі творцы былі выціснутыя на маргінэс, а нацыянальная культура апынулася без належнай дзяржаўнай падтрымкі.

„Ад аўтара-бэнээфаўца" – так падпісаў Васіль Уладзімеравіч сваю кнігу Галіне Пазьняк. Калі Быкаў казаў, што ніколі ня быў у партыі – ён меў на ўвазе камуністычную партыю. У 1993 годзе, у сувязі з пэўнымі зьменамі заканадаўства, было прынята рашэньне стварыць Партыю БНФ. Членства ў партыі для сяброў Народнага Фронту было неабавязковым, і некаторыя ў яе не ўвайшлі. А вось Быкаў – увайшоў, быў абраны ў кіруючы орган, прыходзіў, калі дазваляла здароў'е, на паседжаньні Сойму і часта на іх выступаў.

У пачатку 90-ых Быкаў штогод (як і Рыгор Барадулін ды Сяргей Грахоўскі) прыходзіў на Дзяды да будынку былога НКВД, адкуль Народны Фронт ладзіў шэсьце ў Курапаты. Васіль Уладзімеравіч некалькі разоў езьдзіў з дэпутатамі Апазыцыі ў

рэгіёны на сустрэчы з выбаршчыкамі, а ў час кампаніяў агітаваў за фронтаўскіх кандыдатаў.

Ужо адразу пасьля першай сэсіі Вярхоўнага Савета, летам 90-га, Быкаў даў высокую ацэнку парляманцкай дзейнасьці БНФ. Ён дакладна ацаніў і расклад палітычных сілаў, і манэўр дэпутатаў БНФ з пакіданьнем Авальнай залі, які прымусіў парляманцкую большасьць прыняць Дэклярацыю аб сувэрэнітэце, і адзінаццаты яе артыкул пра гэтак званую саюзную дамову: „У залі Вярхоўнага Савета, які прымаў Дэклярацыю, панаваў амаль хаўтурны настрой, бо ўсё гэта рабілася супраць волі большасьці, пры крайняй раздражнёнасьці некаторых дэпутатаў з партгрупы. Левыя дэпутаты (у той час пад „левымі” разумеліся дэмакратычныя плыні, пад „правымі” – камуністы – С.Н.) самаахвярна змагаліся за кожнае слова пры відавочнай пасіўнасьці правых, якія, аднак, адчувалі сваю сілу ў іншым – у галасавальнай працэдуры. Яна ўсё і вырашала. Можна было зразумець тых, хто пакінуў залю, калі сэсія надышла да перадапошняга артыкула, які па-сутнасьці зрабіў малаэфэктыўнымі (калі не зусім бескарыснымі) усе астатнія, нават самыя ўзьнёслыя і рамантычныя, але пазбаўленыя сэнсу”.

У сакавіку 1991-га, выступаючы на Другім зьездзе БНФ, Быкаў кажа: „У нас стварыўся пэўны парляманцкі парадокс, калі камуністычная парляманцкая большасьць па сутнасьці выяўляе інтарэсы меншасьці – партыйнай бюракратыі, а меншасьць – інтарэсы большасьці, па сутнасьці інтарэсы народа. Менавіта гэты парадокс і зводзіць у тупік усю ідэю беларускага парлямантарызму”.

Быкаў адзначаў, што суверэнітэт Беларусі быў абвешчаны, дзякуючы намаганьням дэпутатаў БНФ насуперак жаданьням парляманцкай большасьці, і што дзеля замацаваньня Незалежнасьці патрэбныя ня толькі атрыбуты дзяржаўнасьці,

але ў першую чаргу – нацыянальная палітыка, якая базуецца на павазе да мовы, культуры і гісторыі.

Маючы на ўвазе аднаўленьне Незалежнасьці, што адбылася 25 жніўня 1991 году, Быкаў заўважыў, што „камуністычны Вярхоўны Савет ды Ўрад хутка зразумелі, што „прадзешавілі”, што дарэмна паддаліся дружнаму напору жменькі апазыцыянераў Народнага Фронту. З таго часу ВС і Ўрад пачалі працаваць на рэстаўрацыю. І калі тая рэстаўрацыя дагэтуль не адбылася цалкам, дык за тое трэба дзякаваць зноў жа той жменьцы Апазыцыі БНФ, якая сваёй (я б сказаў, гераічнай) дзейнасьцю сарвала многія спробы такога парадку і ў ВС, і ва ўрадзе.” У гэтым жа нтэрв’ю А. Лукашуку для радыё *„ Свабода”* ў жніўні 1993-га Быкаў прадбачліва заўважыць: „Камуністы распачалі шалёную вайну з нацыянальнай мовай, за „равноправие русскоязычия”, і, баюся, што недалёкі той час, калі камуністычная большасьць Вярхоўнага Савету на парадак дня чарговай сэсіі паставіць пытаньне ад „дэбеларусізацыі”. Аб скасаваньні новай беларускай сымволікі яна ўжо ставіць”.

Ацэнкі Васіля Ўладзімеравіча, ягоная адкрытая, недвухсэнсоўная і катэгарычная падтрымка нашай працы была вельмі важная для нас, дэпутатаў Апазыцыі БНФ.

## „ЧАС ПАЗЬНЯКА ЯШЧЭ НЕ НАСТАЎ...”

Перакананы, што ў посьпеху апошняй хвалі нацыянальнага Адраджэньня (а менавіта посьпехам, здабытым неверагоднымі высілкамі, трэба лічыць аднаўленьне Незалежнасьці) істотнае значэньне мела супраца двух асобаў – палітычнага лідара нацыі і яе маральнага апостала: Зянона Пазьняка і Васіля Быкава.

Пра ўступнае слова да артыкула пра Курапаты і ўтварэньне ў Чырвоным касьцёле Аргкамітэту БНФ ў 1988-ым казалася вышэй. Тут прывяду словы Быкава ў наступныя гады, у розныя пэрыяды.

У жніўні 1990-га наша інтэрв'ю для штотыднёвіка *„Літаратура і мастацтва”* Васіль Уладзімеравіч завяршыў такімі словамі:

„Пра старшыню Сойму БНФ дэпутата З. Пазьняка многія месяцы распаўсюджваліся самыя брудныя чуткі (аж да недарэчнае сувязі з фашызмам), яму затыкалі рот на ўсіх форумах, не друкавалі ягоных твораў. Але ўсё ж ягоная праўда прабіла свой шлях да народа, і той убачыў, які гэта разумны, адукаваны, а галоўнае – да ахвярнасьці самаадданы палітык, сапраўдны лідэр нацыі, якіх у нас заўжды бракавала. І ўжо на апошняй сесіі ВС сярод дэпутатаў пачулася: „Вось хто прэзыдэнт!”. І сапраўды, чым не прэзыдэнт. Але такія людзі, як З. Пазьняк, прэзыдэнтамі становяцца там, дзе ў наш час Дэкларацыю аб сувэрэнітэце прымаць ня трэба, дзе яна ўжо даўно ажыцьцёўлена” (жнівень 1990 г.).

У 1992-ім годзе ў прадмове да зборніка „Зянон Пазьняк. Сапраўднае аблічча” Быкаў піша:

„Фронт за кароткі тэрмін распрацаваў шмат якія праграмы беларускага нацыянальнага адраджэньня – у галіне эканомікі, права, культуры і іншыя. Большая частка тых праграм, на жаль, засталася малавядомай для шырокай публікі, афіцыйны друк іх адкінуў, а бальшавіцкія ўлады павялі шалёную барацьбу як зь іхняю сутнасцю, так і зь іх аўтарамі пэрсанальна. Не зважаючы на тое, Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі са сваім лідэрам народным дэпутатам Пазьняком працягвае несканчоны паядынак за праўду і справядлівасьць. Далёка не заўсёды,

калі-нікалі яна ўсё ж дамагаецца посьпеху. Прынамсі, радыё і тэлетрансьляцыі з сэсій даюць магчымасьць людзям меркаваць, на чыім баку праўда. Не глухі – чуе, не сьляпы – бачыць.”

Трэці зьезд БНФ праходзіў у траўні 1993-га ў гістарычным будынку Купалаўскага тэатру. Прывітальным словам зьезд адкрыў Васіль Быкаў: „Так, цяпер можна сказаць, што менавіта БНФ напрыканцы XX стагоддзя абудзіў нацыю, даў ёй надзею… Так ці інакш прычыніўся да стварэньня іншых дэмакратычных партыяў і плыняў, стаў у авангардзе парляманцкай і масавай барацьбы за дзяржаўнасьць і нацыянальнае адраджэньне. І калі не перамог канчаткова, дык у тым адлюстравалася не заганнасьць ягоных мэтадаў, а найбольш – грандыёзнасьць задачы. Але БНФ і не ўяўляў яе меншай, тая задача сапраўды нечувана грандыёзная, і як цяпер відаць, па сіле хіба не аднаму пакаленьню нацыянальна-сьведамых беларусаў… Няўдач і перамог яшчэ будзе нямала. Але ў нас ёсьць гарант – найперш гэта незваротная хада гісторыі, прагрэсу і чалавечнасьці. Нас павінна натхняць сьвятасьць нашае мэты, зарука дасягненьня



*69. „Дайце слова”. Зьлева Ю. Беленькі.*

якой – народная воля, выпрабаванае, узбагачанае вопытам кіраўніцтва БНФ. А таксама ягоны лідэр, які ў шматлікіх варунках барацьбы засьведчыў сваю надзвычайную вартасьць. Можна з упэўненасьцю сказаць, што нацыі пашчасьціла на яе лідэра, якім зьяўляецца пасланы нам Богам Зянон Станіслававіч Пазьняк”.

У красавіку 1994 года, напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў, я запытаўся ў Васіля Уладзімеравіча, ці згодны ён зь меркаваньнем, што сярод беларускіх палітыкаў няма лідэра, здольнага аб’яднаць грамадзтва.

„Такія лідэры ёсьць, – адказаў Быкаў, – нацыя даўно б загінула, зьнікла з твару зямлі, калі б такія людзі ў яе перавяліся. Іх канешне няшмат (іх і не патрэбна шмат), але цяпер яны зьявіліся з народных нетраў – самаахвярныя, разумныя, адукаваныя і культурныя. І сярод іх я даўно бачу стромкую, гатычную фігуру Зянона Пазьняка, які ў поўнай меры валодае ўсімі дадзенымі, неабходнымі для нешэраговага лідэра нацыі. Так ці інакш ён гатовы служыць ёй у любой ролі, нічога не патрабуючы ўзамен. Але ад народа Беларусі залежыць, каб чалавек такога гатунку заняў адпаведны ягонае сутнасьці пасад у дзяржаве. І тут уступае ў дзеяньне ня толькі фактар асобы Пазьняка, але таксама і мера палітычнае сталасьці грамадзтва. Колькі ўжо на Беларусі здаралася выпадкаў, калі самыя вартыя яе сыны не знаходзілі прызнаньня на роднай зямлі і былі ўшанаваныя на чужых, дзе тамтэйшыя народы зьведалі ім сапраўдны кшталт і надалі ім адпаведны гонар. Кажуць, палітыцы і паводзінам Пазьняка бракуе патрэбнага для сучасных палітыкаў папулізму. Але, на мой погляд, тое адбываецца з прычыны спробаў Пазьняка разбурыць традыцыйны погляд на палітыку як на амаральную, брудную справу. Сваю палітыку Пазьняк імкнецца рабіць чыстымі рукамі, цалкам маральнымі сродкамі...”

На тых выбарах Быкаў быў адным з афіцыйных давераных асобаў кандыдата ў прэзыдэнты Пазьняка. Ён адразу не прыняў перамогу антыбеларускіх, праімпэрскіх сілаў (дарэчы, пра прарасейскую, антыбеларускую сутнасьць тады яшчэ дэпутата Лукашэнкі Быкаў напісаў амаль за год да выбараў, ў жніўні 1993-га).

У цяжкія дні лета 1996-га, калі нам з Пазьняком давялося прыняць няпростае рашэньне пра палітычны прытулак, да нас у Нью-Ёрк даходзілі і лаянка лукашэнкаўскай прапаганды, і крытычныя выказваньні некаторых палітычных паплечнікаў (якія не адразу з’арыентаваліся ў сытуацыі). Аднак асабіста для мяне ўсё гэта перастала мець істотнае значэньне пасьля таго, як словы падтрымкі і разуменьня сказаў Васіль Уладзіміравіч. А крыху пазьней прыйшоў ліст з Менску.

„5 кастр.1996 г.

Мілыя нашы „выгнаньнікі” Зянон і Сяргей!

Атрымаў вашыя мала вясёлыя лісты, дзякуй вам за памяць і ўвагу. Вашае „экзыльства” тут, вядома, нарабіла шуму, але, здаецца, ужо ўсе памалу паспакайнелі, зразумеўшы, што зрабілі вы правільна. Хоць і змушана. Бо тут магчымасьці змагацца за Беларусь усё больш звужаюцца, можа там зьявяцца якія іншыя. А тут хлопцы будуць працягваць ранейшымі спосабамі, хаця, канешне, і тыя лягчэйшымі ня робяцца. Робяцца труднейшымі. Ды што рабіць? Усё тая неадэкватнасьць дэмакратычных сродкаў таталітарнаму рэжыму, які ўсё болей у нас усталёўваецца.

Разумею, як вам не соладка там, але хачу каб вы зразумелі, што людзям такога кшталту соладка ня будзе нідзе. Мусіць, каб адчуць слодыч (душэўную), трэба нарадзіцца іншымі, якімі вы не нарадзіліся. Значыць, трэба неяк адаптавацца і памятаць, што жыцьцё (і гісторыя) надта парадаксальныя, за чорнай паласой наступае сьветлая, часам – без усялякай бачнай прычыны. Паводле

Боскае волі. Праўда, на беспрычыннасьць цяжка спадзявацца, але калі іншага не выпадае... Я вельмі адчуваю вашую эўрапейскую мэнтальнасьць і разумею імкненьне ў Эўропу (чыста псіхалагічнае прыцягненьне яе), сам некалі зьведаў, жывучы ў Азіі. А калі да гэтага прымешваюцца яшчэ і прагматычныя ці палітычныя прычыны... А яшчэ – покліч Радзімы – Беларусі... Але як-небудзь. Трэ’, мусіць, запасьціся трываньнем іператрываць. Хаця, канешне, колькі трываць? А чалавечае жыцьцё такое абмежаванае ў часе. Во яна – праклятая экзыстэнцыяльная праблема.

Наконт кангрэсу ПЭН-клуба хачу паведаміць, што прайшоў ён даволі трывіяльна. Былі прамовы, неблагія выступленьні. Але ў канцы не абышлося без нечаканкі – гэта калі мы прапанавалі рэзалюцыю, якая асуджае прэзыдэнцкую дыктатуру ў Беларусі. Першы супраць яе выступіў паляк, затым швэд і латыш. Матыў адзін: Пэн не павінен умешвацца ва ўнутраныя справы краіны. Давялося перапісваць рэзалюцыю... Учора было паседжаньне Гэльсінскага к-та, вызвалілі Лявона (*Баршчэўскага –С.Н.*) ад сустаршынства ў ім. Хаця я яму перадаваў вашу, Зянон, просьбу заставацца ў Гэльсінскім, але, мусіць, яму сапраўды было цяжкавата. Усё ж ён у БНФ рупіцца... Я коратка распавёў сходу пра новыя магчымасьці, якія адкрываюцца ў сувязі з нашым прадстаўніцтвам на Захадзе ў асобе З. Пазьняка і С. Навумчыка. Здаецца, пагадзіліся.

Вось такія коратка нашыя навіны.

Вялікі дзякуй за фота, надта добра атрымалася, прыгожа пры добрай кампазіцыі. Толькі выраз твараў пэрсанажаў ня дужа вясёлы. Але што ж... Усё зразумела. Ды не гаруйце дужа, усё неяк пераменіцца. Павінна перамяніцца па волі Госпада.

Абдымаю абодвух.

Рыгор (*Барадулін – С.Н.*) таксама.

Ваш Васіль Быкаў”.

У 1998-ым (праз два гады пасьля нашай з Пазьняком вымушанай эміграцыі) на запрашэньне ПЭН-цэнтру паехаў разам з жонкай Ірынай Міхайлаўнай у Фінляндыю і Васіль Уладзімеравіч; потым яны жылі ў Нямеччыне, у Чэхіі...

Ужо з чужыны Быкаў назіраў за новай хваляй цкаваньня Пазьняка – гэтым разам ня толькі афіцыйнай прапагандай, але і лідэрамі новай „апазыцыі" ды прыхільнымі да іх „палітолагамі". Разабрацца ў перэпетыях унутранай партыйнай барацьбы Васілю Ўладзімеравічу было няпроста, асабліва ў драматычнай сытуацыі, зьвязанай з расколам Народнага Фронту. У той час да мяне даходзіла, што „нехта некаму сказаў", што Быкаў нібыта расчараваўся ў Пазьняку. Я часта размаўляў з Васілём Уладзімеравічам па тэлефоне, мы ліставаліся, і я ведаў сапраўдны кошт гэтай „інфармацыі".

Калі ў 1998 годзе ў Варшаве адбылася міжнародная канфэрэнцыя па правах чалавека з удзелам апазыцыйных лідараў, Пазьняка на яе не запрасілі. Не хацелі нават зачытваць ягонае прывітаньне. Але тагачаснае дацкае кіраўніцтва АБСЭ прымусіла арганізатараў гэта зрабіць і ўся заля ўстала і апладысмэнтамі вітала слова Пазьняка.



*70. С. Навумчык. 1996 г.*

„Я тады, канешне, даў факс у Варшаву, разам з прывітаньнем выказаў і маё абурэньне наконт незапрашэньня Зянона. Але было ўжо позна, – пісаў Васіль Уладзімеравіч ў лісьце (між іншым, у „незалежнай" прэсе тады ні слова пра абурэньне Быкава сказана не было). – Зноў жа, як я разумею, сярод беларускіх

апазыцыянераў ідзе не заўсёды прыстойная барацьба ля заходняга карыта, і ў гэтай барацьбе, як заўжды, не заўсёды перамагаюць найбольш вартыя. Часьцяком наадварот. Тут, канешне, у Зянона за акіянам шанцы не самыя лепшыя”. *(Ліст ад 6 лістапада 1998 г.)*

„Шмат якія людзі хацелі б бачыць у лідары мілага хлопца, – добрага, разумнага, усьмешлівага. І ня ўмеюць аддзяліць адно ад іншага. І пастуціцца нечым на карысьць большага, чым валодае (несумненна!) Зянон і не валодае болей ніхто”. *(Зь ліста ад 6 красавіка 1999 года.)*

У сакавіку 2000-га ў Празе я быў сьведкам, як Васіль Уладзімеравіч сказаў Пазьняку, што па-ранейшаму падтрымлівае яго.

У Беларусі, аднак, чакалі публічнага выказваньня Быкава – і яно прагучала. У траўні 2001 года ў інтэрвію карэспандэнту Радыё *„ Свабода”* Віталю Тарасу Быкаў кажа:

«Падобна, час Пазьняка яшчэ не настаў, хаця можа падацца, што ён мінуў. Гістарычным гадзіньнікам у гэтай справе ёсьць электарат. Звычайна электарат рэагуе на прымітыўныя ісціны і практычныя мэты. Нацыянальная ж ідэя для яго, электарату, апынулася празьмерна экзатычнай, малазразумелай. А галоўнае, яна запатрабавала пэўных, і немалых, ахвяраў, да якіх электарат, калі не сказаць нацыя, не былі падрыхтаваныя – не зважаючы на тое, што да тых ахвяраў быў гатовы Зянон Пазьняк. І гэта давала надзею. Ня кожная нацыя мае такіх лідэраў, хоць, як вядома, лёс іх заўсёды трагічны. Што ж да Беларусі, дык увесь яе лёс трагічны, і ў гэтым мне бачыцца пэўная адэкватнасць лёсаў краіны і Зянона Пазьняка». *(Травень 2001 г.)*

„У час актыўнага змаганьня за Незалежнасьць і справядлівасьць Васіль Уладзімеравіч быў для мяне тым

найпершым чалавекам, на якога можна было абаперціся, калі акружала і кусала цябе воўчая зграя", – сказаў Пазьняк у дзень сьмерці Быкава.



*71. Васіль Быкаў.*

## МАРАЛЬНЫ АЎТАРЫТЭТ

Усе мы ў парляманцкай Апазыцыі БНФ набывалі палітычны вопыт не на сэмінарах ці лекцыях, а ў жорсткай барацьбе з камуністычнай намэнклятурай, якая мела ў сваім арсэнале розныя мэтады і палітычнага, і псіхалагічнага ціску. Акрамя „сваіх" апанэнтаў, быў яшчэ (і застаецца па сёньня) апарат маскоўскай імпэрыі, са сваімі старажытнымі традыцыямі візантыйства і найноўшымі сродкамі спэцслужбаў.

У падобных умовах вельмі важна мець маральны арыентыр. І ён у нас быў – ***Васіль Быкаў***. Ва ўсякім разе, асабіста я ў няпростых сытуацыях выбару пытаўся сябе: „А што скажа на гэта Васіль Уладзімеравіч?”.

У цяжкія дні лета 1996-га, калі нам з Пазьняком давялося прыняць няпростае рашэньне пра палітычны прытулак, да нас у Нью-Ёрк даходзілі і лаянка лукашэнкаўскай прапаганды, і крытычныя выказваньні некаторых палітычных паплечнікаў (якія не адразу зарыентаваліся ў сытуацыі). Аднак асабіста для мяне ўсё гэта перастала мець істотнае значэньне пасьля таго, як словы падтрымкі і разуменьня сказаў Васіль Уладзіміравіч.

Адаўшы шмат сілаў ідэі Незалежнасьці, Васіль Уладзімеравіч Быкаў увайшоў у гісторыю Беларусі як адзін з найвялікшых яе сыноў за ўсе часы існаваньня нацыі. Слова Быкава, ягоная пазыцыя, ягоная вытрымка і непахіснасьць і сёньня застаюцца духоўнай і маральнай падтрымкай усім тым, хто змагаецца за Бацькаўшчыну.

*17 студзеня 2010 г.*

***Сяргей НАВУМЧЫК***



*72. Сьцяжок.*

# АБ'ЯЎЛЕНЬНЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

## (ПАДСУМОЎКА. ЗАМЕСТ РЭЗЮМЭ)

Вяршыняй палітыкі *Беларускага Народнага Фронту* было аб'яўленьне *Незалежнасьці Беларусі 25 жніўня 1991 г*. Гэта была вялікая падзея ХХ стагоддзя ў жыцьці нацыі. Першае аб'яўленьне незалежнасьці *Беларускай Народнай Рэспублікі* адбылося *25 Сакавіка 1918 года*, але ўжо ў сьнежні гэтага ж году краіна была стлумлена расейскай бальшавіцкай акупацыяй, якая працягвалася 73 гады.

Барацьба за незалежнасьць супала са змаганьнем супраць камунізму і КПСС. Гэтая акалічнасьць дапамагала сабраць значныя сілы і падтрымку людзей, хоць у цэлым беларускае савецкае грамадзтва і савецкія эліты былі слаба падрыхтаваныя да незалежнай палітыкі. Пакаленьні людзей былі выхаваныя ў сфэры савецкай прапаганды і зрусіфікаванай, скамунізаванай школы.

Беларуская нацыянальная інтэлігенцыя і нацыянальная адміністрацыя былі фізічна вынішчаны рускімі камуністамі за часы сталінскага генацыду і пасьлядоўна тлуміліся ў пасьлясталінскія часы. Акупанты ўжо ў 60-х гадах мінулага стагоддзя зачынілі ў Менску ўсе беларускія школы. Адбывалася татальнае вынішчэньне нацыянальнай культуры і яе лепшых прадстаўнікоў.

У гэтакіх умовах пачыналася змаганьне з камунізмам і акупацыяй. Узначаліў гэтую барацьбу *Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”,* створаны ў 1988 годзе. Рашаючае значэньне меў прарыў праз выбарчыя рагаткі ў парлямант невялікай часткі фронтаўцаў на выбарах 1990 года. Адразу ж на пачатку дзейнасьці таго савецкага парляманту, дзе было амаль 90 адсоткаў камуністаў, дэпутаты-фронтаўцы стварылі парляманцкую *Апазыцыю БНФ* і прапанавалі праект Дэклярацыі аб незалежнасьці. Дэклярацыя была завалена камуністамі. Але праз некалькі месяцаў фракцыя БНФ удала скарыстала маніпуляцыю Гарбачова з суверэнітэтам рэспублікаў СССР (калі Гарбачоў рыхтаваў новы саюзны дагавор) і, ужываючы бліскучую парляманцкую тактыку, дамаглася прыняцьця Дэклярацыі аб суверэнітэце Беларусі, тэкст якой таксама амаль цалкам падрыхтавалі дэпутаты-фронтаўцы.

У жніўні 1991 года, пасьля правалу маскоўскага камуністычнага путчу, гэтая Дэклярацыя была скарыстаная Апазыцыяй БНФ для канстытуцыйнага афармленьня незалежнасьці.

Выкарыстаўшы страх і разгубленасьць камуністаў пасьля правалу путчу, дэпутаты-фронтаўцы, якіх было толькі восем адсоткаў у парляманце, зноў дастасавалі бліскучую тактыку і прымусілі камуністычны парлямант зьмяніць старшыню парляманта (камуніста Дземянцея), спыніць дзейнасьць камуністычнай партыі Савецкага Саюза і камсамола на Беларусі і галоўнае – прагаласаваць за незалежнасьць краіны ад СССР. Гэта быў трыюмф дэпутатаў Народнага Фронту. Тысячы людзей стаялі на плошчы пад вокнамі Вярхоўнага Савета і падтрымлівалі незалежнасьць.

Такім чынам незалежнасьць Беларусі ў канцы XX стагоддзя, дзякуючы рашучым і беспамылковым дзеяньням, адваяваў і

вярнуў нешматлікі беларускі палітычны авангард – дэпутацкая Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту, якая абапіралася на падтрымку структураў БНФ і перадавую, сьведамую частку беларускага грамадзтва.

Далейшае нацыянальнае дзяржаўнае будаўніцтва адбывалася зь вялікімі цяжкасьцямі, бо засталася старая камуністычная ўлада, якая цягнула назад, у СССР; і другое: беларускае грамадзтва ў цэлым не сасьпела яшчэ да разуменьня каштоўнасьці свабоды і незалежнасьці і да разуменьня задачаў нацыянальнага дзяржаўнага будаўніцтва.

Авангард павіс у заваяванай ім крэпасьці і без падтрымкі высільваўся, каб яе ўтрымаць. Асноўная маса людзей пасіўна была на баку Фронта і спакойна назірала, што адбываецца.

Пералом настаў у кастрычніку 1992 года, калі кіруючая былая камуністычная намэнклятура незаконным чынам спыніла правядзеньне рэфэрэндуму аб зьмене ўлады і магчымасьці новых выбараў.

Працэсы, якія адбываліся пасьля 1992 года, – гэта ўзмацненьне прысутнасьці і ўплыву КГБ ва ўсіх сфэрах улады ў Беларусі і амаль непрыкрытая інфільтрацыя расейскіх спэцслужбаў у дзяржаўнае і грамадзкае жыцьцё краіны. Гэтыя спэцслужбы і КГБ падрыхтавалі прыход Лукашэнкі да ўлады і стварэньне цяперашняга прамаскоўскага антыбеларускага рэжыму, які характарызуецца адметнымі рысамі рэжыму ўнутранай акупацыі.

* * *

Вяртаючыся да тых гадоў беларускай нацыянальнай рэвалюцыі ці Беларускага Адраджэньня (1988–1995 гг.), мушу адзначыць факт сапраўднай міжнароднай салідарнасьці ў тыя

часы, найперш паміж Беларусяй, Украінай, Польшчай і Летувой. Гэта значыць паміж краінамі Ўсходняй Эўропы і Польшчай, фактычна, паміж краінамі Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

Гэты факт далёка не выпадковы і вельмі сымптаматычны, бо відавочна, што Ўсходняя Эўропа – гэта была і ёсьць цалкам асобная культурная, эканамічная і геапалітычная тэрыторыя.

Ідэя Беларускага Народнага Фронту пра Балта-Чарнаморскую супольнасьць бянтэжыла і Маскву, і Захад. Пазьней з ініцыятывы Польшчы гэтая ідэя перарасла ў канцэпцыю Міжмор’я, куды ўлучалася і Цэнтральная Эўропа.

Пасьля ўступленьня Польшчы ў Эўразьвяз гэтая канцэпцыя фармальна стала часова неактуальнай. Але яна нікуды ня зьнікла, бо адпавядае глыбіннай сутнасьці дачыненьняў і падзелаў на эўрапейскім кантыненце. Далейшыя чакаемыя перамены на Ўсходзе і на Захадзе (развал Эўразьвязу) ужо ў бліжэйшай будучыні ***ажывяць натуральныя працэсы ўсходнеэўрапейскай салідарнасьці, якія дэкляруюць больш дасканалае і натуральнае грамадзтва, чым тое, якое цяпер прапагандуе Захад і прапануецца ў Эўразьвязе.*** Усходняя Эўропа патрабуе больш дастасаванага і жыцьцёвага грамадзтва, таксама – рэальнага суверэнітэту і рэальнай свабоды грамадзянаў ва ўласнай краіне.

*25 траўня 2007 г., Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: ( „Беларускія Ведамасьці”, – 2007, №2 (61);„Беларус”, 2007, № 538, лістапад).*

# ДЭПУТАТЫ АПАЗЫЦЫІ БНФ У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ XII СКЛІКАНЬНЯ (1990 – 9.01.1996)

Здымкі дэпутатаў
зробленыя вясной 1990 года.
Рэпрадукцыі з даведніка
„НАРОДНЫЯ ДЭПУТАТЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.
ДВАНАЦЦАТАЕ СКЛІКАННЕ.” –
МІНСК ,»БЕЛАРУСЬ», 1992



## АКСАМІТ МІКАЛАЙ УЛАДЗІМЕРАВІЧ

Нарадзіўся 18 траўня 1954 года. Скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Абраны дэпутатам ВС ад Ваўкавыскай гарадзкой выбарчай акругі 248 Горадзенскай вобласьці.

Сябра Камісіі ВС па адукацыі, культуры і захаваньню гістарычнай спадчыны.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г. , на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар шэрагу законапраектаў, падрыхтаваных Апазыцыяй БНФ.

Удзельнік галадоўкі 11-12 красавіка 1995 г. у Авальнай залі, абвешчанай ў знак пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам т. зв. „рэфэрэндуму” аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымвалаў Гэрбу „Пагоня” і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.



## АЛАМПІЕЎ ВІКТАР ПЯТРОВІЧ

Нарадзіўся 15 красавіка 1947 года. Скончыў Горадзенскі пэдагагічны інстытут і Беларускі інстытут народнай гаспадаркі. Абраны дэпутатам ВС ад Пінскай-Паўночнай акругі 132 Берасьцейскай вобласьці.

Намесьнік старшыні Камісіі ВС па эканамічнай рэформе, дасягненьню эканамічнай самастойнасьці і суверэнітэту рэспублікі.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі

Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар шэрагу законапраектаў, падрыхтаваных Апазыцыяй БНФ.

12 красавіка 1995 г. далучыўся да галадоўкі дэпутатаў Апазыцыі БНФ.



## АНТОНЧЫК СЯРГЕЙ АНТОНАВІЧ

Нарадзіўся 1 красавіка 1956 года. Абраны дэпутатам ВС ад Ясенінскай акругі нумар 17 г. Менска.

Сябра Мандатнай Камісіі ВС. Член Камісіі ВС па пытаньнях працы, цэн, занятасьці і сацыяльнай абароненасьці насельніцтва. Член Часовай камісіі ВС па прывілеях.

Сябра Ценевага Кабінету (ураду) Апазыцыі БНФ, ўзначальваў у ім Камітэт па барацьбе з карупцыяй, адзін з кіраўнікоў Міністэрства працы, сацыяльнага забесьпячэньня і кантролю за прыватызацыяй.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г. , на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар шэрагу законапраектаў, падрыхтаваных Апазыцыяй БНФ.

Адзін з лідэраў рабочага руху і кіраўнікоў страйкаму пад час масавых выступаў рабочых у красавіку 1990 г. У дні страйку Менскага мэтрапалітэну (жнівень 1995 года) быў гвалтоўна затрыманы спэцслужбамі і тры дні ўтрымліваўся ў ізаляцыі ў адной з частак МУС.

Аўтар дакладу аб карупцыі ва ўрадзе Лукашэнкі-Чыгіра (сьнежань 1994 г.); нягледзячы на рашэньне Вярхоўнага Савета, цэнтральным газэтам было забаронена друкаваць тэкст дакладу і яны выйшлі з „белымі плямамі”.

Удзельнік галадоўкі 11-12 красавіка 1995 г. у Авальнай залі, абвешчанай ў знак пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам т. зв. „рэфэрэндуму” аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымвалаў Гэрбу „Пагоня” і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.



## БАРШЧЭЎСКІ ЛЯВОН ПЯТРОВІЧ

Нарадзіўся 4 сакавіка 1958 году. Скончыў Менскі пэдагагічны інстытут замежных моў. Кандыдат філалагічных навук. Абраны дэпутатам ВС ад Наваполацкай-Маладзёжнай выбарчай акругі 174.

Намесьнік старшыні Камісіі ВС па адукацыі, культуры і захаваньню гістарычнай спадчыны, сябра Камісіі ВС па міжнародных справах і зьнешнеэканамічных сувязях.

Каардынатар Апазыцыі БНФ. Сябра Ценевага Кабінету (ураду) Апазыцыі БНФ, ўзначальваў у ім Міністэрства адукацыі.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі

Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г. , на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Кіраўнік групы па распрацоўцы законапраектаў „Аб грамадзянстве” (1990), „Аб рэфэрэндуме” (1991), „Аб адукацыі” (1992), сааўтар шэрагу іншых законапраектаў.

Удзельнік галадоўкі 11-12 красавіка 1995 г. у Авальнай залі, абвешчанай ў знак пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам т. зв. „рэфэрэндуму” аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымвалаў Гэрбу „Пагоня” і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.



## БЕЛЕНЬКІ ЮРЫ АДАМАВІЧ

Нарадзіўся  ў 1960 г. Скончыў Беларускі інстытут народнай гаспадаркі. Абраны дэпутатам ВС ад Куйбышаўскай  выбарчай акругі 36 г. Менска.

Сябра Планавай і бюджэтна-фінансавай Камісіі ВС.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г. , на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

У Апазыцыі БНФ адказваў за пытаньні банкаўскай і фінансавай сфэры. Сябра

Ценевага Кабінету (ураду) Апазыцыі БНФ (адказны за Міністэрства фінансаў).

Сааўтар Канцэпцыі пераходу Беларускай ССР на рыначную эканоміку (восень 1990 г), Канцэпцыі эканамічнай рэформы ў Рэспубліцы Беларусь (вясна1992 г), Асноўных накірункаў рэформаў для выхаду з крызысу -- перадвыбарчая эканамічная плятформа БНФ "Адраджэньне" (вясна-1995), закону "Аб банках і банкаўскай дзейнасьці", іншых законапраектаў.

Удзельнік галадоўкі11-12 красавіка 1995 г. у Авальнай залі, абвешчанай ў знак пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам т. зв. "рэфэрэндуму" аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымвалаў Гэрбу "Пагоня" і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.



## ГАЛУБОВІЧ ВОЛЬГА МІКАЛАЕЎНА

Нарадзілася 20 чэрвеня 1956 года. Скончыла Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Абраная дэпутатам ВС ад Трактаразаводзкай акругі 24 г. Менску.

Намесьнік старшыні Камісіі ВС па справах жанчын, аховы сям'і , мацярынства і дзяцінства. Сябра Часовай камісіі ВС па ацэнцы дзеяньняў членаў ГКЧП і падтрымаўшых іх грамадзка-палітычных ўтварэньняў, органаў дзяржаўнай улады і кіраваньня, службовых асобаў і грамадзянаў (1991 г.).

Удзельнічала ў распрацоўцы і прыняцьці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце

Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар Канцэпцыі пераходу Беларускай ССР на рыначную эканоміку (восень 1990 г), шэрагу законапраектаў.



## ГЕРМЯНЧУК ІГАР ІВАНАВІЧ

Нарадзіўся 1 студзеня 1961 – памёр 29 красавіка 2002 г.

Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Абраны дэпутатам ВС ад Бараўлянскай выбарчай акругі 71 Менскай вобласьці.

Сябра Камісіі ВС па пытаньнях галоснасьці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г. , на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар Канцэпцыі пераходу Беларускай ССР на рынычную эканоміку (восень 1990 г), праекту Пастановы

ВС Аб дэманапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі (кастрычік 1992 ).

Ад 1990 г. – рэдактар газэты “Свабода”, аднаго з найбольш папулярных выданьняў пэрыяду Адраджэньня пачатку 1990-ых; наклад газэты, якая выходзіла на тарашкевіцы, дасягаў 100 тыс. асобнікаў. За антылукашэнкаўскія публікацыі пракуратура чатыры разы заводзіла на яго крымінальныя справы, аднак Вярхоўны Савет адмаўляўся здымаць зь яго дэпутацкую недатыкальнасьць. Заснавальнік і рэдактар часопісу “Кур’ер”.

Удзельнік галадоўкі11-12 красавіка 1995 г. у Авальнай залі, абвешчанай ў знак пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам т. зв. “рэфэрэндуму” аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымвалаў Гэрбу “Пагоня” і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.



## ГОЛУБЕЎ ВАЛЯНЦІН ФЁДАРАВІЧ

Нарадзіўся 21 чэрвеня 1955 года. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт, Кандыдат гістарычных навук. Абраны дэпутатам ВС ад Алібегаўскай акругі 15 г. Менска.

Сакратар Камісіі ВС па міжнародных справах і зьнешнеэканамічных сувязях. Сябра

Канстытуцыйнай Камісіі.

Каардынатар Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Сябра Ценевага Кабінету (ураду) Апазыцыі БНФ, ўзначальваў у ім Міністэрства замежных спраў.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету

24-25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар Канцэпцыі пераходу Беларускай ССР на рыначную эканоміку (восень 1990 г), шэрагу законапраектаў. Удзельнічаў у распрацоўцы міждзяржаўных пагадненьняў.

Удзельнік галадоўкі 11-12 красавіка 1995 г. у Авальнай залі, абвешчанай ў знак пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам т. зв. „рэфэрэндуму" аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымвалаў Гэрбу „Пагоня" і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.



## ГРУШАВЫ ГЕНАДЗЬ УЛАДЗІМЕРАВІЧ

Нарадзіўся 24 ліпеня 1950 г. Скончыў Беларускі Дзяржаўны ўнівэрсытэт. Кандыдат філасофскіх навук. Адзін з арганізатараў першага „Чарнобыльскага шляху” (30 верасьня 1989 г.), каардынаваў працу Першай асамблеі чарнобыльскіх народаў (лістапад 1989 г). Старшыня праўленьня Беларускага дабрачыннага фонду „Дзецям Чарнобыля”. Абраны дэпутатам ВС ад Матусевіцкай акругі 41 г.Менска.

Сябра Камісіі ВС па праблемах Чарнобыльскай катастрофы. Член Канстытуцыйнай Камісіі.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.



# ГЮНТЭР БАРЫС ДАВІДАВІЧ

Нарадзіўся 2 верасьня 1943 года. Абраны дэпутатам ВС ад Гомельскай-Сельмашаўскай акругі 190 Гомельскай вобласьці.

Сакратар Камісіі ВС па пытаньнях працы, цэнаў, занятасьці і сацыяльнай абароны насельніцтва. Сябра Часовай камісіі ВС па ацэнцы дзейнасьці службовых і іншых адказных асобаў ў сувязі зь ліквідацыяй наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Сябра Ценевага Кабінету (ураду) Апазыцыі БНФ.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар шэрагу законапраектаў, у тым ліку і па праблемах Чарнобыля. Удзельнік дэлегацыі Апазыцыі БНФ, накіраванай ў Летуву пад час увядзеньня савецкіх войск ў студзені 1991 г.

Удзельнік галадоўкі 11-12 красавіка 1995 г. у Авальнай залі, абвешчанай ў знак пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам т. зв. „рэфэрэндуму" аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымвалаў Гэрбу „Пагоня" і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.



# ДЗЕЙКА ЛЕАНІД ІВАНАВІЧ

Нарадзіўся 2 лютага 1950 года. Скончыў Менскі радыётэхнічны інстытут. Абраны дэпутатам ВС ад Клецкай акругі 62 Менскай вобласьці.

Сябра Камісіі ВС па адукацыі, культуры і захаваньню гістарычнай спадчыны, сябраКамісіі ВС па пытаньнях працы, цэнаў, занятасьці і сацыяльнай абароны насельніцтва. Сябра Часовай камісіі ВС па ацэнцы дзеяньняў членаў ГКЧП і падтрымаўшых іх грамадзкапалітычных ўтварэньняў, органаў дзяржаўнай улады і кіраваньня, службовых асобаў і грамадзянаў (1991 г.). Сябра Канстытуцыйнай Камісіі.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету

24-25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар шэрагу законапраектаў.

Удзельнік галадоўкі 11-12 красавіка 1995 г. у Авальнай залі, абвешчанай ў знак пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам т. зв. „рэфэрэндуму" аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымвалаў Гэрбу „Пагоня" і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.



## ЗАБЛОЦКІ УЛАДЗІМЕР МІКАЛАЕВІЧ

Нарадзіўся 17 сьнежня 1939 года. Скончыў Маскоўскі энэргетычны інстытут. Кандыдат тэхнічных навук. Абраны дэпутатам ВС ад Някрасаўскай акругі 35 г. Менска.

Намесьнік старшыні Камісіі ВС па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе, сябра Камісіі ВС па пытаньнях разьвіцьця прамысловасьці, энэргетыкі, транспарту, сувязі і інфарматыкі. Член Канстытуцыйнай Камісіі. Старшыня Часовай камісіі ВС па рассьледваньні фактаў выкарыстаньня псіхіятрыі ў палітычных і рэпрэсіўных мэтах.

Намесьнік старшыні Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце.

Прэм’ер-міністар Ценевага Кабінету (ураду) Апазыцыі БНФ.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар Канцэпцыі пераходу Беларускай ССР на рыначную эканоміку (восень 1990 г), Канцэпцыі эканамічнай рэформы ў Рэспубліцы Беларусь (вясна1992 г), Асноўных накірункаў рэформаў для выхаду з крызысу – перадвыбарчая эканамічная плятформа БНФ „Адраджэньне” (вясна-1995), шэрагу законапраектаў.

Удзельнік галадоўкі 11-12 красавіка 1995 г. у Авальнай залі, абвешчанай ў знак пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам т. зв. „рэфэрэндуму” аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымвалаў Гэрбу „Пагоня” і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.



## ЗДАНЕВІЧ ЛЯВОНЦІ УЛЬЯНАВІЧ

Нарадзіўся 10 чэрвеня 1955 года. Скончыў Берасьцейскі інжынерна-будаўнічы інстытут. Абраны дэпутатам ВС ад Машэраўскай акругі 39 горада Менска.

Сябра Камісіі ВС па пытаньнях архітэктуры, будаўніцтва, вытворчасьці будаўнічых матэрыялаў і жыльлёва-камунальнай гаспадаркі сяла і горада, член Камісіі ВС па адукацыі, культуры і захаваньню гістарычнай спадчыны. Сябра Часовай камісіі ВС па ацэнцы дзейнасьці службовых і іншых адказных асобаў у сувязі зь ліквідацыяй наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Сябра Канстытуцыйнай Камісіі.

Сябра Ценевага кабінету (ураду) Апазыцыі БНФ.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар Канцэпцыі пераходу Беларускай ССР на рынасную эканоміку (восень 1990 г), Канцэпцыі эканамічнай рэформы ў Рэспубліцы Беларусь (вясна 1992 г), Асноўных накірункаў рэформаў для выхаду з крызісу – перадвыбарчая эканамічная платформа БНФ „Адраджэньне" (вясна-1995). Адказны за распрацоўку шэрагу законапраектаў аб зямлі (Зямельны Кодэкс і інш.), якя прадугледжвалі перадачу зямлі ва ўласнасьць грамадзянам (кастрычнік 1990 г.), сааўтар іншых законапраектаў.

Удзельнік галадоўкі 11-12 красавіка 1995 г. у Авальнай залі, абвешчанай ў знак пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам т. зв. „рэфэрэндуму" аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымвалаў Гэрбу „Пагоня" і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.



## КАКОЎКА ВІКТАР ФЁДАРАВІЧ

Нарадзіўся 15 студзеня 1949 года. Скончыў Ленінградзкі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Абраны дэпутатам ВС ад Наваполацкай-Індустрыяльнай акругі 176.

Сябра Камісіі ВС па пытаньнях разьвіцьця прамысловасьці, энэргетыкі, транспарту, сувязі і інфарматыкі. Сябра Камісіі па пытаньнях дэпутацкай этыкі.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.



## КРЫЖАНОЎСКІ МІКАЛАЙ КІРЫЛАВІЧ

Нарадзіўся 1 сакавіка 1937 года. Скончыў Паўночна-Заходні палітэхнічны інстытут у горадзе Ленінградзе. Абраны дэпутатам ВС ад Жодзінскай-Аўтазаводзкай акругі 86 Менскай вобласьці.

Сябра Камісіі ВС па пытаньнях разьвіцьця прамысловасьці, энэргетыкі, транспарту, сувязі і інфарматыкі. Сябра Часовай камісіі ВС па прывілеях. Сябра Канстытуцыйнай Камісіі.

Сябра Ценевага Кабінету (ураду) Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, уваходзіў у камітэт па барацьбе з карупцыяй.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету

24-25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар Канцэпцыі пераходу Беларускай ССР на рыначную эканоміку (восень 1990 г), Асноўных накірункаў рэформаў для выхаду з крызысу – перадвыбарчая эканамічная плятформа БНФ „Адраджэньне" (вясна-1995), сааўтар шэрагу законапраектаў.

Удзельнік галадоўкі 11-12 красавіка 1995 г. у Авальнай залі, абвешчанай ў знак пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам т. зв. „рэфэрэндуму" аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымвалаў Гэрбу „Пагоня" і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.



## МАЛАШКА ВІТАЛЬ АЛЯКСЕЕВІЧ

Нарадзіўся ў 1958 годзе. Скончыў Менскі радыётэхнічны інстытут. Абраны дэпутатам ВС ад Першамайскай акругі 30 г. Менска.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар Канцэпцыі пераходу Беларускай ССР на рыначную эканоміку (восень 1990 г), шэрагу законапраектаў.

Удзельнік галадоўкі 11-12 красавіка 1995 г. у Авальнай залі, абвешчанай ў знак пра-

тэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам т. зв. „рэфэрэндуму" аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымвалаў Гэрбу „Пагоня" і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.



## МАРКЕВІЧ МІКАЛАЙ МІКАЛАЕВІЧ

Нарадзіўся 29 чэрвеня 1962 года. Скончыў Калінінградзкі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Абраны дэпутатам ВС ад Горадзенскай-Прынёманскай акругі 241.

Сябра Камісіі ВС па пытаньнях галоснасьці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар шэрагу законапраектаў, у тым ліку – у галіне сродкаў масавай інфармацыі.

Быў рэдактарам незалежнай газэты „Пагоня".

Удзельнік галадоўкі 11-12 красавіка 1995 г. у Авальнай залі, абвешчанай ў знак пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам т. зв. „рэфэрэндуму" аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымвалаў Гэрбу „Пагоня" і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.



## НАВУМЧЫК СЯРГЕЙ ІОСІФАВІЧ

Нарадзіўся 15 сьнежня 1961 г. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Узначальваў ініцыятыўную групу супраць будаўніцтва АЭС у Віцебскай вобласьці (1988г. ). Абраны дэпутатам ВС ад Віцебскай-Чыгуначнай акругі 181.

Сябра Камісіі ВС па пытаньнях галоснасьці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, Часовай Камісіі ВС па ацэнцы дзейнасьці службовых і іншых адказных асобаў у сувязі зь ліквідацыяй наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Сябра Канстытуцыйнай Камісіі ВС.

Каардынатар Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Сябра Ценевага Кабінету (ураду) Апазыцыі БНФ, ўзначальваў у ім Міністэрства інфармацыі.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар Канцэпцыі пераходу Беларускай ССР на рыначную эканоміку (восень 1990 г), аўтар Канцэпцыі інфармацыйнай палітыкі Рэспублікі Беларусь (верасень 1991 г,), сааўтар праекту Пастановы ВС Аб дэманапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі (кастрычік 1992 ), іншых законапраектаў.

Удзельнік галадоўкі 11-12 красавіка 1995 г. у Авальнай залі, абвешчанай ў знак пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам т. зв. „рэфэрэндуму" аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымвалаў Гэрбу „Пагоня" і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.

13-14 красавіка 1995 г. прадстаўляў у Канстытуцыйным Судзе пазыцыю групы дэпутатаў ВС у справе манапалізацыі прэзыдэнтам СМІ.



## ПАЗЬНЯК ЗЯНОН СТАНІСЛАВАВІЧ

Нарадзіўся 24 красавіка 1944 г. Скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Кандыдат мастацтвазнаўства. Першаадкрывальнік Курапатаў – месца масавых бальшавіцкіх расстрэлаў у 1937-1941 гг. Ініцыятар сходу ў Чырвоным Касьцёле 19 кастрычніка 1988 г., на якім быў утвораны Аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”, старшыня БНФ ад першага ўстаноўчага зьезду (1989). Старшыня таварыства „Мартыралёг Беларусі”. Абраны дэпутатам ВС ад Ангарскай акругі 9 г. Менска.

Сябра Камісіі ВС па праблемах Чарнобыльскай катастрофы, Камісіі ВС па заканадаўству, Камісіі пры ВС па спрыяньню ў забесьпячэньні правоў і інтарэсаў рэабілітаваных і іх сем’яў, увекавечваньні памяці ахвяраў рэпрэсіяў, якія

мелі месца ў пэрыяд 1930-40 гг.і ў пачатку 1950 гг. Сябра Канстытуцыйнай Камісіі ВС.

Старшыня Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Кіраўнік Ценевага Кабінету (ураду) Апазыцыі БНФ (прэм'ер-міністар – Уладзімер Заблоцкі).

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар Канцэпцыі пераходу Беларускай ССР на рыначную эканоміку (восень 1990 г.), Канцэпцыі эканамічнай рэформы ў Рэспубліцы Беларусь (вясна 992 г), Асноўных накірункаў рэформаў для выхаду з крызысу – перадвыбарчая эканамічная плятформа БНФ „Адраджэньне" ( вясна-1995), шэрагу законапраектаў.

Кандыдат на пасаду Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь на выбарах 1994 г. (вылучаны Беларускім Народнымі Фронтам).

Удзельнік галадоўкі 11-12 красавіка 1995 г. у Авальнай залі, абвешчанай ў знак пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам т. зв. „рэфэрэндуму" аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымвалаў Гэрбу „Пагоня" і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.



## ПАПКОЎ СЯРГЕЙ ПЯТРОВІЧ

Нарадзіўся 13 лютага 1940, Скончыў фізіка-тэхнічны факультэт (спэцыялізацыя – ракетная і вылічальная тэхніка) Днепрапятроўскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Абраны дэпутатам ВС ад Кастрычніцкай выбарчай акругі 21 г. Менска.

Сябра Камісіі ВС па эканамічнай рэформе, дасягненьню эканамічнай самастойнасьці і суверэнітэту рэспублікі.

Сябра Ценевага Кабінету (ураду) Апазыцыі БНФ.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г. , на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар Канцэпцыі пераходу Беларускай ССР на рыначную эканоміку (восень 1990 г), Канцэпцыі эканамічнай рэформы ў Рэспубліцы Беларусь (вясна 1992 г), Асноўных накірункаў рэформаў для выхаду з крызісу – перадвыбарчая эканамічная платформа БНФ „Адраджэньне" (вясна-1995), шэрагу законапраектаў у галіне эканомікі і прыватызацыі.

Удзельнік галадоўкі 11-12 красавіка 1995 г. у Авальнай залі, абвешчанай ў знак пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам т. зв. „рэфэрэндуму" аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымвалаў Гэрбу „Пагоня" і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.



## ПЫРХ ІГАР ІВАНАВІЧ

Нарадзіўся 16 траўня 1948 года, памёр 23 сакавіка 1999 года. Скончыў Менскую Вышэйшую школу міністэрства ўнутраных спраў. Палкоўнік міліцыі. Абраны дэпутатам ВС ад Гомельскай-Пушкінскай акругі 197.

Сябра Камісіі ВС па пытаньнях экалёгіі і рацыянальнага выкарыстаньня прыродных рэсурсаў. Член Часовай камісіі ВС па ацэнцы дзейнасьці службовых і іншых адказных асобаў у сувязі зь ліквідацыяй наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Старшыня Часовай камісіі ВС па ацэнцы дзеяньняў змоўшчыкаў ГКЧП і падтрымаўшых іх грамадзка-палітычных ўтварэньняў, органаў дзяржаўнай улады і кіраваньня, службовых асобаў і грамадзянаў. Ство-

раная на нечарговай пятай сэсіі ВС у жніўні 1991 г., камісія пад ягоным кіраўніцтвам выявіла маштабную падтрымку маскоўскага путчу з боку камуністычных функцыянераў і дзяржаўных чыноўнікаў у Беларусі. Іхняй мэтай была рэстаўрацыя камуністычнай імпэрыі і замацаваньне таталітарнай сістэмы.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г. , на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар шэрагу законапраектаў, у тым ліку – Аб міліцыі і ворганах правапарадку.

Выказаў салідарнасьць і падтрымку галадоўцы дэпутатаў 11-12 красавіка 1995 года, але ня змог далучыцца з-за хваробы.



## САДОЎСКІ ПЁТРА ВІКЕНЦЬЕВІЧ

Нарадзіўся 2 лютага 1941 года. Скончыў Менскі пэдагагічны інстытут замежных моў. Кандыдат філалагічных навук. Абраны дэпутатам ВС ад Адзінцоўскай акругі 46 г. Менска.

Сябра Прэзыдыюму Вярхоўнага Савета (1990-1992), Старшыня Камісіі ВС па міжнародных справах і зьнешнеэканамічных сувязях (1990-1992), сябра гэтай камісіі (1995-1996). Сябра Мандатнай Камісіі ВС, сябра Канстытуцыйнай Камісіі.

Першы амбасадар Беларусі ў Нямеччыне (1992-1994).

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету

24-25 жніўня 1991 г. , на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар Канцэпцыі пераходу Беларускай ССР на рыначную эканоміку (восень 1990 г), шэрагу законапраектаў ў сфэры міжнародных адносінаў і зьнешнеэканамічных сувязяў.

Удзельнік галадоўкі 11-12 красавіка 1995 г. у Авальнай залі, абвешчанай ў знак пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам т. зв. „рэфэрэндуму” аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымвалаў Гэрбу „Пагоня” і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.



## СЛАБЧАНКА СЯРГЕЙ ІВАНАВІЧ

Нарадзіўся 24 кастрычніка 1957 года. Скончыў Гомельскі дзяржаўны ўнівэрсытэт, Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Абраны дэпутатам ВС ад Баранавіцкай Кастрычніцкай акругі 111.

Сябра Камісіі ВС па заканадаўству, сябра Камісіі ВС па ахове здароўя, фізічнай культуры і сацыяльнаму забесьпячэньню.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г. , на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар Канцэпцыі пераходу Беларускай ССР на рыначную эканоміку (восень 1990 г), шэрагу законапраектаў.

Займаючы па рэкамендацыі Апазыцыі БНФ пасаду Начальніка Галоўнага Упраўленьня па вырабу дзяржаўных знакаў пры Савеце Міністраў (Дзяржзнака Рэспублікі Беларусь), быў арганізатарам вырабу першых беларускіх грошай.



## СЯМДЗЯНАВА ГАЛІНА ГЕОРГІЕЎНА

Нарадзілася 28 лютага 1947 года. Скончыла Куйбышаўскі палітэхнічны інстытут. Абраная дэпутатам ВС ад Наваградзкай гарадзкой акругі 262.

Сябра Камісіі ВС па пытаньнях экалёгіі і рацыянальнага выкарыстаньня прыродных рэсурсаў. Сябра Камісіі ВС па таварах народнага спажываньня, гандлю і паслугах насельніцтву. Сябра Часовай камісіі ВС па прывілеях.

Удзельнічала у распрацоўцы і прыняцьці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г., на якой была аднаўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар Канцэпцыі пераходу Беларускай ССР на рыначную эканоміку (восень 1990 г), шэрагу законапраектаў Апазыцыі БНФ. Аўтар заканадаўчых прапаноў, накіраваных на стварэньне беларускага войска. Узначальвала камітэт Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў „Вяртаньне”, якое пасьля распаду СССР вярнула ў Беларусь, у тым ліку і з зоны ўзброеных канфліктаў, больш як чатыры тысячы вайскоўцаў.

У час галадоўкі дэпутатаў у Авальнай залі 11-12 красавіка 1995 г. наладжвала сувязь паміж пратэстуючымі дэпутатамі і Вярхоўным Саветам.



## ТРУСАЎ АЛЕГ АНАТОЛЬЕВІЧ

Нарадзіўся 7 жніўня 1954 года. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Кандыдат гістарычных навук. Абраны дэпутатам ВС ад Мірашнічэнкаўскай кругі 33 г. Менска.

Намесьнік старшыні Камісіі ВС па адукацыі, культуры і захаваньні гістарычнай спадчыны. Сябра Камісіі ВС па міжнародных справах і зьнешнеэканамічных сувязях.

Намесьнік старшыні Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня

1991 г. , на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар Канцэпцыі пераходу Беларускай ССР на рыначную эканоміку (восень 1990 г), шэрагу законапраектаў, у тым ліку ў галіне культуры і адукацыі.

Удзельнік галадоўкі 11-12 красавіка 1995 г. у Авальнай залі, абвешчанай ў знак пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам т. зв. „рэфэрэндуму” аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымвалаў Гэрбу „Пагоня” і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.



## ХОЛАД ПАВЕЛ ІГНАТАВІЧ

Нарадзіўся ў 1935 годзе. Скончыў Беларускі Тэхналягічны інстытут. Абраны дэпутатам ВС ад Плешчаніцкай акругі 67 Менскай вобласьці.

Сябра Камісіі ВС па ахове здароўя, фізічнай культуры і сацыяльнаму забесьпячэньню. Сябра часовай камісіі ВС па ацэнцы дзеяньняў змоўшчыкаў ГКЧП і падтрымаўшых іх грамадзка-палітычных ўтварэньняў, органаў дзяржаўнай улады і кіраваньня, службовых асобаў і грамадзянаў (1991 г.).

Сябра Ценевага Кабінету (ураду) Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Кіраўнік Міністэрства фізічнай культуры і спорту.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар шэрагу законапраектаў Апазыцыі БНФ.

У кастрычніку 1993 году ўдзельнічаў у сустрэчы са старшынём ВС С. Шушкевічам, на якой Апазыцыя БНФ патрабавала спыненьня антыканстытуцыйнай дзейнасьці ўраду Кебіча, стварэньня кааліцыйнага ўраду, прыняцьця неадкладных захадаў у мэтах абароны дзяржаўнага суверэнітэту і прадухіленьня спаўзаньня краіны да аўтарытарызму.



## ШУТ АЛЯКСАНДАР АЛЯКСАНДРАВІЧ

Нарадзіўся 5 траўня 1952 года. Скончыў Менскі Мэдычны інстытут. Абраны дэпутатам ВС ад Лагойскай акругі 66 Менскай вобласьці.

Сябра Камісіі ВС па справах жанчын, аховы сям'і, мацярынства і дзяцінства, Часовай камісіі ВС па ацэнцы дзеяньняў змоўшчыкаў ГКЧП і падтрымаўшых іх грамадзка-палітычных ўтварэньняў, органаў дзяржаўнай улады і кіраваньня, службовых асобаў і грамадзянаў (1991 г.). Сябра Часовай Камісіі ВС па ацэнцы дзейнасьці службовых і іншых адказных асобаў сувязі з ліквідацыяй наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Сябра Ценевага Кабінету (ураду) Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, кіраўнік Міністэрства аховы здароўя.

Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г. , на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі.

Сааўтар Канцэпцыі пераходу Беларускай ССР на рыначную эканоміку (восень 1990 г), шэрагу законапраектаў.

Удзельнік галадоўкі 11-12 красавіка 1995 г. у Авальнай залі, абвешчанай ў знак пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам т. зв. „рэфэрэндуму" аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымвалаў Гэрбу „Пагоня" і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.

---

(Зьвесткі пра дэпутатаў па кнізе „Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь. Дванаццатае скліканне. – Мінск, „Беларусь", 1992" падрыхтаваў, апрацаваў і дапоўніў Сяргей Навумчык).

# СЛОВА ПРА КАЛЕГ І СЯБРОЎ

Крыху пажыўшы на сьвеце, аж так, што пачынаеш азірацца назад, заўважаеш, як добра збудавана прырода чалавека. Мінае час, і ў памяці застаецца толькі добрае, сьветлае, дарагое. Памяць несьвядома дастае зь мінулага сьветлыя часіны, цёплыя карціны, аблічча і вобразы, якія саграваюць далейшае існаваньне. Наша асабістая чалавечая гісторыя асьвятляе нам шлях, і каб нам лепш было па ім рухацца, памяць выключае дрэннае з галавы.



*100. З. Пазьняк.*

Час у Вярхоўным Савеце быў надзвычайна цяжкі для мяне. Я ня ведаў ні адпачынку, ні выхадных усе больш чым пяць з паловай гадоў. Але засталося з тых часоў у памяці самае сьветлае, што грэе душу. Асабліва нашае салідарнае сяброўства.

За жыцьцё я найбольш удзячны сваёй маці, бабулі і ўсім дарагім сябрам, якіх у мяне было і ёсьць шмат. У дэпутацкай Апазыцыі я не заўважаў у нас нейкіх асабістых асаблівых прыхільнасьцяў ці прыярытэтаў. Мы ўсе былі адзін ад аднаго трошкі на адлегласьці, і ўсе былі сябрамі. Гэта было такое калектыўнае сяброўства аднадумцаў, якое нам удалося захаваць праз увесь час нашае працы і змаганьня. Цяпер, з далечыні і гістарычнай, і геаграфічнай, я ўспамінаю кожнага зь іх такімі, якімі былі яны (мы) усе 20 гадоў таму.

***Мікола Аксаміт*** з Ваўкавыску – заўсёды спакойны і ўраўнаважаны, добра валодаў лагічнай аргумэнтацыяй, любіў



101. М. Аксаміт.

абапірацца на факты, быў сьціплым чалавекам і змагаром. Ён не гаварыў шмат, ніколі не павышаў голасу, але агульную пазыцыю ведаў надзейна і цягнуў яе, не саступаючы.

***Віктар Алампіеў*** зь Пінску добра разьбіраўся ў эканоміцы, у сацыяльных пытаньнях. Умеў на сэсіях лягічна даводзіць патрэбную аргумэнтацыю, часам нягледзячы на сваё абурэньне. Мне прыходзілася езьдзіць разам зь ім і Іосіфам Сярэдзічам у Пінск да іхных выбаршчыкаў, якія выказвалі ім павагу і поўную падтрымку.

***Валянцін Голубеў*** – вясёлы прыемны малады чалавек са звонкім голасам і гумарам („апазыцыйны салавей”, як жартам называла яго намэнклятура). Валянцін сапраўды быў нашым салаўём, разумным і актыўным, лёгкім на ўздым, добрым выступоўцам у дыскусіях, цьвёрдым перамоўцам у міжнародных пытаньнях (уваходзіў у Камісію па міжнародных справах, пазьней займаў пасаду сакратара камісіі).



102. В. Голубеў.

***Мікалай Крыжаноўскі*** з Жодзіна – старэйшы за нас многіх, найсумленьнейшы чалавек, як кажуць пра такіх людзей. Добра ведаў эканоміку, разьбіраўся ў сістэме ўлады, умеў рабіць адэкватны аналіз і ўсё прапускаў праз сэрца; за ўсё, што нам на Беларусі марнавалі, трацілі, глумілі, ён перажываў. Гэта было відаць па ім адразу.

У палітыцы (у нашай палітыцы) патрэбныя былі людзі, якія з поўным правам маглі сказаць намэнклятурнаму апанэнту „Як вам ня сорамна!”. І вінаваўцу цяжка было на гэта нешта сказаць.

***Сяргей Навумчык*** – дэпутат з нашай фронтаўскай моладзі, але сталы па розуму; чалавек па прыродзе сваёй вясёлы, роўны, як кажуць пра такіх людзей, – пазытыўны, прытым валодаў прафэсійным уменьнем пяра. У палітыцы меў здольнасьць (перанятую, відаць, ад журналістыкі) апынуцца там, дзе трэба, у патрэбным месцы, дзе былі важныя падзеі, і акуратна прадстаўляць фронтаўскія інтарэсы. Па прыродзе ён чалавек дабразычлівы і абсалютна не агрэсіўны. Тым ня менш, аднойчы, выйшаўшы з залі сэсіі ў фае, ён убачыў, што наверх падымаецца Жырыноўскі. Ня доўга думаючы, Навумчык спусьціў яго зь лесьвіцы. (Сьведкам і ўдзельнікам гэтага інцыдэнту быў наш інтэлігентны да шпіку ў касьцях Пётра Вікенцевіч Садоўскі). Скаціўшыся ў ніз, маскоўскі блазен доўга лямантаваў, што „заберет Белоруссию” і Навумчыка „повесит на первом столбе”.


*103. П. Садоўскі.*

Навумчык быў блізкі да Васіля Быкава, ён адзін з тых людзей, якія спрыялі вялікаму пісьменьніку ў час знаходжаньня яго за мяжой.

***Пётра Садоўскі*** – чалавек добра вядомы ў вучоных колах, эрудыраваны і адукаваны, дасканала валодаў шматлікімі замежнымі мовамі, быў адзіным апазыцыянерам, якога нам удалося правесьці на старшыню парляманцкай Камісіі па замежных справах (уваходзіў у склад Прэзыдыюму Вярхоўнага Савета). Пазьней стаў першым беларускім амбасадарам у Нямеччыне. Знаўца куртуазнай палітыкі. Удзельнічаў у галадоўцы дэпутатаў Апазыцыі 11-12 красавіка 1995 года.


*104. С. Навумчык.*

***Юры Беленькі*** – адзін зь нямногіх нашых апазыцыйных дэпутатаў, што застаўся ў па-за парляманцкай


105. Ю. Беленькі.

палітыцы. Фінансіст, дорбра ведае фінансы і эканоміку, умеў нязмушана камунікавацца зь людзьмі розных узростаў, у складаных абставінах захоўваў яснасьць думаньня і спакойную волю – якасьці вельмі важныя для палітыка. Мы спрыялі, каб ён павышаў сваю кваліфікацыю і адукацыю за мяжой, маючы на ўвазе будучы беларускі ўрад вольнай Беларусі.

***Уладзімер Заблоцкі*** – сябра з катэгорыі нашых старэйшых дэпутатаў. Добра ведаў эканоміку, быў генератарам многіх эканамічных праграмных ідэй Апазыцыі. Чалавек салідны, але, як усе ў нашай Апазыцыі, вясёлы і без ніякага чванства (гэтым, дарэчы, нашыя дэпутаты рэзка адрозьніваліся ад некаторых суб'ектаў камуністычнай намэнклятуры). Заблоцкі быў прэмер-міністрам Ценявага Ўраду Апазыцыі БНФ і першай нашай кандыдатурай на кіраўніка Ўраду ў выпадку нашай перамогі на выбарах у 1994 годзе. (Другой кандыдатурай – гэтыя пляны я не раскрываў – быў Юры Беленькі, трэцяй – Генадзь Карпенка, які сам мне тое прапанаваў.)


106. А. Трусаў.

Са шчымленьнем згадваю ***Ігара Гермянчука***. Ён ужо не жыве. Памёр у росквіце жыцьця і творчасьці. Першае наша пяро – рэдагаваў знакамітую *„Свабоду"*. Ігар быў чалавекам сьціплым і нешматслоўным, заўсёды ўдзельнічаў у парляманцкіх дыскусіях і паседжаньнях Апазыцыі. Зь вялікімі выступамі выходзіў ня часта, але прамаўляў добра, асабліва на эмацыйным уздыме. Памятаю аднойчы на такім ўздыме ён гаварыў гэтак даходліва, саркастычна, з гумарам і сэнсоўна, што раскалоў намэнклятуру ў зале, частка яму нават пляскала. Гэта стыль, якім ніхто з намэнклятуры не валодаў.

***Алега Трусава*** я ведаю яшчэ з апошняга курсу ягонай студэнцкай лаўкі і асьпірантуры. Гэты чалавек вырастаў у беларускага дзеяча на маіх вачах. Яго прафэсія і зацікаўленасьць – гэта археалогія і навука. Аднак, эпоха (як і шмат каго тады) паклікала яго ў палітыку. І тут, у Вярхоўным Савеце, спатрэбіліся ягоныя веды, эрудыцыя і адданасьць Беларусі. Адметная рыса яго характару – аптымізм. Алег умеў спакойна і доказна паводзіць сябе ў самай вострай дыскусіі ў парляманце, ніколі не губляўся і не кіпяціўся, як некаторыя камуністы, захоўваў цьвярозы розум і не кідаўся ў паніку там, дзе была рэальная пагроза (напрыклад, у час нашай галадоўкі, калі ноччу рэжым увёў войска ў парлямант і разыгрываліся драматычныя падзеі, ён з Б. Гюнтарам пераканалі палкоўніка, камандзіра сапёраў, скласьці пратакол агляду памяшканьня, што „мінаў няма”, а калі зьявілася першая „група захопу,” Трусаў найбольш даходліва тлумачыў ім, у чым яны парушаюць Канстытуцыю і як за гэта рэалізуецца адказнасьць. Група рэціравалася). Трусаў заўсёды быў актыўным абаронцам беларускай мовы; не выпадкова, што пазьней яго выбралі на старшыню ТБМ.

***Сяргей Антончык***, вядомы змагар з камуна-савецкім рэжымам, душа-чалавек, з кемлівым прыродным розумам і сяброўскім характарам. У беларускім руху з самага пачатку, з 1988 года, калі ўсё пачынала бурлець; адзін з заснавальнікаў тады беларускага рабочага руху. У Апазыцыі БНФ займаўся найбольш пытаньнямі сацыяльнай справядлівасьці, за што намэнклятура стойка яго ненавідзела. Апагея гэтая нянавісьць дасягнула ў 1995 годзе, калі ўсталяваўся антыбеларускі рэжым. У час забастоўкі працаўнікоў мэтро ў Менску яго нават таемна схапілі (выкралі), увязьнілі ў нейкай



*107. С. Антончык.*

ваеннай частцы. Ніхто ня ведаў, дзе ён. Дэпутатам Апазыцыі (С. Навумчыку і інш.) прышлося прыкласьці шмат намаганьняў перад новымі цынікамі ва ўладзе, каб Антончыка выпусьцілі.



108. М. Маркевіч.

***Мікола Маркевіч*** – дэпутат з Горадні, зьнешне крыху падобны на Валянціна Голубева і з такім жа звонкім голасам. Можна было падумаць, што яны браты. Але на справе яны і былі браты па духу ў нашым апазыцыйным дэпутацкім брацтве.

Мікола – самы малады наш дэпутат, чалавек фізічна моцны (самбіст), лагодны, усьмешлівы і салідарны, з сэрцам, што баліць за Беларусь. Добра праявіў сябе ня толькі ў парляманце, але і ў пазапарляманцкай дзейнасьці. Кіраваў арганізацыяй „Бацькаўшчына" ў Горадні, і галоўнае – выдаваў і рэдагаваў ці ня самую папулярную пасьля *„Свабоды"* газэту *„Пагоня"* фронтаўскага накірунку. Антыбеларускі рэжым ліквідаваў гэтую газэту (гэтак жа, як і „Свабоду") і ўжо пазьдзекваўся зь вядомага дэпутата, грамадзкага дзеяча і выдаўца, як толькі мог (засудзілі нават на „хімію", пазбавілі працы, магчымасьці зарабляць на жыцьцё). Дух нашага сябра нязломны, але жыць пад цемрай вельмі цяжка, як шмат каму з апазыцыйных дэпутатаў.



109. Л. Баршчэўскі.

***Лявон Баршчэўскі*** таксама адзін з тых нашых сяброў, які застаўся ў па-за парляманцкай палітыцы. Палітычны шлях яго пасьля парляманту склаўся даволі няпросты і пакручасты. Але тады, калі мы жылі ў парляманце адной мэтай, адным змаганьнем і адным апазыцыйным брацтвам, Лявон Баршчэўскі (як я для сябе адзначаў) уваходзіў у катэгорыю нашай галоўнай ударнай сілы. Інтэлектуал з выдатным веданьнем

літаратуры і замежных моваў, творчая асоба, ён адначасна быў такім чалавекам, які здольны знаходзіцца і дзейнічаць у партыі, у калектыве (пачуцьцё абавязку, адказнасьць, выканаўчая дысцыпліна, ініцыятыўнасьць у межах задачы і г. д.).

Баршчэўскі часта езьдзіў у маёй групе з выступамі па гарадах і мястэчках Беларусі. Дні былі цяжкія, часам прыходзілася выступаць па 5-7 разоў на дзень у розных аўдыторыях і гарадах. Вярталіся позна ноччу. І тады наш мікра-аўтобус гучэў сьпевамі аж да Менска. І калі ўжо перасьпявалі ўсё, хто што ведаў, нязьменна заставаўся пераможца Баршчэўскі і сьпяваў свай „Слонімскі вальс”.

***Барыс Гюнтар*** – дэпутат з Гомеля. Гэта прадстаўнік так званай рабочай інтэлігенцыі, людзей, якія вылучаліся з свайго асяроддзя добрымі ведамі, розумам, арганізацыйнай актыўнасьцю, уменьнем гаварыць, карысталіся павагай. Гюнтар быў актыўным дэпутатам Апазыцыі, гаварыў на сэсіях па справе і талкова, ведаў сацыяльную сфэру і адносіны, прафсаюзнае заканадаўства і г. д. Усё гэта спрыяла добраму балансу сілаў у нашай Апазыцыі. Гюнтар быў чалавекам роўным і назіральным, меў разумны падыход да людзей. У гэтым я пераканаўся таксама ў час нападу войска на дэпутатаў парляманту ў ноч з 11 на 12 красавіка 1995 г.

***Галіна Сямдзянава*** (без перабольшаньня скажу) была своеасаблівай зоркай нашай Апазыцыі. Асабліва яна стала вядомая, калі 24 жніўня 1991 г. на сэсіі Незалежнасьці дэпутаты кінуліся напярэймы вытурваць Малафеева. Тут яна сваёй рашучасьцю сыграла галоўную ролю, загарадзіўшы „персеку” дарогу і не пускаючы яго на трыбуну. Малафееў выпучыў вочы і ня ведаў, што рабіць. Напэўна, адзін няправільны рух зь яго боку, і ён быў бы жорстка падрапаны і выкінуты з парляманту.


110. Г. Сямдзянава.

Цяпер гэта ўспрымаецца спакойна, некаторымі нават весела, але тады было не да жартаў (гэта быў вельмі важны момант на сесіі).

Як і да ўсялякай жанчыны, да Сямдзянавай павінен быў быць падыход. Здаецца, усе рыцары нашай Апазыцыі выдатна гэта разумелі, але, што цікава, у зале сэсіі ці ня самым дакладным (у сэнсе выкананьня тактыкі) і дысцыплінаваным рыцарам была якраз Галіна Сямдзянава. Яна заўсёды выконвала тое, пра што дамовіліся, усялякія зьмены ці новыя павароты тут жа ўзгадняла, выдатна бачыла залю і адчувала яе настрой, тут жа (праз запіску ці іншым спосабам) інфармавала старшыню Апазыцыі. Увогуле, яна добра разумела стыхійную сутнасьць таго Вярхоўнага Савета і псіхалёгію намэнклятуры, умела міла перакінуцца сьвецкімі слоўцамі зь якімі-небудзь „товарищами" і шмат даведацца, бо была проста разумнейшай за іх.

***Генадзь Грушавы*** прышоў у Фронт вясной 1989 года і неўзабаве ачоліў фронтаўскую арганізацыю „Дзеці Чарнобыля". Пазьней яна стала самастойнай структурай. У дэпутацкай Апазыцыі БНФ найбольш актыўна Грушавы праявіў сябе ў пачатку (у 1990 годзе). Потым штораз болей яго забірала дзейнасьць па чарнобыльскіх праблемах аздараўленьня дзяцей, і ён рэдка бываў у парляманце, часьцей за мяжой. Тым ня менш, ён заставаўся ў Апазыцыі, галасаваў строга, як уся Апазыцыя, і падпісваў усе заявы і дакуманты БНФ (на пэрыяд яго знаходжаньня ў Беларусі, вядома). Грушавы гаварыў ня шмат, асабліва на публіку. У Вярхоўным Савеце ён быў стрыманы і асьцярожны, часьцей маўклівы, вылучаўся гнуткай і практычнай арганізацыяй розуму (я гэта ведаў і цаніў). Генадзь Грушавы

добра дапамог у практычным правядзеньні Установчага зьезду БНФ у чэрвені 1989 года ў Вільні.

***Сяргей Слабчанка*** актыўна ўдзельнічаў у Апазыцыі ў 1990-1991 гадах. Потым, як я ўжо пісаў, заняўся практычным стварэньнем беларускіх грошай. Тут была ўжо новая палітыка ўраду, які здаўся пад ціскам абставінаў. Слабчанка да канца заставаўся ў Апазыцыі, галасаваў у рэчышчы Апазыцыі, падпісваў дакуманты Апазыцыі і г. д., хоць у апошні час прысутнасьць яго ў Вярхоўным Савеце была ня частай. Цяпер Слабчанка жыве за межамі Беларусі.

Вельмі карысным дэпутатам у Апазыцыі БНФ быў ***Лявон Дзейка***. Ён рэгулярна ўдзельнічаў у паседжаньнях і працы Апазыцыі, выступаў у дыскусіях, але асаблівае было ў тым, што ён запісваў на партатыўны магнітафон паседжаньні Вярхоўнага Савета, дыскусіі, часам фатаграфаваў, рабіў розныя запісы і зацемкі. Гэта ён здолеў сфатаграфаваць у ноч з 11 на 12 красавіка 1995 г. спраўцаў вайсковага нападу на дэпутатаў. Агоныя здымкі фігуравалі ў сьледзтве пракуратуры, а цяпер усё, што ён занатаваў, мае значэньне для гісторыі нашай краіны.

***Лявон (Лявонці) Зданевіч*** – у 1990 годзе прышоў у Вярхоўны Савет як малады архітэктар, творчая асоба, але ў Апазыцыі займаўся зямельным пытаньнем, быў асноўным распрацоўшчыкам апазыцыйных законаў аб зямлі і канцэпцыі разьвіцьця беларускай сельскай гаспадаркі. Справа ў тым, што Лявонці меў дзьве зацікаўленасьці і без перабольшаньня скажу – два захапленьні: архітэктуру і зямлю. Зямлю ён любіў, ведаў, разумеў, вывучаў заканадаўства пра зямлю, умеў яе апрацоўваць, вырошчваў дзіўныя расьліны, памідоры па паўпуда і агуркі, як



*111. Л. Зданевіч.*

дом (гэта, вядома, перабольшаньне, але не нашмат). Ад любові да зямлі і разумнага да яе падыходу было і такое глыбокае веданьне зямельнага права.

***Віктар Какоўка*** – дэпутат з Наваполацку. Вельмі жывы і актыўны чалавек. Цікавіўся эканомікай і вытворчымі адносінамі. Як правіла, ён удзельнічаў у дыскусіях, любіў часам патэарэтызаваць, меў крытычна настроены розум. На жаль, яму крыху не пашанцавала – у сваім актыўным узросьце (будучы ў Вярхоўным Савеце) ён перанёс інфаркт. Па вялікаму кошту, гэта была і наша агульная бяда, бо датычыла ўсіх нас. Мы ўсе ўжо ведалі, што здароўе ёсьць чыньнік палітыкі. Віктар Какоўка дзейнічаў у Апазыцыі ўвесь час, але стан свой вымушаны быў улічваць.



*112. С. Папкоў.*

***Сяргей Папкоў*** – дзеючы палітык па сёньняшні дзень. Папкоў з тых людзей, якія, як бы нічым не вылучаюцца, не блішчаць востраслоўем, не зьвяртаюць на сябе ўвагу і ня любяць рабіць уражаньне пра сваю асобу. Тым часам Папкоў вельмі добры сістэмны аналітык, прафэсійна разьбіраецца ў сістэмным аналізе, выдатна адчувае сувязі зьяваў у палітыцы, сутнасьць палітычных працэсаў. Па сваіх інтарэсах больш заглыблены ў эканоміку.

Чалавек самадысцыплінаваны і надзейны. Памятаю, каб выжыць з сям’ёй у цяжкіх 90-х, ён заняўся нейкім просьценькім прадпрыймальніцтвам, зарабляў мізер. Але часта ён прыходзіў тады ў сядзібу БНФ і даваў на Фронт 100-200 даляраў („Я тут, – кажа, – крыху зарабіў”) і зьнікаў. Гэтакія паводзіны характарызавалі чалавека, які жыў для Беларусі, нідзе пра гэта ня звонячы.

***Віталь Малашка*** добра ведаў і адчуваў эканоміку. Выступы яго ў гэтай вобласьці былі ўзважанымі і сэнсоўнымі, яны

былі патрэбныя, асабліва калі паляміка йшла па эканамічных законах. Ён быў актыўным дэпутатам Апазыцыі з крытычнай настроенасьцю і непрыняцьцем савецкай намэнклятурнай сістэмы. Удзельнічаў у парляманцкай галадоўцы 11-12 красавіка 1995 г.




*113. С. Сярэдзіч, З. Пазьняк, С. Навумчык, Л. Баршчэўскі, У. Заблоцкі. 1995 г.*

***Вольга Галубовіч*** – наша дэпутатка, якая спрыяла добраму абліччу Апазыцыі ўжо самой сваёй паставай – высокая, прыгожая, з далікатным абыходжаньнем зь людзьмі. Яна была стрыманай і не ўключалася ў пытаньні, якім лепш валодалі іншыя, трымала агульны тонус Апазыцыі. Але цікава, што як толькі ўзьнікалі сытуацыі датычна лёсавых вызначэньняў Беларусі, мовы, культуры, Вольга, як кажуць, была тут як тут, мы чулі яе голас і аргумэнты. Нават на тым здымку, што на вокладцы гэтай кнігі, Вольга не выпадкова стаіць з намі са сьцягам і з рашучым выглядам. Цяпер Вольга Галубовіч жыве за межамі Беларусі.

***Алесь Шут*** – намесьнік галоўнага лекара шпіталю, дэпутат з Лагойска, сьветлая асоба ў Апазыцыі. У Фронт яго прывяло сэрца і баленьне за Беларусь. Я быў сьведкам нялёгкага расставаньня Алеся з камуністычнай партыяй. Гэта было душэўнае змаганьне і пераасэнсаваньне шмат чаго. Магчыма, ён меў да гэтага нейкія ілюзіі. Я не задаваў пытаньняў і ня ўмешваўся, не штурхаў, казаў толькі пра антыбеларускую сутнасьць і злачынствы гэтай арганізацыі, злачынствы супраць чалавецтва. Алесь усё пераасэнсаваў сам. Гэта была яго воля, яго рашэньне, яго разьвіцьцё асобы. Дарэчы, праз расставаньне з кампартыяй прайшла амаль трэць Апазыцыі, але для астатніх яно было ўжо чыста фармальным актам.



*114. Сябры-дэпутаты ў гасьцях у Лявонція Зданевіча з нагоды ягонага шлюбу. Зь лева на права С. Антончык, Ірына Голубева, В. Голубеў, З. Пазьняк, Ю. Беленькі, Алена і Лявонці Зданевічы, С. Навумчык, У. Заблоцкі, Л. Баршчэўскі, 1992 г.*

***Павел Холад*** – дэпутат з Плешчаніцаў, сусед Алеся Шута, старэйшы ад нас ўсіх, быў чалавекам іншай загартоўкі; звычайна, калі бачыў несправядлівасьць, то да трох не лічыў,



мог адсьцябаць з ходу. Ён займаў кіруючую пасаду, але ў Вярхоўным Савеце выступаў, як правіла, крытычна, рэзка і не зважаючы на асобы.

Шчымлівую памяць пакінуў пасьля сябе ***Ігар Пырх***. У ім жыло неспатоленае жаданьне да справядлівасьці і адначасна

– непрыняцьце ўсёй гэтай савецкай адміністрацыйна-уладнай сістэмы з усімі яе цёмнымі справамі, якія ён ведаў, будучы фармальна ахоўнай часткай гэтай сістэмы.

Я ўжо пісаў, што Ігар быў франтавец па духу і поглядах! Ён казаў мне, каб лічылі яго франтаўцам. Але кіруючая пасада ў гомельскай міліцыі стрымлівала яго ад адкрытай пазыцыі. Ды й ня трэба было зьнешняй маніфэстацыі, мусіла быць праца (пра гэта я таксама яму казаў). Ігар Пырх (як я ўжо адзначыў) узначальваў Камісію Вярхоўнага Савета па рассьледваньні ў Беларусі дзеяньняў ГКЧП. Намэнклятура напружыла ўсе сілы, каб пакласьці пад сукно вынікі дасьледваньняў Камісіі.

Пырх езьдзіў у Вільню ў студзені 1991 г. у складзе дэлегацыі Апазыцыі БНФ ў час крызісу і пагрозы там незалежнасьці (дэлегацыю стварылі па маёй парадзе ў складзе Б. Гюнтара, І. Пырха, С. Навумчыка). Тады мы падтрымалі летувісаў. Сяргей Навумчык выступаў у Сэйме, нашы апазыцыйныя дэпутаты гатовыя былі застацца ў будынку Сэйма на выпадак савецкага штурму парляманта. (Пырх спатыкаўся тэт-а-тэт са сьпікерам Ляндсбэргісам па пытаньнях узброенай абароны.)

Пры ўсёй яго саліднасьці і палкоўніцкім званьні, Ігар Пырх быў эмацыйным чалавекам. Ягоныя эмоцыі мелі ўнутраны характар. Ён шмат што перажываў і браў да сэрца. Шкадаваў, што з-за хваробы ня мог удзельнічаць у нашай парляманцкай галадоўцы ў 1995 годзе, прасіў, каб мы яго ўмоўна залічылі ў наш пратэст. Урэшце сэрца Ігара Пырха спынілася.

Як і Ігар Гермянчук, ён заўчасна пайшоў з гэтага сьвету. Тое напружаньне і барацьба, якую мусілі перажыць нашы апазыцыйныя дэпутаты, не мінулі бясьследна. Беспрацоўе, беднае жыцьцё, выгнаньне і сьмерць – вось расплата за свабоду і незалежнасьць пад уладай цемры, якая настала пазьней.

Але кожны з нас зазнаў шчасьце. Шчасьце ***25 Жніўня 1991 года***. Шчасьце свабоды і незалежнасьці Бацькаўшчыны, шчасьце перамогі, якое ні з чым нельга параўнаць, якое ня кожнаму чалавеку ў жыцьці выпала пераўжыць.

Скончыцца час цемры, і зноў над Беларусяй узьвеецца наш сьвяты ***Бел-Чырвона-Белы Сьцяг***, вернецца наша ***Пагоня*** і воля, зьявяцца сьветлыя аблічча і ўсьмешкі на тварах людзей. Тады шмат што пераменіцца, бо вернецца памяць, безь якой ня можа існаваць культурная нацыя. Тады людзі, што змагаліся за свабоду і волю Бацькаўшчыны, зноў прыдуць ў духоўнае жыцьцё краіны, і ніякая цемра ўжо ня зьнішчыць іхны пачын, пакуль будзе жыць культура і вольны народ. А яны будуць жыць.

*5 студзеня 2010 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***



*115. Сьцяг БНФ.*

# ПАКАЗЬНІК ПРОЗЬВІШЧАЎ

**А**



**Б**

**В**



**Г**



**Д**

# ДАДАТАК У ФАТАГРАФІЯХ. КАРЦІНЫ 90-Х



*116. 26-га лютага 1990 года. Стотысячны перадвыбарчы мітынг БНФ на плошчы Леніна (Незалежнасьці) у Менску.*



*117. 7-га лістапада 1990 года. Менск. Першая ў СССР масавая антыкамуністычная дэманстрацыя ў Менску, арганізаваная БНФ. Міліцыя ахоўвае памнік Леніну.*



*118. Вярхоўны Савет, 1990 г. Даклад камісіі па Чарнобылю. Дыскусія. Ля мікрафона З. Пазьняк.*



*119. Вярхоўны Савет, 1990 г. Даклад камісіі па Чарнобылю. Дыскусія. Ля мікрафона з права на лева: В. Голубеў, У. Новік, П. Садоўскі.*




*120. Вярхоўны Савет, 1990 г. Даклад камісіі па Чарнобылю. Дыскусія. Ля мікрафона М. Крыжаноўскі. Зь лева І. Гермянчук.*




*121. 26-га красавіка 1989 года. „Гадзіна смутку і маўчаньня па ахвярах Чарнобыля,” арганізаваная*
*пад гукі чарнобыльскага звона ў памяць аб памнрлых ад радыяцыі.*



*БНФ. 10 тысячаў беларусаў на працягу гадзіны стаялі моўчкі на плошча Леніна (Незалежнасьці)*



*122. Пакой Апазыцыі БНФ 24 жніўня 1991 г. Апошнія секунды перад выхадам у Авальную залю на гістарычную Сэсію Незалежнасьці. (Кінакадр).*



*123. Пачатак гістарычнай Сэсіі Незалежнасьці. Выступае П. Холад. Зь лева (у кадры) устаў У. Заблоцкі. (Кінакадр).*

# ЗЬМЕСТ





*124. Сьцяг Беларусі.*

УДК 323 1(И76) (091)
Н15

ДЭПУТАТЫ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

*Грамадзка-палітычнае выданьне*

*Надрукавана пры фінансавай падтрымцы Беларускай фундацыі імя Рамуальда Траўгута ў Варшаве і на сродкі аўтараў. Выдавец выказвае падзяку спадару Юры Лапіцкаміу (ЗША) за грашовае ахвяраваньне на выданьне гэтай кнігі.*

**Сяргей Навумчык-Зянон Пазьняк.**
**ДЭПУТАТЫ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ.** – Выданьне:
„Беларускія Ведамасьці”; Таварыства Беларускай
Культуры ў Летуве, – Варшава--Нью-Ёрк, Вільня, 2010. –
304 с.: іл., 1/32 арк.
Зборнік артыкулаў аб падзеях беларускай нацыянальнай рэвалюцыі ў пачатку 90-х гадоў, аб здабыцьці незалежнасьці ў жніўні 1991 г., аб палітыцы і дзеяньнях дэпутатаў Апазыцыі БНФ ў Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня (1990-9.01.1996).
Кніга пасьвечана ХХ-годдзю незалежнасьці Беларусі.
Выданьне разьлічанае на шырокага чытача.
УДК 323 1(И76) (091) Н15
ISBN-978-9955-578-11-6
Код: 9789955578116

Мастацкае афармленьне, вокладка, макет,
укладаньне і падрыхтоўка да друку: *Зянон Пазьняк*.
Кампутарны склад па макету: *Робэрт Стаховіч*.
Карэктура, кампутарны набор: *Галіна Палачаніна*.
Друк: QLCO.
Наклад: 1600 асобнікаў.
Аддрукавана: у красавіку 2010 г. у Варшаве.
Папера: крэйдавая, фармат 68 x 86, 1/32 арк.
Ул. выдавецкіх арк.: 4,74.
Ум. друк. арк.: 13,3.

*Выдавец
выказвае падзяку спадару Віталю Пузачу
за тэхнічную дапамогу ў падрыхтоўцы
матэрыялаў гэтай кніжкі.*

------------------------------------------------------------------------------

„Беларускія Ведамасьці”, Варшава 02-017, вул. Ерузалімскія
алеі, 125/127; ТБК ў Летуве, Вільня 02155, вул. Бролю, 9 – 86

------------------------------------------------------------------------------

**ISBN-978-9955-578-11-6**

Код: 9789955578116

